# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

№ 1 (101) СТУДЗЕНЬ - САКАВІК 2023 г.


# Лідзе - 700 гадоў
# 1323 - 2023



# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

**№ 1 (101) СТУДЗЕНЬ - САКАВІК 2023 г.**

## *У НУМАРЫ:*



На першай старонцы вокладкі: *Юзаф Пешка (19.02.1767. Кракаў - 4.9.1831). Лідскі замак. Акварэль, 1800 г.*

Выдаецца ў адпаведнасці з п. 7.4 артыкула 13 ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ “Аб сродках масавай інфармацыі” ад 17 ліпеня 2008 г. № 427-З

Выдавец:
**Прыватнае ўнітарнае прадпрыемства “Пружмень”**

Рэдактар:
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
231293, г. Ліда, вул. Лётная, 7 а.
**АДРАС САЙТА:**
http// nslowa.by

Наклад 150 асобнікаў
9 друк. аркушаў

Часопіс падпісаны да друку 31.03.2023 г.

Часопіс надрукаваны 21.06.2023 г. у Лідскай друкарні: 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.

Замова № 1780.

ISSN 2218 – 1792







? *

Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: kajety@list.ru

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў

# Дзень роднай мовы і 16-я Агульнацыянальная дыктоўка на Лідчыне

## Як праходзіла Рэспубліканская дыктоўка

Міжнародны дзень роднай мовы - цудоўнае свята. Яно было заснавана ў 1999 годзе рашэннем Генеральнай сесіі ЮНЕСКА і штогод адзначаецца 21 лютага. Беларусь не стала выключэннем. У нашай краіне Дзень роднай мовы адзначаецца шэрагам мерапрыемстваў. Адно з іх - Рэспубліканская дыктоўка, ініцыяваная старшынём Прэзідыума НАН Беларусі акадэмікам Уладзімірам Гусаковым.




Дырэктар Інстытута лінгвістыкі імя Якуба Коласа Ігар Капылоў з прыемнасцю адзначыў, што цікаўнасць да дыктоўкі з кожным годам толькі расце. Па яго словах, у гэтым годзе на яе запісалася больш за 9 тысяч людзей. Прадстаўлены ўсе 118 раёнаў Беларусі. Акрамя таго, ёсць удзельнікі з-за мяжы: з Канады, Італіі, Германіі, Чарнагорыі, Сербіі, Грузіі і нават з далёкай Аляскі.




Сёлета тэкст для дыктоўкі быў абраны невыпадкова. "Беларусь - краіна- мара" - менавіта такая назва ў тэкста, напісанага Уладзімірам Гусаковым спецыяльна для гэтага мерапрыемства. Там распавядаецца пра прыгажосць нашай прыроды, пра няпростую гісторыю краіны, пра тую веліч, якой дасягнула Беларусь у мірны час.




Самыя граматныя ўдзельнікі атрымалі пасля дыктоўкі падарункі: тлумачальныя слоўнікі і сертыфікаты пра ўдзел у Рэспубліканскай дыктоўцы.

## Дыктоўка з марамі Максіма Гарэцкага

Дзень роднай мовы ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце адзначылі агульнаўніверсітэцкай дыктоўкай. Для чытання быў абраны фрагмент з твораў Максіма Гарэцкага, чыё 130-годдзе мы адзначылі напярэдадні. Агучыць прачулыя, мудрыя і сакавітыя словы класіка была запрошана пісьменніца, загадчык аддзела культуры газеты "Звязда" Людміла Рублеўская.




Прыняць удзел у пачэснай акцыі, каб выказаць любоў і павагу да беларускай мовы, прыйшло больш

за паўтары сотні студэнтаў, а таксама выкладчыкі ўніверсітэта.



## Міжнародны дзень роднай мовы ў Гарадзенскім медыцынскім універсітэце

Міжнародны дзень роднай мовы ў Гарадзенскім медыцынскім універсітэце традыцыйна адзначылі напісаннем дыктоўкі, якая гэтым разам была прысвечана 65-годдзю стварэння ГрДМУ. У дыктоўцы прынялі ўдзел студэнты, выкладчыкі, супрацоўнікі ўніверсітэта.





## Дыктоўка і Дзень роднай мовы ў бібліятэках Лідскага раёна

18 лютага старт напісанню 16-й Агульнанацыянальнай дыктоўкі на Лідчыне быў дадзены ў Мінойтаўскай бібліятэцы. Дыктоўкі тут пішуцца пачынальна з 4-й. Сёлета пісалі 11 чалавек. Тэкст "І гэты дзень настаў" чытала Ганна Чаславаўна Енка. Прыз за лепшы вынік ад газеты "Наша слова.pdf" атрымала Валянціна Сяргееўна Някрасава. Невялікія прызы былі ўручаны за 2-е і 3-е месцы. Завяршыў дыктоўку выступ вядомага лідскага барда Сержука Чарняка.



З нагоды Міжнароднага дня роднай мовы ў філіяле "Лідская гарадская бібліятэка №1" прайшоў урок беларусазнаўства "Як даўні скарб, як спадчына, нам даравана мова матчына". На мерапрыемстве ў выкананні вядоўцаў прагучалі вершы пра родную мову. Падчас свята дзеці пашырылі свой слоўнікавы запас і праявілі творчыя здольнасці.




У Міжнародны дзень роднай мовы ў філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 2" прайшло мерапрыемства "Родная мова - ты матчына мова!" у выглядзе гульні "Поле цудаў". Галоўная мэта гульні - далучэнне дзяцей да багацця беларускай мовы, выхаванне з маленства думкі, што ў чалавека ёсць толькі адна мова і назва ёй - беларуская.



У філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 3" прйшла гадзіна роднай мовы "Русскай мове дай разгрузку - размаўляй па-беларуску", прысвечаная Міжнароднаму дню роднай мовы. Удзельнікам мерапрыемства былі прапанаваны конкурсы: "Мова родная - народная", "Перакладзі", "Прыказкі і прымаўкі", загадкі "Загадкі-рыфмаванкі" і гульня "Размаўляем па-беларуску". Напрыканцы сустрэчы дзеці прынялі ўдзел у дыктоўцы.



21 лютага ў філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 4" адчыніўся куфар ведаў "Роднай мовы гук чароўны". Удзельнікі сустрэчы прымалі актыўны ўдзел у шматлікіх конкурсах, віктарынах, гульнях: "Адкажы на бліцапытанне", "Перакладзі словы на рускую мову", "Адгадай загадкі-жарты". З мэтай папулярызацыі беларускай мовы прысутныя прынялі ўдзел у 16-й Агульнанацыянальнай дыктоўцы. Кожны з удзельнікаў быў уважлівы, імкнуўся як мага лепш напісаць, разам з тым адчуў, што "слова беларускае - жывое, гаваркое, музычнае, напеўнае, непаўторнае".



Да Міжнароднага дня роднай мовы ў філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 6 імя В.Таўлая" была праведзена літаратурная гасцёўня "Сэрцам роднага слова краніся". На свята роднай мовы завіталі людзі розных прафесій і ўзросту, шмат было людзей, якія скончылі школу сорак і больш гадоў таму. Для прысутных у гэтым годзе была прапанавана дыктоўка "Лідскі замак", з напісаннем якой усе справіліся выдатна.






У філіяле "Лідская гарадская дзіцячая бібліятэка" прайшоў літаратурны дыялог "Я - беларус, і я шчаслівы, што мову маці мне дала". Дзеці ласкавымі словамі называлі нашу мову, паслухалі вершы пра Радзіму, беларусаў, мову, пазнаёміліся з беларускімі народнымі казкамі, паказалі сябе знаўцамі беларускіх загадак і паспрабавалі стаць перакладчыкамі.

Філіял "Інтэграваная бібліятэка агр. Бердаўка" запрасіў гасцей на гадзіну роднай мовы "Вы слухайце родную мову, як пявуча льецца і гучыць". На працягу мерапрыемства бібліятэкар імкнулася паказаць усю прыгажосць і непаўторнасць роднай мовы, распавяла аб тым, які шлях давялося прайсці беларускай мове, каб стаць адной з самых найпрыгажэйшых моў свету. Дзеці з цікавасцю прынялі ўдзел у гульні "Прачытай верш", у імпрэзе "Размаўляй са мной па-беларуску", успомнілі беларускія прыказкі і прымаўкі.



Паэтычная хваля "З родным словам круглы год" у аграгарадку Дворышча закранула шматлікіх жыхароў мястэчка. У дзень роднай мовы наведвальнікі філіяла "Інтэграваная бібліятэка агр. Дворышча" атрымалі кнігі беларускіх пісьменнікаў на роднай мове на сваіх працоўных месцах, каб затым, сваім прыкладам, заахвочваць сваіх дзяцей і родных да чытання на беларускай мове.



Тым жа днём у чытальнай зале Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы сабраліся супрацоўнікі бібліятэкі і чытачы для напісання 16-й Агульнанацыянальнай дыктоўкі да Міжнароднага дня роднай мовы. Тэкст дыктоўкі меў назву "Да 700-годдзя заснавання Ліды" і прысвячаўся знамянальнай даце (юбілею г. Ліды) і падрабязнаму знаёмству з біяграфіяй заснавальніка горада - князя Гедыміна.



## Яшчэ адна дыктоўка на 3-м філіяле

25 лютага на Лідчыне прайшла адна з апошніх дыктовак 2023 года. На 3-м бібліятэчным філіяле ў мікраараёне Маладзёжны сабраліся ветэраны нацыянальнага руху. Пяць чалавек, а ўсё ж. За спіной у кожнага звыш 30 гадоў дзейнасці.

Тэкст з аповесці Янкі Маўра “Чалавек ідзе” чытала загадчык філіяла Алена Янаўна Папковіч.







Пасля дыктоўкі адбыўся канцэрт лідскага барда Сержука Чарняка па заяўках удзельнікаў імпрэзы. Прагучалі ў тым ліку і песні з далёкіх 90-х гадоў.

## Дзень роднай мовы ў Палацы культуры і клубах Лідчыны

17 лютага на працягу ўсяго дня ў Палацы культуры г. Ліды праходзілі мерапрыемствы ў рамках святкавання Міжнароднага дня роднай мовы. Пачатак быў пакладзены актывацыяй "Вітаемся па-беларуску".










Наступныя імпрэзы, прайшлі пад знакам свята слова "Гаворыць сэрца роднай мовай".

Фіналам дня стала пастаноўка "Вось табе і гоцаца!" Слонімскага драматычнага тэатра.

Частка мерапрыемстваў перанеслася на наступныя дні.

У перыяд з 20 па 26 лютага 2023 года ва ўсіх філіялах (12 устаноў культуры) ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці" прайшлі Агульнанацыянальныя дыктоўкі, прымеркаваныя да гэтага дня ў рамках святкавання 700-годдзя горада Ліды па тэксце "Вялікі князь Гедымін!"





## Дыктоўкі ў Доміку Таўлая

По традыцыі Дом Валянціна Таўлая Лідскага гістарычна-мастацкага музея прыняў удзел у падтрымцы роднай мовы, да якой заклікаў у свой час заходнебеларускі паэт Валянцін Таўлай, які жыў калісьці ў гэтым доме.

Гэтым разам, напярэдадні Міжнароднага дня роднай мовы, 19 лютага адбылася 16-я Агульнанацыянальная беларуская дыктоўка. Як ніколі, у Доме паэта яна была арганізавана ў два этапы. Тэксты чытаў навуковы супрацоўнік музея Алесь Хітрун.

Спачатку на яе напісанне сабраліся дзеці вайны - прадстаўнікі ваенна-гістарычнай гасцёўні "Памяць за сабою пакліч". Для іх быў выбраны тэкст "І гэты дзень настаў" пад аўтарствам І. Бельскага. Тэкст быў адпаведны: нагадаў пра баявыя дзеянні па вызваленні Ліды ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 8 ліпеня 1944 года.



Падтрымаць родную мову сышліся і майстры прыгожага мастацкага слова - лідскія паэты, у якіх багата празаічных і вершаваных твораў не толькі пра горад, але і пра Лідскі замак. Тэкст так і называўся "Лідскі замак", кампіляваны Лідскай раённай бібліятэкай імя Янкі Купалы.



## Дзень роднай мовы ў школах, гімназіях і ліцэях Лідчыны

Сёлета ў рамках 16-й Агульнанацыянальнай дыктоўкі на Лідчыне пісалі чатыры віды дыктовак: Рэспубліканскую, Абласную, Купалаўскую і Лідскую.

Рэспубліканскую дыктоўку пісалі вучні старэйшых класаў 10-й школы і два чалавекі з СШ № 2 г. Бярозаўкі.






*Рэспубліканскую дыктоўку піша 10-я школа*

Абласную дыктоўку пісалі ўсе навучальныя ўстановы агульнай сярэдняй адукацыі Лідскага раёна.

У Абласной дыктоўцы ўзялі ўдзел 3524 чалавекі: вучні, бацькі і настаўнікі, з іх настаўнікаў -347 чалавек і бацькоў - 128 чалавек.



ГРОДЗЕНСКІ АБЛАСНЫ ДЫКТАНТ

*21 лютага 2023 года*

МУЗЕЙНАЯ ГАРА

Самы высокі бераг Нёмана ў Гродне здаўна называюць Замкавай гарой. На гэтым старажытным узвышшы знаходзяцца два знакамітыя музеі – Стары і Новы замкі. Калі пайсці туды, трэба не спяшацца пераходзіць з адной залы ў другую, і тады перад вачыма адкрыецца дзівосны свет нашай багатай гісторыі.

Стары замак некалі быў і абарончай крэпасцю, і палацам, і рэзідэнцыяй вялікага князя Вітаўта, караля Стэфана Баторыя. Замак будаваўся і перабудоўваўся, быў драўляным і каменным, а ў 2017 годзе пачалася маштабная рэстаўрацыя. У 2021 годзе гісторыка-археалагічны музей гасцінна адкрыў новыя экспазіцыі.

У музейных залах можна ўбачыць прылады працы, якімі гродзенцы карысталіся восемсот гадоў назад: сярпы, нажы, нажніцы, іголкі. Тут сабрана больш за дзве тысячы экспанатаў абутку: чаравікі, туфлі са скуры, боты. Вабяць да сябе вырабы са шкла, з рагоў і костак: шашкі, посуд, грабяні, упрыгожанні – праца рук гродзенскіх рамеснікаў. У захапленне прыводзяць рэчы старажытных майстроў: камінны гадзіннік, прыгожая ваза з фарфору, чайнік, чарнільны прыбор, кубкі і талеркі.

Нельга адарваць вачэй ад гравюры 1575 года, на якой намаляваны на высокім беразе ракі старажытны Гродна. Мастак адлюстраваў замкі і цэрквы, хаты і майстэрні рамеснікаў, мост і паўнаводны Нёман, конных і пешых гараджан. Пільна ўглядзеўшыся ў дзень учарашні, пачынаеш больш разумець і цаніць дзень сённяшні.

Слушна казалі нашы мудрыя продкі: "З рамяством дружыць – у жыцці не тужыць". Справа іх умелых рук жыве сёння, выхоўвае і натхняе на стварэнне шэдэўраў нашых сучаснікаў.





***Абласную дыктоўку пішуць настаўнікі СШ № 1***





***Дыктоўку пішуць вучні СШ № 1***

У рамках святкавання 700-годдзя г. Ліды, вучні школ Лідскага раёна прынялі ўдзел у напісанні традыцыйнай Лідскай дыктоўкі на беларускай мове. Дыктоўку пісалі 4343 чалавекі.

У цэлым актыўнасць школ самая розная. Сёлета найбольшую актыўнасць і адказнасць прадэманстравала СШ № 12. Там дыктоўку пісаў 931 чалавек. СШ № 17 дала 747 удзельнікаў, СШ № 8 - 605 удзельнікаў.

Такім чынам агульная колькасць удзельнікаў 16-й Агульнанацыянальнай дыктоўкі ў школах Лідчыны склала каля 8600 чалавек (летась было 9145 чалавек).

Акрамя дыктовак, у школах ішлі Тыдні роднай мовы, самыя розныя мерапрыемствы.







***Дыктоўку пішуць вучні СШ № 14***












У прыватнасці ў СШ № 14 праходзілі віктарыны, спаборніцтвы, падарожжы. Вучні пачатковых класаў прынялі ўдзел у турніры "Знаўцы роднай мовы". Яны разгадвалі загадкі, метаграмы, крыжаванкі, рэбусы. Успаміналі прыказкі і прымаўкі, працавалі "Перакладчыкамі".

У рамках Тыдня роднай мовы вучні СШ № 10 наведалі Лідскі гістарычна - мастацкі музей. З задавальненнем сямікласнікі ўдзельнічалі ў іншых мерапрыемстве, прысвечаным Дню роднай мовы.

Такім чынам 16-я Агульнанацыянальная дыктоўка прайшла сёлета ў лідскіх школах на годным узроўні. Лідчына яшчэ раз выказала глыбокую пашану і павагу да роднай мовы.

## 16-я Агульнанацыянальная дыктоўка ў Лідскім каледжы

У Лідскім каледжы праходзіла адразу некалькі дыктовак:

1. Купалаўская дыктоўка. З прывітальным словам да ўсіх удзельнікаў дыктоўкі выступіла рэктар ГРДУ імя Янкі Купалы Ірына Фёдараўна Кітурка. Прымалі ўдзел замежнікі з Кітая, В'етнама, Расіі і інш. краін. Ад каледжа дыктоўку пісала выпускная група 84 да (3 курс) і выкладчыкі.










2. У каледжы выкладчыкі беларускай мовы падрыхтавалі дыктоўку пад агульнай назвай "Ліда - мой горад". Пісалі групы 89 да, 88 да, 102 па, 334 т, 60 впа і астатнія групы 1-га курса.







З самай раніцы 21 лютага ў каледжы праходзілі розныя мерапрыемствы, прысвечаныя роднай мове:

- інтэрактыўная гульня “Воблака слоў” - самая распаўсюджанае слова на беларускай мове атрымалася *“бульба”*;
- чэлендж “Маё любімае слова на беларускай мове”. Актыўны ўдзел прымалі навучэнцы, выкладчыкі, работнікі каледжа.

Сярод слоў былі: *“матуля, пяшчота, зорка, сонейка*”. Аднак самым папулярным словам аказалася слова *“каханне”*. Чэлендж арганізавала група 88 да 1 курса;









- конкурс буклукаў. Актыўны ўдзел прыняла група 1-га курса 89 да. Буклукі на кнігі Ул. Караткевіча “Быў. Ёсць. Буду” і “Каласы пад сярпом тваім” навучэнак А. Кавальчук і Д. Лаўскай былі адзначаны як лепшыя;





## Дзень роднай мовы ў Лідскім політэхнічным каледжы

Мерапрыемствы, прысвечаныя Дню роднай мовы, ужо традыцыйна прайшлі ў Лідскім політэхнічным каледжы:

1. Конкурс плакатаў "Мова наша вечна жывая, яна як раса, як сляза, як зара";

2. Напісанне дыктоўкі з мэтай папулярызацыі і падтрымкі беларускай мовы ў рамках святкавання 700-годдзя горада;



- традыцыйна ў Дзень роднай мовы выкладчыкамі каледжа сумесна з выпускнікамі праводзіцца гульня “Размаўляем па-беларуску”. У гэтым годзе гульцамі сталі навучэнцы 1-га курса - груп 44 с, 333 т, 334 т.











Дзень роднай мовы прайшоў з актыўным удзелам навучэнцаў, выкладчыкаў, работнікаў каледжа і стаў запамінальным і яскравым.

3. Дэкламацыя вершаў.



4. Літаратурная віктарына "Крочым разам па літаратурнай сцежцы".



5. Гульня "Жывое слова".

## Дзень роднай мовы ў Лідскім музкаледжы

У Лідскім дзяржаўным музычным каледжы штогод праходзяць мерапрыемствы да Міжнароднага дня роднай мовы.

Сёлета ў рамках тыдня беларускай мовы і літаратуры тут адбыліся мерапрыемствы, прысвечаныя Алесю Бачылу і Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу. Было цікава і пазнавальна.





## Агульныя вынікі

16-я Агульнанацыянальная дыктоўка пісалася пад рознымі назвамі. Гэта і Рэспубліканская дыктоўка, і Гарадзенская абласная дыктоўка, і Купалаўская дыктоўка і Лідская дыктоўка, але разам гэта была Беларуская дыктоўка, якая прайшла актыўна і масава. Толькі што інфармацыю падавалі вельмі скупа, але пісалі і Гарадзенскі аблвыканкам, і некаторыя райвыканкамы, і ўніверсітэты, і рэдакцыі дзяржаўных газет, і ўстановы сярэдняй адукацыі, і ўстановы культуры, і грамадскія актывісты.

Лідчына ўтрымала ўзровень. Сёлета дыктоўкі ўсіх чатырох назваў у Лідскім раёне пісалі каля 9300 чалавек. Акрамя таго праведзена маса самых розных мерапрыемстваў у падтрымку беларускай мовы.

Беларускае грамадства паказала: яно за беларускую мову, яно за Беларусь.

***Паводле "Наша слова.pdf".***

# КРОНІКА ЛІДЫ

У канцы 2022 - пачатку 2023 года ў Лідзе з'явіліся АЗС, афармленыя ў стылі "Заўжды цікава".






27 студзеня жыхарцы вёскі Шайбакі Лідскага раёна Яніне Аляксандраўне Гінцэвіч споўнілася роўна 100 гадоў. З днём нараджэння Яніну Аляксандраўну павіншавалі старшыня Траццякоўскага сельскага выканаўчага камітэта Аляксандр Хвайніцкі і інспектар па асноўнай дзейнасці Лідскага раённага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Вольга Карпіцкая.

3 лютага на базе СТО ў вёсцы Вінкаўцы Лідскага раёна Гарадзенскай вобласці адбылося адкрыццё афіцыйнага экспрэс-сэрвісу "Geely". З гэтай нагоды прайшла ўрачыстая цырымонія. Ганаровае права пераразаць стужачку было прадстаўлена начальніку кіравання пасляпродажнага сэрвісу завода "БЕЛДЖЫ" Барысу Фёдаравічу Стыбуку і дырэктару ТАА "Альфорт", дылерскага цэнтра "Geely" па горадзе Гародні і Гарадзенскай вобласці Паўлу Валер'евічу Карпачу.



15 лютага 2023 г. на падставе абзаца трэцяга артыкулы 12 Закона Рэспублікі Беларусь ад 16 лістапада 2010 г. №190-З "Пра найменні геаграфічных аб'ектаў" Лідская раённая Савет дэпутатаў Лідскага раёна ВЫРАШЫЎ:

1. Пераназваць у горадзе Лідзе частку існай вуліцы Ленінскай ад скрыжавання з вуліцай Савецкай да скрыжавання з вуліцай Качана ў гонар мітрапаліта Філарэта, ганаровага Патрыяршага Экзарха ўсея Беларусі, Героя Беларусі, і ў далейшым называць на беларускай мове "Мітрапаліта Філарэта", на рускай мове "Митрополита Филарета".





22 лютага ў Гародні падвялі вынікі працы сферы адукацыі вобласці. Па выніках дзейнасці за 2022 год у ліку лепшых названа праца кіравання адукацыі Лідскага райвыканкама. Яно ганаравана дыпломам другой ступені!

Лепшай дашкольнай установай у вобласці, размешчанай у сельскай мясцовасці, па выніках працы за 2022 год прызнаны яслі-сад ам. Ёдкі.

РУП "Белпошта" 15 сакавіка выпусціла ў абарачэнне паштовую марку, прысвечаную Лідскаму аэрадрому з эмблемай Рэгіянальнага супрацоўніцтва ў галіне сувязі. Тыраж маркі 45 тысяч. Дызайнер маркі Алена Мядзведзь. Праект падрыхтаваны ў супрацоўніцтве з Беларускай дзяржаўнай акадэміяй авіяцыі. Лідскі аэрадром - найстарэйшы аэрадром Беларусі. З'явіўся ён перад Першай сусветнай вайной і паспяхова дзейнічае да сённяшніх дзён.





Імёны лепшых педагогаў Гарадзенскай вобласці названы 17 сакавіка. У іх ліку - выхавальнік дзіцячага садка №21 г. Ліды Настасся Харужая, якая стала пераможцам абласнога этапу конкурсу "Настаўнік года Рэспублікі Беларусь" у намінацыі "Выхавальнік дашкольнай адукацыі".




У сакавіку 2023 г. выйшла кніга Марозавай С. В. "Людзі кулыуры Гродзеншчыны: Леанід Лаўрэш" *(Гродна : ЮрСаПрынт, 2023. - 64 с. I8ВУ 978-985-7257-40-9)*.

Кніга прысвечана біяграфіі, радаводу, даследчай і творчай дзейнасці беларускага пісьменніка, даследчыка гісторыі Беларусі, буйнога лідскага краязнаўца Леаніда Лявонцьевіча Лаўрэша.



У канцы сакавіка прызначаны новы гендырэктар Адкрытага акцыянернага таварыства "Лідахарчканцэнтраты". Ім стаў Вячаслаў Гарбачоў. Апошнія гады ён працаваў на пасадзе намесніка генеральнага дырэктара па камерцыйных пытаннях кандытарскай фабрыкі "Спартак".

# Інфармацыя
# пра вынікі сацыяльна-эканамічнага развіцця Лідскага раёна за 2022 год

**1. Рэальны сектар эканомікі**

**1.1. Прамысловы комплекс**

На долю раёна прыпадае 9,9 % прамысловай вытворчасці вобласці. Аснову прамысловага комплексу ствараюць 24 арганізацыі, сярэднеспісавая колькасць працаўнікоў на якіх складае 11,9 тыс. чалавек.

Прамысловымі арганізацыямі раёна за 2022 год выраблена прадукцыі ў фактычных адпускных цэнах, уключаючы цану давальніцкай сыравіны, на суму 1572,7 млн. рублёў, тэмп росту - 110,5 %.

У аб'ёмах вытворчасці Лідскага раёна найбольшую ўдзельную вагу займае вытворчасць прадуктаў сілкавання, напояў, хімічных прадуктаў, вылічальнай, электроннай і аптычнай апаратуры.

За 2022 год у раёне павялічыўся выпуск найважнейшых відаў прамысловай прадукцыі (таварны выпуск): комплексаў зернеачышчальна-сушыльных - на 40,0 %, абсталявання складскога для захоўвання сельскагаспадарчай прадукцыі - у 5,0 разоў, радыятараў цэнтральнага ацяплення - на 41,0 %, радыятараў электрычных вадканапоўненых - на 48,0 %, іншыя вырабы са шкловалакна - на 5,8%, малака апрацаванага, вадкага - на 15,4%, малака сухога тлустасцю не больш за 1,5% - на 15,3%, масла сметанковага - на 67,5%, вырабаў макаронных і аналагічных вырабаў мучных - на 16,2%, напояў ферментаваных іншых - на 19,6%, піва - на 4,6%, вады мінеральнай і газаванай непадсалоджанай і неараматызаванай - на 9,0%, піва безалкагольнага - на 13,4%, напояў безалкагольных іншых - на 21,0 % і іншага.

Аб'ём адгружанай прамысловай прадукцыі за 2022 год склаў 1532,7 млн. рублёў, з яго інавацыйнай - 102,2 млн. рублёў ці 6,7 %.

**1.2. Сельская гаспадарка**

Доля раёна ў агульным аб'ёме валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі вобласці - 4,2 %.

За 2022 год выраблена валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі на суму 150,6 млн. рублёў, тэмп росту да 2021 года - 110,1 %.

Структура валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі склалася наступным чынам: жывёлагадоўля - 47,7 %, раслінаводства - 52,3 %, з іх: мяса - 16,1 %, малако - 30,7%, збожжа - 20,1 %, насенне рапсу - 8,8 %, бульба - 4,5 %, гародніна - 4,1 %, кармы - 8,7 %.

Вытворчасць збожжавых і зернобобовых культур (з улікам зерня кукурузы) у заліковай вазе склала 81,7 тыс. тон, тэмп росту 146,8 % да 2021 года. Ураджайнасць - 36,1 цэнтнера з гектара, што на 9,8 цэнтнера больш ад узроўню 2021 года.

Вытворчасць алеенасення рапсу - 10,2 тыс. тон, тэмп росту 150,1 %. Ураджайнасць склала 20,5 ц/га, больш на 6,4 ц/га ў параўнанні з 2021 годам.

Валавы збор бульбы склаў 16,0 тыс. тон, тэмп росту - 114,2%. Ураджайнасць - 281,0 ц/га, што на 21,0 ц/га больш, чым у 2021 годзе.

Валавы збор гародніны - 12,5 тыс. тон, тэмп росту - 158,7%, ураджайнасць - 303,0 ц/га, на 148,0 ц/га больш, чым у 2021 годзе.

Сабрана пладоў 5,0 тыс. тон, тэмп росту - 137,1%.

Нарыхтавана кармоў па відах: 9,6 тыс. тон сена, 96,1 тыс. тон сенажу, 3,9 тыс. тон зернесенажу, 129,6 тыс. тон сіласу.

Усяго нарыхтавана 68,8 тыс. тон травяных кармоў.

У жывёлагадоўлі па стане на 1 студзеня 2023 г. колькасць буйной рагатай жывёлы склала 29919 галоў.

Пагалоўе свіней - 20445 галоў.

Птушкі - 143017 галоў.

За 2022 год вытворчасць малака склала 56,6 тыс. тон.

Вытворчасць (гадоўля) жывёлы і птушкі склала 8,7 тыс. тон.

**1.3. Будаўніцтва**

На долю раёна прыпадае 9,1 % аб'ёмаў будаўніча-мантажных работ вобласці.

Аб'ём будаўніча-мантажных работ за 2022 год склаў 165032 тыс. рублёў.

На будаўніцтва жылля за 2022 год накіравана 85363 тыс. рублёў.

Будаўнічым комплексам раёна выканана падрадных работ на суму 140635 тыс. рублёў.

За 2022 год уведзена ў эксплуатацыю 1059 кватэр агульнай плошчай 84,687 тыс. кв. метраў пры заданні на 2022 год - 83,0 тыс. кв. метраў, у тым ліку: 951 кватэра ў шматкватэрных жылых дамах агульнай плошчай 60,454 тыс. кв. метраў, 108 кватэр плошчай 24,233 тыс. кв. метраў індывідуальнай жылой забудовы.

Палепшылі жыллёвыя ўмовы 250 шматдзетных сем'яў.

Усе шматдзетныя сем'і, якія хацелі палепшыць свае жыллёвыя ўмовы, накіраваны для заключэння дамоў долевага будаўніцтва кватэр.

Для грамадзян, якія ажыццяўляюць жыллёвае будаўніцтва з дзяржаўнай падтрымкай, здадзена 54,530 тыс. кв. метраў агульнай плошчы жылля.

Уведзена арэнднага жылля агульнай плошчай 0,949 тыс. кв. метраў.

Увод у эксплуатацыю жылых дамоў з выкарыстаннем электраэнергіі для мэт ацяплення, гарачага водазабеспячэння і ежагатоўкі склаў 1,588 тыс. кв. метраў.

### 1.4. Гандаль

Доля раёна ў агульным аб'ёме рознічнага тавараразвароту вобласці - 13,2%.

Аб'ём рознічнага тавараразвароту гандлю праз усе каналы рэалізацыі ў цэлым па раёне за 2022 год у фактычных цэнах склаў 884,2 млн. рублёў. Тэмп росту ў супастаўных цэнах да 2021 года - 97,8 %.

Тэмп росту рознічнага тавараразвароту арганізацый гандлю склаў 100,0 %, па падведамных арганізацыях - 73,5 %.

У структуры тавараразвароту арганізацый гандлю раёна пераважаюць харчовыя тавары (53,1 %).

Гандлёвымі арганізацыямі за 2022 год праведзена 1308 распродажаў тавараў па зніжаных коштах і 26 някоштавых промаакцый, 17 кірмашоў. Дадаткова атрыманы тавараразварот на суму 4,9 млн. рублёў.

За 2022 год удзельная вага тавараў айчыннай вытворчасці ў рознічным тавараразвароце гандлёвых арганізацый склала 66,6 % (захавалася на ўзроўні 2021 года).

Спажывецкі попыт больш, чым на 90 % задавальняецца за кошт тавараў беларускіх вытворцаў па мясе і мясных прадуктах, яйках, масле сметанковым, сырах, цукру, муцэ, гарэлцы, вінах пладовых, маторным паліве, цэменце.

### 1.5. Транспартная дзейнасць

Пасажыразварот за 2022 год склаўся на ўзроўні 95502,1 тыс. пасажыракіламетраў. Пасажырскім транспартам супольнага карыстання раёна перавезена 14415,0 тыс. пасажыраў.

Грузазварот за 2022 год склаў 281950,2 тыс. тона-кіламетраў. Грузавым аўтатранспартам раёна перавезена 924,3 тыс. тон грузаў.

### 2. Намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата

За студзень-снежань 2022 г. налічаная сярэднемесячная заработная плата па Лідскім раёне склала 1296,5 рублёў, тэмп росту - 116,5 %.

Змена рэальнай заработнай платы да студзеня-снежня 2021 г. - 101,1 %.

### 3. Інвестыцыі ў асноўны капітал

За 2022 год аб'ём інвестыцый у асноўны капітал склаў 255,6 млн. рублёў, тэмп росту ў супастаўных цэнах - 87,6 %.

Па арганізацыях, падпарадкаваных рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання, аб'ём інвестыцый склаў 63,5 млн. рублёў.

Арганізацыямі, падпарадкаванымі мясцовым выканаўчым і распарадчым органам, скарыстана 120,8 млн. рублёў.

Арганізацыямі, не меўшымі ведамаснай падпарадкаванасці, - 71,3 млн. рублёў.

Тэхналагічная структура інвестыцый:

- аб'ём інвестыцый на выкананне будаўнічамантажных работ - 165,0 млн. рублёў;
- выдаткі на набыццё машын, абсталявання, транспартных сродкаў - 59,4 млн. рублёў;
- іншыя работы і выдаткі - 31,2 млн. рублёў.

### 4. Сукупныя паступленні прыбыткаў у бюджэт раёна

У цэлым па раёне рост сукупных паступленняў прыбыткаў у кансалідаваны бюджэт раёна на 01.01.2023 склаў 119,8 %.

### 5. Энергазахаванне

Аб'ём эканоміі паліўна-энергетычных рэсурсаў за кошт укаранення энергаэфектыўных мерапрыемстваў па раёне за 2022 год склаў 4620,2 тоны ўмоўнага паліва.

Сумарнае спажыванне паліўна-энергетычных рэсурсаў па раёне за 2022 год склала 163978 тон умоўнага паліва.

### 6. Рынак працы і палітыка занятасці

Сітуацыя ў сферы занятасці і беспрацоўі ў цэлым па раёне застаецца кіраванай.

У кіраванне па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Лідскага райвыканкама па садзейнічанне ў працаўладкаванні за 2022 год звярнуліся 2565 чалавек, з іх 1536 (59,9 %) зарэгістраваных беспрацоўных.

На 1 студзеня 2023 г. лік беспрацоўных, якія стаяць на ўліку, склаў 107 чалавек, узровень беспрацоўя - 0,2% да колькасці эканамічна актыўнага насельніцтва.

Лік вакансій, заяўленых наймальнікамі ў службу занятасці, на канец снежня 2022 года склаў 1390 вольных працоўных месцаў.

У сярэднім на адну заяўленую вакансію на 1 студзеня 2023 г. прыпадае 0,1 беспрацоўнага.

З пачатку года з улікам наяўных вакансій працаўладкавана 2182 чалавекі, у тым ліку 1292 беспрацоўных.

Удзельная вага працаўладкаваных грамадзян,

якія звярнуліся ў органы па працы, занятасці і сацыяльнай абароне, - 79,4 %.

Удзельная вага працаўладкаваных беспрацоўных, якія маюць дадатковыя гарантыі ў вобласці садзейнічання занятасці, - 67,2 %.

Накіравана на прафесійнае навучанне беспрацоўных "пад замову" наймальніка - 84,8 %.

У мэтах дадатковай матэрыяльнай падтрымкі беспрацоўных і іншых незанятых грамадзян арганізоўваліся аплачваныя грамадскія работы, у якіх прынялі ўдзел 154 чалавекі.

Для набыцця досведу практычнай працы на працоўныя месцы працаўладкавана 13 беспрацоўных.

За 2022 год аказана фінансавая падтрымка ў выглядзе субсідый 19-ці беспрацоўным для арганізацыі прадпрымальніцкай дзейнасці.

У эканоміцы раёна ў 2022 годзе было занята 54287 чалавек.

## ІІ. Асноўныя кірункі сацыяльна-эканамічнага развіцця раёна

### 1. Фінансавыя вынікі

За 2022 год сума выручкі ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, работ, паслуг у цэлым па раёне склала 2561,0 млн. рублёў, тэмп росту да 2021 года - 114,7%.

Прыбытак ад рэалізацыі прадукцыі склаў 247,7 млн. рублёў, тэмп росту да 2021 года - 145,3 %. Чысты прыбытак - 122,5 млн. рублёў, тэмп росту да 2021 года - 234,9 %.

Узровень рэнтабельнасці рэалізаванай прадукцыі па раёне - (+) 12,4 %, рэнтабельнасці продажаў - (+) 9,7 %.

Удзельная вага рэнтабельных арганізацый - 89,6 %.

Паказчык па зніжэнні ўзроўню выдаткаў на вытворчасць і рэалізацыю прадукцыі (работ, паслуг) па арганізацыях, маёмасць якіх знаходзіцца ва ўласнасці Лідскага раёна, і арганізацыях, у статутных фондах якіх 50 і больш адсоткаў акцый (доляў у статутных фондах) належаць раёну, за 9 месяцаў 2022 г. склаў (-) 2,1 %.

### 2. Малое прадпрымальніцтва

За 2022 г. зарэгістравана 59 юрыдычных асоб, у тым ліку 48 мікра-, малых і сярэдніх прадпрыемстваў, 8 арганізацый з удзелам замежнага капіталу і 327 індывідуальных прадпрымальнікаў.

### 3. Развіццё сацыяльнай сферы

#### Адукацыя

У сферы адукацыі выкананы дзяржаўныя сацыяльныя стандарты.

#### Ахова здароўя

Фінансаванне аховы здароўя за 2022 год склала 64,4 млн. рублёў.

Выканана рэканструкцыя будынка хірургічнага корпуса (2-ая чарга) з набыццём абсталявання, а таксама рэканструкцыя першага паверха тэрапеўтычнага корпуса пад размяшчэнне МРТ па вул. Міцкевіча, 1.

Усе дзяржаўныя сацыяльныя стандарты ў вобласці аховы здароўя выкананы ў поўным аб'ёме.

#### Культура

Клубнымі ўстановамі культуры праведзена 2830 мерапрыемстваў, у тым ліку 1169 на платнай аснове, якія наведала 160109 чалавек.

Колькасць наведванняў устаноў культуры па раёне - 443378.

За 2022 год колькасць наведванняў бібліятэчнай сістэмы раёна склала 188680 чалавек.

Дзяржаўнай установай "Лідскі гістарычна-мастацкі музей" праведзены 2343 экскурсіі і заняткі, арганізаваны 44 выставы.

Колькасць наведвальнікаў дзяржаўнай установы "Лідскі гістарычна-мастацкі музей" і Лідскага замка за 2022 год склала 94589 чалавек.

Колькасць канцэртаў, якія былі праведзены дзяржаўнай установай культуры "Лідскі эстрадны аркестр", - 58.

#### Спорт і турызм

За 2022 год праведзена 204 спартова-масавыя мерапрыемствы, у якіх прынялі ўдзел 13275 чалавек. Выканалі нарматывы: майстра спорту - 5 чалавек, кандыдата ў майстры спорту - 21 чалавек, 1 разраду - 69 чалавек. Сталі пераможцамі і прызёрамі рэспубліканскіх спаборніцтваў - 138 чалавек, абласных - 695 чалавек.

У спіскавым складзе нацыянальных і зборных каманд Рэспублікі Беларусь па відах спорту знаходзіцца 44 чалавекі.

З мэтай паляпшэння інфраструктуры Лідскага раёна ўсталяваны таблічкі з гістарычнымі назвамі вуліц.

Экскурсіі для турыстаў прапануюць ААТ "Шклозавод "Нёман", ААТ "Лідскае піва", ААТ "Лідахлебапрадукт", ААТ "Лідахарчканцэнтраты", ААТ "Торфабрыкетны завод "Дзітва", ДЛГУ "Лідскі лясгас" (парк "Гарні") і Цэнтр Бяспекі МНС пры Лідскім РАНС.

Зарэгістравана 36 суб'ектаў аграэкатурызму.

*Паводле Прэс-службы*
*Лідскага райвыканкама.*

# Прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця і праект бюджэту Лідскага раёна на 2023 год

Мэта сацыяльна-эканамічнага развіцця раёна на 2023 год - гэта павышэнне якасці жыцця людзей, рост іх прыбыткаў, стварэнне камфортных і бяспечных умоў жыцця. Адкрываючы паседжанне, старшыня Лідскага райвыканкама Сяргей Ложачнік адзначыў, што дасягнуць гэта можна шляхам нарошчвання патэнцыялу прадпрыемстваў, эфектыўнай працай аграпрамысловага комплексу, садзейнічаннем бізнэсу, уцягваннем у гаспадарчы аварот незадзейнічаных плошчаў.



Далей у дакладзе першы намеснік старшыні райвыканкама Ігар Квасоўка, падкрэсліў, што ў аснове - інвестыцыі. Іх рост у асноўны капітал павінен скласці - 133,8 % да ўзроўню 2022 года. Будзе створана эканамічная база для росту грашовых прыбыткаў. На 2023 год прагнозны паказчык па тэмпе росту намінальнай сярэднямесячнай заработнай платы па арганізацыях раёна складзе 116,4 % да ўзроўню 2022 года, намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата прагназуецца ў памеры 1509,0 рублёў.

Высілкі будуць сканцэнтраваны на мадэрнізацыі прадпрыемстваў, на развіцці інфраструктуры, рэалізацыі імпартазамяшчальных праектаў, у тым ліку па даручэнні Кіраўніка дзяржавы на ініцыятыве "Адзін раён - адзін праект". Такім на Лідчыне стане вытворчасць і перапрацоўка прадукцыі з мяса птушкі і вытворчасці сечанага пяра і пуху ад "Белсалттрэйд".

У 2023 годзе плануецца рэалізацыя шэрагу іншых буйных вытворчых праектаў, у тым ліку:

- "Лідскі малочна-кансервавы камбінат" завершыць рэканструкцыю цэха заменніка цэльнага малака і сухога абястлушчанага малака.
- "Лідахлебапрадукт" набудзе лінію для выпуску спагеці.

Структура расходов по бюджетам на 2023 год

тыс.руб.

| Наименование расходов | Районный бюджет | Бюджет сельсоветов и Березовского городского советов | Бюджет района | Удельный вес (%) |
|---|---|---|---|---|
| Социальная сфера, в том числе: | 209 176,2 | | 209 176,2 | 79,1 |
| физическая культура и спорт | 8 194,2 | | 8 194,2 | 3,1 |
| культура, СМИ, кино | 6 707,8 | | 6 707,8 | 2,6 |
| социальная политика | 10 359,8 | | 10 359,8 | 3,9 |
| здравоохранение | 75 930,4 | | 75 930,4 | 28,7 |
| образование | 107 984,0 | | 107 984,0 | 40,8 |
| Жилищно – коммунальные услуги и жилищное строительство | 32 093,0 | 469,0 | 32 563,2 | 12,3 |
| Топливо | 803,0 | | 803,0 | 0,3 |
| Транспорт | 3 474,8 | | 3 474,8 | 1,3 |
| Резервные фонды | [illegible] | [illegible] | 2 901,3 | 1,1 |
| Иные общегосударственные расходы | 4 059,9 | 110,9 | 4 170,8 | 1,6 |
| Органы местного управления и самоуправления | 7 092,5 | 1 854,0 | 8 946,5 | 3,4 |
| Обслуживание долга органов местного управления и самоуправления | 93,8 | | 93,8 | 0,1 |
| Сельское хозяйство | 1 924,1 | | 1 924,1 | 0,7 |
| Прочие отрасли | 349,7 | | 349,7 | 0,1 |
| ИТОГО: | 261 957,[illegible] | 2 443,9 | 264 401,4 | 100,0 |

- "Лідскія харчовыя канцэнтраты" ўсталююць экструдар для кукурузных шматкоў і прыступяць да мадэрнізацыі лініі для вытворчасці варана-сушаных гароху і рысу.
- "Белмедпрэпараты" на лідскай пляцоўцы пачнуць будаўніцтва корпуса для склада і выпуску нестэрыльных лекаў.
- "Шклозавод "Нёман" прыступіць да арганізацыі вытворчасці пенашклянога шчэбеню.
- "Кіравальная кампанія холдынгу "Лідсельмаш" прыступіць да асваення буйнагабарытных зварных канструкцый кантэйнернага тыпу.
- "Лідскі завод электравырабаў" працягне распрацоўку святлодыёднага асвятлення для стымуляцыі росту і развіцця раслін.
- "Лідскае піва" паставіць абсталяванне для лакальных ачышчальных збудаванняў.
- "ЦЫБУЛЬКА-БЕЛ" створыць лагістычна-складскі комплекс для захоўвання і перапрацоўкі сельгаспрадукцыі.

Сельскагаспадарчыя арганізацыі асноўны аб'ём інвестыцый накіруюць на набыццё тэхнікі, транспартных сродкаў і перавод жывёлы ў асноўны статак.

Начальнік фінансавага кіравання райвыканкама Лідзія Тананушка прадставіла праект раённага бюджэту на 2023 год. Па функцыянальнай структуры ў складзе выдаткаў бюджэту раёна 79,1 адсотка прыпадзе на фінансаванне выдаткаў арганізацый і ўстаноў сацыяльнай сферы. На адукацыю - больш за 40 %, на ахову здароўя - амаль 30%. Кіраўнік раёна Сяргей Ложачнік звярнуў на гэта ўвагу: дзяржава выканае ўсе сацыяльныя абавязкі. Праект бюджэту ўхвалены райвыканкамам і зацверджаны раённым Саветам дэпутатаў.

***Прэс-служба Лідскага райвыканкама.***

# 260 гадоў бульбе на Лідчыне

Нядаўна, перачытваючы Тэадора Нарбута, я знайшоў такую інфармацыю: *"Бульба ў Літве стала вядомай толькі ў другой палове XVIII ст., паводле інвентара маёнтка, у маёй вёсачцы садзіць гэтую расліну ў агародзе першы раз пачалі ў 1763 г., і, падобна, што так было ва ўсім Лідскім павеце"* [1]. А гэта значыць, што сёлета спаўняецца 260 гадоў нашай беларускай бульбе. Здаецца, бульба вартая таго, каб трошкі расказаць пра яе гісторыю.

Вядома, што радзіма бульбы - Паўднёвая Амерыка, дзе і дагэтуль можна сустрэць гэтую дзікарослую расліну, бульбу там пачалі есці прыкладна 14 тысяч гадоў назад.

Агульнавядомым з'яўляецца тое, што ў Еўропу гэтую карысную расліну прывезлі іспанскія канкістадоры ў сярэдзіне XVI ст., адтуль яна трапіла ў Італію, а потым распаўсюдзілася ў Бельгіі, Германіі, Нідэрландах, Францыі, Вялікабрытаніі і іншых еўрапейскіх краінах. Аднак спачатку бульба была прынята ў Еўропе як дэкаратыўная расліна. У Францыі яшчэ ў канцы XVIII ст. кветкамі бульбы ўпрыгожвалі валасы ці рабілі з іх букеты і на бульбяныя кветкі ўстанавілася такая мода, што давялося рабіць штучныя, бо жывых пачало не хапаць. У Германіі гэтую расліну садзілі на клумбах перад палацамі. Аднак, з-за недахопу прадуктаў падчас войнаў, нямецкія сяляне пачалі выкарыстоўваць бульбу як ежу, і гэтак яна распаўсюдзілася па ўсёй Еўропе як ядомая палявая культура. Як ежа, бульба пачала масава спажывацца па ўсёй Еўропе ў другой палове XVIII ст., і, як бачым, у гэтым сэнсе Лідчына зусім не адставала ад Еўропы.

У Рэчы Паспалітай гэтая расліна стала вядомая ў XVII ст. Раней лічылася, што ўпершыню бульбу да нас завёз кароль Ян III Сабескі пасля перамогі над туркамі ў бітве пад Венай у 1683 г. Але гісторык Анастасія Скеп'ян знайшла, магчыма, першы ўспамін пра бульбу - *"bulbos americanos"* - сярод апісання 1623 г. агарода пры віленскім палацы полацкага ваяводы Януша Кішкі, дзе некалькі яе кустоў раслі на адной градцы[2]. Заўважу, што беларускае слова *"бульба"*, як і польскае *"bulba, bulwa"*, чэшскае *"bulva"* і нямецкае *"bolle"* паходзіць ад лацін-



***Сядзіба Нарбутаў на малюнку Напалеона Орды, 1877 г.***

[1] *"Kartofla w Litwie w drugiej dopiero polowie wieku XVIII powszechnie znajoma bydz zaczela; podlug regestrow ekonomicznych, mojej wiosczyny w ogrodzie uprawiac pierwszy raz poczeto te rosline roku 1763, i podobno w calym powiecie Lidzkim"*. - Гл: Narbutt Teodor. Dzieje narodu litewskiego. T. 9. Wilno, 1841. S. 73.

[2] Скеп'ян Анастасія. Арганізацыя кухоннай службы пры магнацкіх дварах Вялікага Княства Літоўскага ў XVI-XVII стст. // Магнацкі двор і сацыяльнае ўзаемадзеянне (XV-XVIII стст.): зборнік навуковых прац. Мінск, 2014. С. 6.

скага *"bulbus"* (усе маюць значэнне: *"клубень, цыбуліна"*)[3]. Такім чынам аказваецца, што беларускае слова *"бульба"* ніякае не народнае, тым больш не прастанароднае, а самае што ні на ёсць навуковае, паходзіць з высакароднай латыні.

Анастасія Скеп'ян адзначыла, што ад стагоддзя да стагоддзя меню, якое падавалася на панскі стол, ускладнялася. Падчас банкетаў на стале побач з традыцыйнымі мяснымі і рыбнымі стравамі пачалі з'яўляцца не ўласцівыя для мясцовай кухні прадукты. Калі на пачатку XVI ст. гэта былі цытрусавыя (апельсіны і лімоны), разнастайныя гатункі салатаў, то пaступова да іх дадаліся бульба, спаржа, арцішокі і нават слімакі[4]. Як бачым, бульба лічылася вялікім далікатэсам.

Заўважу, што ў той час, Януш Кішка з жонкай Крысцінай валодалі часткай маёнтка Ольжава, што знаходзіцца недалёка Ліды[5], але пра бульбу на Лідчыне на пачатку XVII ст. нам нічога не вядома. А віленскі палац Кішкі, каля якога і быў агарод з бульбай, ляжаў за ракой Віліяй, каля гасцінца, які праз Зарэчча ішоў на Полацк[6].

У кнізе, напісанай кухмістрам кракаўскага ваяводы Станіславам Чарнецкім "Compendium ferculorum, albo Zebranie potraw" ("Усё пра стравы, альбо Збор страў"), згадваецца першы бульбяны прысмак для эліты Рэчы Паспалітай. Пад назваю "tertofelle" ў гэтай кнізе, хаваецца бульба, якую пяклі ў попеле і, пакроеную на скрылікі, смажылі. Кніжка пабачыла свет у 1682 г. і на працягу XVIII ст. неаднаразова перавыдавалася. Згаданая ў ёй страва - яшчэ не масавы прадукт, а ўсё яшчэ гастранамічнае вынаходніцтва да панскага стала.

Упершыню бульбу пачалі вырошчваць у Беларусі падчас панавання караля і вялікага князя літоўскага Аўгуста III (1736-1763 гг.) на тэрыторыі сучаснай Гарадзеншчыны. Тады яна вырошчвалася нямецкімі каланістамі ў каралеўскіх эканоміях. У другой трэці XVIII ст. бульба распаўсюдзілася па ўсёй Беларусі, і ў Шаўрах Нарбута бульбу вырошчвалі не нямецкія каланісты, а звычайныя беларускія сяляне.

Беларускія сяляне напачатку недаверліва ставіліся да гэтай расліны. Сяляне з уласцівай нашаму народу ціхмянай упартасцю здзяйснялі акты сабатажу і ўсяляк ухіляліся ад навацый. Аднак, дзякуючы ціску тутэйшай шляхты, бульба ў добраахвотна-прымусовым парадку ўсё ж з'явілася на сялянскіх палетках. Адам Мальдзіс пісаў: *"Бульба распаўсюджвалася з такой хуткасцю, як аніводная іншая культура, бо давала добры даход і не раз ратавала беларускага селяніна ад голаду. У канцы 18 ст. яе садзілі амаль па ўсёй Беларусі [...]*

*Як і ўсё новае, бульба мела і сваіх праціўнікаў. Да бульбяных бунтаў, праўда, у нас не дайшло. Але ўсё ж канфлікты былі. У 1817 г. гаспадар маёнтка Целятнікі, што на Віцебшчыне, генерал Р. Гернгрос пачаў прымушаць сваіх сялян, каб яны садзілі на палях бульбу. За работай назіраў або сам пан, або яго памагатыя. Аднак бульба не расла: толькі зрэдку на загоне віднеўся адзін-другі кусцік. "Чаму ў вас бульба не родзіць?" - здзіўленна пытаўся генерал у прыгонных. Тыя скрэблі патыліцу і з усмешкай адказвалі: "Не, паночак! Ужо як сабе пан хочаш, а бульбе не радзіць на нашай зямлі".*

*Сакрэт аказаўся просты. Пасля пасадкі клубняў, калі пан адыходзіў, сяляне адкопвалі іх і ў бліжэйшай карчме аддавалі "праклятыя яблыкі" за якую кварту гарэлкі. Даведаўшыся пра гэта, Гернгрос загадаў рэзаць кожную бульбіну на чатыры часткі, каб такім чынам, тлумачыў ён сялянам, пазбавіцца, зрабіўшы крыжавідны разрэз, ад "д'ябальскага ўплыву", што нібы быў прычынай неўродзіцы. І тады сяляне перасталі выбіраць парэзаную бульбу з зямлі, і з трывогай у сэрцы пабачылі на сваіх палях буйна квітнеючую бульбу, а потым і самі пачалі яе разводзіць.*

*Хутка бульба стала для беларусаў "другім хлебам". Яе ўраджаі па сваёй масе былі ў некалькі разоў большыя, чым ураджаі збожжа. Бульбу пачалі даваць на корм жывёле, а памешчыкі пераганялі яе на гарэлку"* [7].

Антоні Адынец паведамляў у сваіх ўспамінах, што сам Адам Міцкевіч, калі вучыўся на першых курсах Віленскага ўніверсітэта, напісаў гераічна-камічны эпас пад назвай "Бульба", гераічная частка твора знаёміла нас з адкрыццём Амерыкі, а наступная частка - з бульбяной гаспадаркай Літвы. Героіка-камічная паэма А. Міцкевіча "Kartofla" не была надрукаваная пры жыцці паэта, першая публікацыя гэтай паэмы ў захаваных фрагментах адбылася толькі ў 1949 г.[8]

У XIX ст. бульба цалкам і безумоўна перамагла на беларускіх палетках. Калі ў Гарадзенскай губерні ў 1822 г. сабралі 7,1 тысячы чвэрцяў бульбы, дык у 1827 г. ужо ў сто разоў болей (чвэрць - $^{1}/_{4}$ бочкі, мера аб'ёму сыпкіх рэчываў і вадкасцей, раўнялася 101,62 л.).

У справаздачах Менскай ды Віцебскай губерняў за 1828 г. адзначалася, што *"бульба з'яўляецца памочнікам да харчавання, родзіць выдатна, з поспехам паўсюль тут разводзіцца"*. У справаздачы Гарадзенскай губерні за 1840 г. было напісана: *"Бульба займае першае месца ў ліку абраблянай гароднiны, спрыяе харчаванню народа, гадаванню жывёлы і ўгнаенню палеткаў"*. Бульба ў той час становіцца галоўнай культурай, *"другім хлебам"*. А для бедных сялян яна была адзіным хлебам, як пісаў адзін з тагачасных аўтараў: *"Гарох, частку ячменю, авёс сяляне прадаюць,*

[3] Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Т. 1. Мінск:, 1978. С. 410.

[4] Скеп'ян Анастасія. Арганізацыя кухоннай службы пры магнацкіх дварах Вялікага княства Літоўскага ў XVI-XVII стст. С. 6.

[5] Лаўрэш Леанід. Ольжава // Лідскі Летапісец. 2020. № 3 (91). С. 33-43.

[6] АВАК. Т. XX. 364-376.

[7] Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь. Мінск, 1980. С. 196.

[8] Адынец А. Э. Успаміны пра мінулае. Мінск, 2020. С. 91.

*а бульбай харчуюцца амаль цэлы год".*

Ужывалі бульбу і мае прамыя продкі. У 1861 г. гаспадар маёнтка Галоўчыцы (што каля Лыскава сучаснага Пружанскага р-на) абшарнік Твардоўскі падмануў майго прапрадзеда, адстаўнога салдата Яна Лаўрэша на 5 чвэрцяў бульбы. Праз некалькі гадоў Ян Лаўрэш праз суд, хадайнічаў аб вяртанні 5 чвэрцяў бульбы, якую ў яго забраў эканом. Суд высветліў, што бульбу ў адстаўнога салдата і сапраўды забралі неабгрунтавана. Вось такая сямейная гісторыя, як учарашні прыгонны селянін судзіўся з панам з-за бульбы і выйграў суд.

Цікава, што у 1866 г. вынаходнік-самавук з Лідчыны Яўтах Шалевіч зрабіў некалькі машынак для чысткі бульбы.



***Бульба лідская. Здымак Наталлі Тананушкі***

Ужо ў 1860-я гады ўзнікаюць мясцовыя, беларускія гатункі бульбы. А на пачатку XX ст. беларускае бульбаводства стала найлепшым і адным з мацнейшых у Расейскай імперыі. На 1913 г. прыпадае пік дарэвалюцыйнай беларускай бульбяной вытворчасці - пасяўная плошча склала 583,3 тысячы гектараў, ураджайнасць - 6,4 тоны з гектара, валавы збор 4 мільёны тон, ці 12,6% валавога збору ў Расеі. Бульба вырошчвалася паўсюдна. Напрыклад, у вялікім артыкуле "Уражанні ад выставы ў Лябёдцы" віленская газета "Кур'ер Літоўскі" ўвосень 1910 г. пісала пра маёнтак Лябёдка Іваноўскіх, што на Лідчыне: *"На ўсе бакі ад прыгожага, вельмі рацыянальна і па-сучаснаму пабудаванага двара ў Лябёдцы цягнуцца ўзорныя сады, гароды, купкі пладовых і дэкаратыўных дрэваў. Далей пачынаюцца добра апрацаваныя палі бульбы і збожжа ..."* [9].

Знаны археолаг, этнограф і грамадскі дзеяч, член-карэспандэнт Кракаўскай Акадэміі ведаў Вандалін Мацей Шукевіч у сваім маёнтку каля вёсцы Нача на Лідчыне арганізаваў 5 эксперыментальных палёў для выпрабавання штучных угнаенняў, новых гатункаў бульбы і аўсу.

Патрабавалася бульба і для працы бровараў. Да Першай сусветнай вайны пры броварах было каля 450 тысяч дзесяцін ворнай зямлі з якіх 55 тысяч дзесяцін засаджвалася бульбай. У 1911 г. Беларусь перагнала на спірт 2622 тысячы пудоў збожжа і каля 40800 тысяч пудоў бульбы.

Батанік, фенолаг і спецыяліст у галіне сельскагаспадарчых навук, Вацлаў Ластоўскі (1880-1954) у 1911 г. адкрыў у Беняконях, што на Лідчыне, навуковую даследчую станцыю, адной з мэтаў якой, было і вывядзенне новых гатункаў бульбы. Газета "Наша Ніва" пісала ў 1911 г.: *"У Беняконях ... аткрылася пробнае поле (станцыя) Віленскага таварыства сельскай гаспадаркі на 15 дзесяцінах. Пабудавалі гожае мураванае гумно, хату для чэлядзі, кожнаму па пакою і пякарню. Пакуль што жывець там і дырэктар пробнай станцыі аграном Ластоўскі, а на вясну будуць будаваць мураваны дом. Памешчыкі далі на станцыю 20 тысяч, і казна 20 тысяч рублёў дасць, калі зацвердзіць Дума, і штогод будзе казна 20 тысяч рублёў даваць па 3 тысячы руб.*

*У гэтым гаду пасадзілі на пробу 26 гатункаў бульбы, поле ўсё дрэнавалі. Увосень жыта сеялі і садзілі розных гатункаў.*

*Адну дзесяціну бульбы, касілі бульбяннік, як толькі кончыў красаваць, а другую пакінулі. Някошаная бульба дала на 320 пудоў больш бульбы, як кошаная. На вясну станцыя будзе шырока рабіць розныя пробы, каб ведалі гаспадары, як гаспадарыць. Каля пробнага поля дырэктар Ластоўскі засеяў сам ... жыта двом гаспадаром Войшніцы і Развадоўскаму. Паглядзім, што будзе!"* [10].

У 1915 г. Ластоўскі стаў бежанцам і пасяліўся ў Менску. Лідскі абшарнік Андрэй Раствароўскі ў сваіх успамінах пісаў, што Ластоўскі ў Менску, у *"1917-18 гг. лічыў сябе беларусам".*

Прафесар Вацлаў Ластоўскі кіраваў станцыяй на працягу 35 гадоў. Сярод іншых прац, ён вывеў адаптаваную да прыродных умоў Віленшчыны бульбу Альмарыя, а таксама беняконскае жыта, тыбецкі авёс, авёс Лонгінус і раннія гатункі лубіну.

І сёння бульба застаецца для нас адной з галоўных сельскагаспадарчых культур і, што вельмі істотна - часткай беларускай культуры.

***Леанід Лаўрэш.***

[9] Kuryer Litewski № 221, 30 wrzesnia (13 pazdziernika) 1910.

[10] Наша Ніва № 50, 15 (28) лістапада 1911.

# Лідскія юбіляры

## ЁН ВЕДАЎ УСІХ ЛІДСКІХ ЛІТАРАТАРАЎ

## *Да 90-годдзя Алеся Жалкоўскага, 1933 - 2011*

14 красавіка 2011 года ў Лідзе абарвалася нітка жыцця вядомага, руплівага і таленавітага краязнаўца, журналіста, шчырага змагара за беларускасць **Алеся Жалкоўскага**.

Жыццё – як тонкае лязо. Па ім трэба прайсці так, каб не збочыць ні ў які бок. Каб не пахіснуцца, каб не зачапіцца і не ўпасці. Прайсці такі складаны жыццёвы шлях можа не кожны, але ўсё ж ёсць такія асобы. Сярод іх – Жалкоўскі Алесь Васільевіч.

Нарадзіўся Алесь Васільевіч 1 сакавіка 1933 года ў вёсцы Сасновы Бор (да перайменавання Цёмнае Балота) Шчучынскага раёна. Яго беларускія перакананні нарадзіліся тут жа. Падчас вайны немцы перавезлі сям'ю яго бацькоў у Вострава, на прымусовыя работы ў маёнтак Чаляёршчына.

Аматарам мастацкага слова вядомы ўздзенскі Нізок, багаты на паэтаў. На гэтае паселішча падобныя дзятлаўскія Зачэпічы, якія слынны Ул. Калеснік назваў гняздом паэтаў. А вось Валянцін Блакіт у мемуарах "Уваскрасенне ўчарашняга дня" (часопіс "Дзеяслоў" № 6 за 2007 г.) параўноўвае з вёскай Нізок роднае Вострава, бо яно было багатае на рэдактараў, вось радкі з расповяду В. Блакіта: *"Саша Жалкоўскі доўгія гады рэдагаваў адну з лепшых у рэспубліцы лідскую газету "Уперад", Саша Сыч – "Астравецкую праў-*





***Сустрэча з пісьменнікамі ў Гудзевічах (Мастоўскі р-н) 14 траўня 1967 г. Праводзілі яе Алесь Белакоз і рэдакцыя раённай газеты "Зара над Нёманам". На здымку злева направа: Валя Жалкоўская, трэцяя Вольга Іпатава, Аляксей Пяткевіч, Данута Бічэль, Вера Белакоз, Алесь Жалкоўскі; на заднім плане ў цэнтры Васіль Быкаў, Ларыса Геніюш, Алесь Белакоз***



***Ля помніка Цётцы ў Астрыне. Валянціна Коўтун, Алесь Жалкоўскі, Крысціна Лялько. 80-я гады ХХ ст.***

*ду", ну і я больш за трыццаць гадоў – "Вожык".*

Аўтар мемуараў прыгадвае, як юныя карэспандэнты з Вострава марылі стаць журналістамі і дасыламі свае нататкі ў розныя рэдакцыі: *"Творчую пальму першынства трымаў старэйшы Саша Жалкоўскі, чые допісы друкавала не толькі раёнка, а часам абласная і нават рэспубліканскія газеты. Навыперадкі за ім гналіся мы, маладзейшыя... Пасля сямігодкі Жалкоўскага ўзялі на работу ў рэдакцыю ў суседнюю Астрыну".*

Летам 1950 года ў тым невялікім мястэчку, якое было цэнтрам Васілішкаўскага раёна, 17- гадовы Саша Жалкоўскі пачаў працаваць адказным сакратаром рэдакцыі раённай газеты "Ленінскі шлях". Так пачалася яго журналісцкая біяграфія даўжынёй амаль шэсцьдзесят гадоў. А сасваталі яго на тую пасаду наборшчык мясцовай друкарні Міхаіл Яропкін, які партызаніў у Астрынскай старане ў гады нямецкай акупацыі, і рэдактар Платон Дубовік, таксама былы партызан, толькі з Бярэзіншчыны. Яны ацанілі здольнасці селькара і не памыліліся: пасля атрымання адпаведнай адукацыі іх вылучэнец у розныя гады узначальваў воранаўскую, мастоўскую, лідскую газеты, звыш 15 гадоў працаваў у "Гродзенскай праўдзе", супрацоўнічаў з такімі выданнямі, як "Звязда", "Беларуская ніва", "Літаратура і мастацтва", "Краязнаўчая газета", "Наша слова", "Настаўніцкая газета", "Прынёманскія весці", "Лідская газета", "Лідскі летапісец" і інш.

Артыкулы, нарысы, інтэрвію, допісы А. Жалкоўскага адрозніваюцца глыбокім зместам, каларытнасцю мовы, асабістым поглядам. Для пацвярджэння вышэй сказанага нагадаю словы Івана Лазуты, былога рэдактара Смаргонскай газеты "Светлы шлях": *"Духам здаровага творчага саперніцтва былі прасякнуты нашы рэдакцыйныя будні, працавалася ахвотна, прыемна і лёгка. Такі дабратворны мікраклімат стварыў і падтрымліваў у калектыве наш паважаны шэф – рэдактар лідскай газеты "Уперад" Аляксандр Васільевіч Жалкоўскі. Мы стараліся раўняцца на яго і ў плане творчым: публікацыі рэдактара вызначаліся вастрынёй і дакладнасцю, цікавай формай падачы, былі выразна адметны жывым, вобразным словам. Амаль што сем гадоў пашчасціла мне працаваць пад прафесійнай і бацькоўскай апекай Аляксандра Васільевіча."* (Іван Лазута "Пара ісці" з кнігі А. В. Богуша і В. П. Амелькі "Призвание быть журналистом", Гародня, 2008 г.).

Як грамадзянін і чалавек А. Жалкоўскі займаў актыўную жыццёвую пазіцыю. Яго дабрачынная дзейнасць мае свае заслужаныя вынікі. Так, у бытнасць рэдактарам газеты "Уперад" яе кіраўнік і яго калегі прымалі ўдзел у донарскім руху і ў дзейнасці Савецкага фонду міру, за што Аляксандр Жалкоўскі ўганараваны званнем "Ганаровы донар СССР" і Ганаровай граматай Савецкага фонду міру за подпісам яго старшыні легендарнага героя мінулай вайны Аляксея Марэссева. За



***Першы злева Алесь Белакоз, трэці злева рэдактар мастоўскай газеты "Зара над Нёманам" Алесь Жалкоўскі, далей пісьменнік Аляксей Карпюк. Сярэдзіна 60-х гадоў***

шматлікія публікацыі аб духоўнай прыгажосці чалавека ён узнагароджаны медалём “2000 год хрысціянству”.

Трэба адзначыць, што тэматыка публіцыстычных матэрыялаў А. Жалкоўскага даволі разнастойная. Гэта і падзеі культурнага жыцця рэгіёна, творчая дзейнасць мастацкіх калектываў і асобных паэтаў, скульптараў, мастакоў, музыкаў, гэта і грамадскія з’явы, праблемы эканомікі, дзейнасць уладных структур, грамадскіх арганізацый, міжнацыянальныя адносіны, жыццё ўстаноў адукацыі...

А. Жалкоўскі ведаў практычна ўсіх літаратараў Лідчыны, і быў асабіста добра знаёмы з многімі з іх. Ён адкрыў шматлікім чытачам імя земляка з Варшавы, вядомага публіцыста і



***Алесь Жалкоўскі ўручае кветкі Генадзю Бураўкіну, крайні справа Васіль Быкаў. Ліда, 23.03.1974 г.***



***Падчас сустрэчы з Нілам Гілевічам у Лідскім педкаледжы. Справа ад паэта яго стрыечны брат Леў Гілевіч - работнік Лідскай архітэктуры, злева Дзінара Мазітава, далей Алесь Жалкоўскі. 14.04.1997 г.***

збіральніка фальклору Лідчыны Земавіта Фядэцкага, сына землеўласніка з маёнтка Лебяда.

А. Жалкоўскі вылучаўся сваёй добразычлівасцю, увагай да ўсяго і кожнага.

Алесь Жалкоўскі на працягу ўсяго жыцця заставаўся змагаром за роднае слова, заступнікам за народ беларускі. У апошнія гады, калі раённыя і абласныя газеты сталі больш рускамоўнымі, Алесь Васільевіч не здаўся, не апусціў рук, не здрадзіў роднай мове. І яго беларускасць была настолькі натуральнай, што іншым ён і не ўяўляўся.

Правесці ў апошні шлях Алеся Жалкоўскага прыйшлі і работнікі ідэалагічнага аддзела Лідскага райвыканкаму ды старшыня райсавета і сябры ТБМ ды БНФ. І надпіс на крыжы быў па-беларуску, і большасць вянкоў падпісана па-беларуску. Але самае галоўнае, што калі прыйшла пара на жалобным мітынгу сказаць апошняе “Бывай”, унучка Насця развіталася з дзедам на чысцюткай і натуральнай беларускай мове. Не толькі сам пражыў беларусам Алесь Жалкоўскі, але і пакінуў сваю беларускасць у спадчыну, перадаў з генамі і крывёю.

***Міхась Мельнік***

***Алесь Хітрун.***

*“Ад лідскіх муроў”, № 7.*

***Святлана Марозава,***
*доктар гістарычных навук,*
*прафесар*

# ПРА ЛЕАНІДА ЛАЎРЭША

## *60 гадоў з дня нараджэння*

### 1. Таленавіты даследчык слаўнага гісторыяй Лідскага краю

#### Пісьменнік, які прэзентуе прафесійную культуру гісторыка

На першыя краязнаўчыя артыкулы Леаніда Лаўрэша натхнілі адкрыцці, зробленыя разам з сябрамі падчас вандровак па роднай Лідчыне ў 2000 г. У вёсцы Ішчална яны знайшлі дзейны сонечны гадзіннік XVIII ст. - ці не адзіны ў Беларусі, у вёсцы Бабры - язычніцкі камень-следавік, навуцы да таго невядомы. Услед прыйшла цікавасць да помнікаў храмабудаўнітва Лідчыны, а разам з імі - і да канфесійнай гісторыі Беларусі і краю. З-пад пяра выйшлі артыкулы пра асобныя прыходы, храмы, капліцы розных канфесій, пра замкі і палацы, маёнткі і сядзібы Лідчыны. Асобныя працы даследчык прысвяціў лідскай чыгунцы і пошце, навучальным установам і прамысловым прадпрыемствам, пахаванням і месцам гістарычных падзей. Ён піша пра войны, паўстанні; звяртаецца да пытанняў эканамічнай гісторыі; рэканструіруе невядомыя факты гісторыі населеных пунктаў краю. Храналагічны дыяпазон навуковай зацікаўленасці Леаніда Лаўрэша гісторыяй Лідчыны - ад часоў першабытнасці і сярэднявечча да Заходняй Беларусі 1921-1939 гадоў.

Ці ведае яшчэ хто так грунтоўна гісторыю Ліды і Лідчыны, як Леанід Лаўрэш? Напэўна, гэта рытарычнае пытанне. Ён можа не проста распавесці пра кожную вуліцу, наяўны будынак, храм, але і даць уяўленне, як яны змяняліся ў часе. Усё гэта сам даследаваў па крыніцах. Слухаючы яго, нібы перамяшчаешся ў часе і крочыш па эпохах. Ён ведае кожную гістарычную вёску свайго краю.

У полі зроку дапытлівага вандроўніка і даследчыка таксама людзі - звычайныя лідзяне і знакамітыя ўраджэнцы краю. Ён піша пра педагогаў і студэнтаў, вучоных і мысліцеляў, пісьменнікаў і мастакоў, святароў і вернікаў, вайскоўцаў і паўстанцаў, пра манархаў і ўраднікаў, масонаў і камуністаў, яўрэяў, гараджан і сялян. Апублікаваў біяграмы і біяграфічныя даследаванні, прысвечаныя фундатару Маламажэйкаўскай



***Каля замка.*** *Фота Сяргея Марозава*

царквы Шымку Мацкавічу, асветніку Францішку Нарвойшу, акадэміку Берлінскай акадэміі Аляксандры Нарбут, манаху-базыльяніну Цэзарыю Каменскаму, вучонаму-астраному Марціну Пачобуту-Адляніцкаму, міністру Беларускай Народнай Рэспублікі, генералу Кіпрыяну Кандратовічу, паэту Антону Гарэцкаму, лідскаму гісторыку ХХ ст. Міхалу Шымялевічу і інш.

Асаблівую цікавасць лідскі даследчык мае да гісторыі навукі: філасофіі, гісторыі, астраноміі. Ён першым напісаў кнігу пра развіццё астраноміі ў Беларусі - "І зорнае неба над галавой…" (Мінск, 2013. 266 стр.).

Сукупнасцю сваіх прац - а гэта 13 кніг і больш за

330 артыкулаў - Леанід Лаўрэш адкрыў сваім землякам шматлікія невядомыя старонкі мінулага Лідчыны і стварыў грунтоўную і багатую гісторыю свайго краю, паказаўшы яе ўнікальнасць. У 2017 г. Саюз беларускіх пісьменнікаў прызнаў літаратурны, публіцыстычны і перакладчыцкі талент Лаўрэша і прыняў у склад сваіх сябраў.

Працы даследчыка Лідчыны - кнігі і артыкулы - заснаваны на багатым фактычным матэрыяле і грунтуюцца на саліднай крыніцавай базе. Гэта самыя разнастайныя крыніцы, архіўныя і апублікаваныя: помнікі права і актавыя матэрыялы, справаводства і статыстыка, летапісы і хронікі, літаратурныя і публіцыстычныя творы, мемуары і перапіска, перыёдыка. У сваіх краязнаўчых даследаваннях Леанід Лаўрэш зыходзіць з яго вялікасці факта. Шэраг публікацый ён прысвяціў самім крыніцам - рэчавым, вусным, пісьмовым і выяўленчым, у тым ліку каменным магілам, паданням, малюнкам, паштоўкам і фотаздымкам.

Звычайна краязнаўства асацыіруецца з аматарствам. Гэта не пра Лаўрэша. Яго кнігі - гэта навуковае даследаванне, хай сабе і выкладзенае ў папулярнай форме, але напісанае на грунтоўным крыніцазнаўчым і гістарыяграфічным падмурку, што прэзентуе прафесійную культуру гісторыка. І кнігі яго маюць пэўны рэзананс у гістарычнай супольнасці Беларусі.

Не выпадкова кафедра гісторыі Беларусі Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы не аднойчы запрашала лідскага даследчыка да супрацоўніцтва, і ён удзельнічаў у творчым калектыве, які па заданні Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук працаваў на навуковымі праектамі. Ён - удзельнік шматлікіх навуковых гістарычных канферэнцый і круглых сталоў, дзе выступаў па лідскай тэматыцы. У 2020 г. Леанід Лаўрэш быў узнагароджаны граматай-падзякай ад Інстытута гісторыі *"за арганізацыю навукова-пошукавай работы і плённую працу на ніве краязнаўства"*.

## Лідскі асветнік

Калі па пошукавай сістэме мы знаходзім у рэсурсах інтэрнэта патрэбныя нам тэксты па гісторыі Беларусі і Гарадзеншчыны, наўрад ці думаем, што трэба быць удзячнымі людзям, якія іх змясцілі ў сусветным павуцінні. Адзін з іх - Леанід Лаўрэш. Інжынер, які адзін з першых зразумеў, што будучыня - за электроннымі бібліятэкамі (рэсурсамі), і паставіў лічбавыя тэхналогіі на службу гістарычнай навуцы і краязнаўству. У 1999 г. ён стварыў сайт PAWET, прысвечаны беларускай гісторыі і культуры, і вось ужо 24-ты год мэтанакіравана і сістэматычна напаўняе яго новымі, а таксама і старымі, выяўленымі ім, кнігамі і артыкуламі, картамі і альбомамі, аўдыя- і відэаматэрыяламі. Робіць гэта штотыдзень, па суботах, у вольны ад асноўнай работы час, калі большасць з нас адпачывае.

З часам PAWET стаў найбагацейшым гістарычным парталам. У ім - бібліятэка з раздзеламі "Гісторыя", "Мастацтва", "Філалогія, Гісторыя літаратуры", "Філасофія, роздумы" і іншае. Яны, у сваю чаргу, падзяляюцца на падраздзелы. У каталогу-раздзеле "Гісторыя" выдзяляюцца падраздзела "Гісторыя Беларусі", "Гісторыя навукі" і "Гісторыя Лідскага павета, краязнаўства". А яны, у сваю чаргу, утрымліваюць тэматычныя, храналагічныя і імянныя падраздзелы. І ўсё гэта - лёгкае для пошуку. Сістэма "Пошук" унутры сайта, між іншым, таксама настроена. Ужо яна сведчыць пра багацце тэматычнай электроннай бібліятэкі, якую стварыў Леанід Лаўрэш.

Асобна вылучаюцца багаты збор мемуараў людзей, якія жылі ў розныя эпохі; калекцыя альбомаў, фатаграфій, карцін. У раздзеле "Лідская генеалогія" вы можаце паспрабаваць і нават рэальна знайсці сваіх продкаў з Лідчыны. На сайце - таксама калекцыя карт XVIII-XXI ст.

На сайце PAWET вы знойдзеце насычаныя ўнікальнымі матэрыялымі па гісторыі Лідчыны газеты "Zemia Lidska", "Zycie Lidskie", "Лідскае слова", архіў газеты "Наша слова" за 2005-2023 гады. Тут жа - "падшыўка" краязнаўчага, гістарычна-літаратурнага часопіса "Лідскі летапісец" за 2003-2022 гады. Які яшчэ раён Гарадзеншчыны мае свой гістарычны часопіс? Стараннямі пісьменніка і журналіста Станіслава Судніка, які сваё жыццё прысвячае беларускай мове і гісторыі, Лідскі раён мае.

Галоўна старонка сайта PAWET адлюстроўвае найноўшыя, размешчаныя ў папярэдні тыдзень, тэксты - манаграфіі і навукова-папулярныя працы, матэрыялы навуковых канферэнцый, артыкулы, перыядычныя выданні, візуальныя матэрыялы і інш.

Агульны аб'ём інфармацыі на сайце PAWET вымяраецца гігабайтамі. Штодня гэтым унікальным рэсурсам карыстаецца сотні, а то і тысячы чалавек. Калі ў адрасе знойдзенага вамі тэкста будзе прысутнічаць слова "pawet", знайце - за поспехам вашай знаходкі стаіць ужо вядомы вам Леанід Лаўрэш. Створаны ім сайт служыць развіццю беларускай гістарычнай навукі і адукацыі.

Вядомы беларускі гісторык Яўген Анішчанка сваю кнігу па генеалогіі пад назвай "Шляхта Лидского повета" (Мінск, 2013) пачаў такімі словамі: *"Шляхце Лідскага павета пашанцавала. Ужо досыць даўно ў Інтэрнэце існуе сайт "Павет", прысвечаны розным бакам гісторыі гэтага края, у тым ліку і пытанням генеалогіі. На ім публікуюцца новыя рэтраспекцыі па гэтым рэгіёне, як увогульным плане, так і па асобным родам"* [1].

У пачатку XVI ст. Францішак Скарына з Полацка даў беларусам друкаваную кнігу. На скульптуры ў Лідзе асветнік трымае ў руках разгорнутую кнігу і нібы гаворыць нам, сённяшнім: "Бярыце, чытайце!" Гэтак жа ў пачатку XXI ст., у век новых тэхналогій, Леанід Лаўрэш адкрывае перад намі багатую тэматычную кніжную

[1] Анищенко Е. К. Шляхта Лидского повета. Минск, 2013. С. 4.

скарбніцу, якую назапашваў дзесяцігоддзямі: "Бярыце, чытайце!" Асветнік - гэта чалавек, які бескарысна нясе людзям веды; прагрэсіўны грамадскі дзеяч, пашыральнік перадавых ідэй і ведаў.

### Патрыёт свайго краю

Леанід Лаўрэш - таленавіты даследчык слаўнага гісторыяй горада Ліды і Лідскага краю. А таксама вялікі патрыёт сваёй малой радзімы, якую ўслаўляе, гістарычны прэстыж якой уздымае сваімі кнігамі і артыкуламі. Яны перадаюць дух і атмасферу мінулых эпох, дапамагаюць убачыць прыгажосць і веліч нацыянальнай гісторыі і адчуць яе боль, зразумець, як жылі пакаленні продкаў, якія праблемы турбавалі нашых бацькоў, дзядоў і прадзедаў. Пакаленні лідзян выхоўваюцца на даследаваных Леанідам Лаўрэшам эпізодах мінулага, на іх прыкладах фарміруецца гістарычная памяць землякоў. Для вывучэння ён абірае не толькі малыя эпізоды, але актуальныя гістарычныя сюжэты і вызначальныя моманты айчыннай гісторыі, якімі былі, напрыклад, нацыянальна-вызваленчыя паўстанні XIX ст. Сваімі аўтарскімі даследчымі працамі, а таксама ўсім зместам назапашаных, сабраных разам і даступных цікаўным лічбавых рэсурсаў Леанід Лаўрэш прышчэплівае суайчыннікам пачуццё гонару за сваю зямлю і народ. У супольнасці гарадзенскіх гісторыкаў высокі гістарычны рэйтынг Ліды сфарміраваны не толькі старажытным замкам і помнікам Скарыну, але таксама працамі Лаўрэша і яго выступленнямі на навуковых канферэнцыях.

А да таго ж усю сваю даследчыцкую дзейнасць і пісьменніцкую творчасць таленавіты лідзянін ажыццяўляе на беларускай мове, якая з'яўляецца важным элементам нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў і фактарам нацыянальнай бяспекі Беларусі.

Чалавек, які больш за траціну жыцця прысвяціў таму, каб жыхары Лідчыны ведалі гісторыю свайго краю і ёй ганарыліся, які паставіў на службу краязнаўству і гістарычнай навукі каштоўны інфармацыйны рэсурс - электронную бібліятэку, варты нашага прызнання, падзякі і павагі.

## 2. Тры стагоддзі гісторыі роду Лаўрэшаў[2]

Свой радавод па бацькоўскай лініі пісьменнік і гісторык Леанід Лаўрэш рэканструяваў ў дзесяці пакаленнях. Дбайнае вывучэнне рарытэтных публікацый крынц і архіўных дакументаў з архівасховішчаў Вільні, Гародні дазволілі яму заглянуць аж у першую палову XVIII ст.

Заўважу, што архіў Калантаеўскай царквы (Ваўкавыскага павета), адкуль маці Леаніда Лаўрэша, згарэў падчас Другой сусветнай вайны, і таму зрабіць радавод па маці немагчыма.

Наколькі дакументы дазваляюць заглянуць углыб гісторыі роду, яго прозвішча мела двайное напісанне, нават пад пяром аднаго і таго ж пісара: Лаўрэш (Lawresz) і Лаўрыш (Lawrysz). Так засталося і да гэтага часу: адны нашчадкі - Лаўрэшы, іншыя - Лаўрышы ці нават Лаўрашы.

Храналагічна самы першы з продкаў, імя якога ўдалося ўстанавіць, - гэта **Павел Лаўрэш**, які нарадзіўся каля 1740 г. Яго сын **Рыгор Лаўрэш**, 1768 года нараджэння, згадваецца ў рэвізскіх казках прыхаджан лыскаўскай парафіі Ваўкавыскага павета за 1795 г. разам з жонкай **Мар'янай** і аднагадовым сынам **Язэпам**[3] (?1794 года нараджэння). Рыгор Лаўрэш меў таксама сыноў **Лукаша** (нарадзіўся ў 1807 г.), **Юрыя** (нарадзіўся ў 1809 г.)[4]. Згодна дакументаў 1824-1828 г., сям'я Лаўрэшаў - гэта вернікі Зельзінскай царквы Ваўкавыскага павета. У 1823 г. сям'я Лаўрэшаў - самастойная гаспадарчая адзінка, "дым", мела свой дом. У 1826 г. ужо жыла пры панскім двары. Верагодна, пажар знішчыў уласны дом. Чым займаліся Лаўрэшы Зельзінскія, крыніцы ўмоўчваюць. Па веры яны былі грэка-каталікамі.




***Інвентар вернікаў парафіяльных цэркваў Ваўкавыскага дэканата, 1828 г. Зельзінская царква. Фрагмент[5]***

У 1828 г. у сям'і Язэпа Лаўрэша нарадзіўся сын **Дзяніс**. У тым жа годзе 29-гадовы Язэп аўдавеў. Але ён ажаніўся яшчэ раз і меў дзяцей ад другога шлюбу.

Згодна з інвентаром 1845 г. Лаўрышы жылі ў фальварку Галоўчыцы Ваўкавыскага павета, які належаў абшарніку Пятру Біспінгу. Язэп (Іосіф) Лаўрэш, які аўдавеў другі раз, тады ўжо меў 52 гады. Разам з ім

[2] Падрыхтавана на аснове матэрыялаў, прадстаўленых Л. Л. Лаўрэшам.

[3] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 24. Воп. 7. Спр. 327. Рэвізскія сказкі прыхажан Лыскаўскай парафіі Ваўкавыскага павета за 1795 год. Арк. 78, 81.

[4] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 23. Інвентар вернікаў парафіяльных цэркваў Ваўкавыскага дэканата, 1823 г. Зельзінская царква, 16 студзеня 1824 г. Арк. 101 адв.

[5] Там жа. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 12. Арк. 30.

жылі 19-гадовы сын Дыянісій, 15-гадовы **Базыль (Васіль)**, 9-гадовы сын **Іван (Янка)** і дочкі **Мар'я** - 17 гадоў і **Юзэфа** - 6 гадоў[6].

З рэвізскай казкі 1858 г. даведваемся, што ў Васіля была 25-гадовая жонка **Мар'яна**.

Як сведчыць "Устаўная грамата маёнтка Галоўчыцы" 1862 г. (уласнасць абшарніка Эдуарда Твардоўскага)[7], пры скасаванні прыгоннага права асабістую волю атрымалі сяляне Язэп (Іосіф) Лаўрыш (Лаврыш - так ў дакуменце) і яго сыны Васіль, Іван і дачка Юзэфа[8]. Жонка Васіля не згадваецца - магчыма, ён аўдавеў. Паводле выкупнога акта № 256 ад 19 жніўня 1864 г. сяляне-гаспадары вёскі Галоўчыцы Лаўрышы атрымалі па адной дзесяціне сядзібнай і адной дзесяціне ворнай зямлі. І павінны былі штогод плаціць за яе 80 капеек выкупнога плацяжу пры кошце зямлі ў 13 рублёў 33,3 капейкі[9].

Указам віленскага генерал-губернатара Мураўёва-вешальніка абабраным сялянам, каб адцягнуць іх ад паўстання, дадалі да ранейшага надзела яшчэ па адной дзесяціне ворыўнай зямлі. Сярод іх быў і Васіль Лаўрыш[10]. Верагодна, гэта было вяртанне зямлі, забранай у 1845 г. па інвентарнай рэформе.

13 траўня 1885 г. дачка Васіля, сялянка вёскі Галоўчыцы **Наталля Васільеўна Лаўрэш** ва ўзросце 22 гады ўзяла шлюб з Восіпам Міхайлавічам Сяргеевым (таксама меў 22 гады)[11]. Больш пра галіну Васіля, брата прапрадзеда Леаніда Лаўрэша - Івана пакуль нічога невядома.

У верасні 1863 г. маёнтак Галоўчыцы абшарніка Твардоўскага за ўдзел у паўстанні быў перададзены ў дзяржаўную маёмасць. Гарадзенская палата дзяржаўных маёмасцей прымала тады прэтэнзіі сялян да свайго былога пана. Сярод іншых, прэтэнзіі выказаў прапрадзед Леаніда Лаўрэша, адстаўны салдат **Іван Лаўрэш**. Ён хадайнічаў аб вяртанні 5 чвэрцяў бульбы, якую забраў панскі аканом за тое, што Іван пакінуў службу ў Твардоўскага[12]. Суд прызнаў яго прэтэнзію абгрунтаванай[13].

Іван (Ян) Лаўрэш як мінімум меў двух сыноў - прадзеда Леаніда Лаўрэша - **Гаўрыіла** і яго брата **Фаму**, які пазней жыў у вёсцы Ярашэвічы. Фама Іванавіч Лаўрэш (Фома Иванов Лавреш) быў жанаты з **Марыяй Грыгор'еўнай Лаўрэш** (Мария Григорьевна Лавришева)[14].

27 снежня 1882 г. нарадзіўся і 1 студзеня 1883 г. быў ахрышчаны дзед Леаніда Лаўрэша - **Васіль**, сын сялян з вёскі Зельзін Гаўрыіла (у сям'і звалі Габрыэль) Іванавіча Лаўрэша і **Марыі Мікалаеўны**[15]. На помніку дзеда Леаніда Лаўрэша стаіць дата нараджэння 7 студзеня 1882 г. Дзед меў сясцёр **Сафію** 1886 года нараджэння[16] і **Еўпраксію**, якая нарадзілася ў 1889 г.[17].

Прадзед Леаніда Лаўрэша - Гаўрыіл аўдавеў, але ажаніўся зноў. Яго другая жонка - **Стэфаніда Яўстаф'еўна**. Ад гэтага шлюба ў 1893 г. нарадзілася дачка **Марыя** (памерла "от чирья" ва ўзросце трох гадоў). У 1895 г. нарадзіўся сын **Іван** (памёр "от чирья" праз месяц пасля нараджэння), у 1896 г. - **сын Фёдар**.

Гісторыя роду Лаўрышаў, якую Леанід Лаўрэш памятае асабіста, а не толькі па старажытных крыніцах, пачынаецца са згаданых у двух папярэдніх абзацах дзеда Васіля 1882 года нараджэння - сына Гаўрыіла Лаўрэша.

**Васіль** (1882-1969), дзед Леаніда Лаўрэша, пражыў доўгае жыццё. Ваяваў у руска-японскую вайну 1904-1905 г. Прайшоў пешшу ўсю Манчжурыю. Расказваў, што іх полк вывелі пад кулямёты ў чыстае поле - засталіся толькі тры жаўнеры, у тым ліку і Васіль. Астатнія загінулі ці трапілі ў палон. Дзед успамінаў пра тую вайну: *"То крысо шыняля асколкам адарве, то фуражку куляй праб'е - а на самім а ні драпіны"*.

"Гарматным мясам", якое не берагла армія Расійскай імперыі, Васіль зноў стаў у Першую сусветную вайну. Быў у самым пекле - Усходне-Прускай аперацыі 1914 г., якая скончылася поўным разгромам і ўцёкамі дзвюх расійскіх армій. Леанідаў дзед Васіль зноў выжыў. Ваяваў у Польшчы, Галіцыі. За выратаванне з поля бою афіцэра атрымаў "Георгія".

У спісах страт 64-га Казанскага палка, у якім ён ваяваў, запісана, што шараговец Лаўрыш Васілій Гаўрылавіч прапаў без вестак 09(22).06.1915 г. падчас баёў каля вёсак Чаркасы і Папяляны ў Галіцыі. На шчасце ён зноў выжыў, але трапіў у аўстрыйскі палон. Цікавая аналогія - адзін з герояў рамана Аляксея Талстога "Хождение по мукам" Іван Цялегін служыў у тым жа 64-м Казанскім палку і трапіў у палон недзе там жа, дзе і дзед Леаніда Лаўрэша. Каментуючы яго паланенне, другі герой рамана, Вадзім Рошчын, казаў, што калі ча-

[6] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 96. Справа аб інвентары маёнтка Галоўчыц, які належыць памешчыку Ваўкавыскага павета Пятру Біспінгу. Пачата 18 ліпеня 1845 - скончана 22 кастрычніка 1850 года.

[7] Там жа. Ф. 10. Воп. 2.

[8] Там жа. Арк. 26 адв.

[9] Там жа. Арк. 61, 64-65 адв.

[10] Там жа. Арк. 11.

[11] Там жа. Ф. 1681. Воп. 3. Спр. 3. Арк. 30 адв. - 31.

[12] Там жа. Ф. 31. Воп. 3. Спр. 384. Арк. 10-11.

[13] Там жа. Арк. 11 адв.

[14] Там жа. Ф. 1681. Воп. 3. Спр. 1. Метрычная кніга Зэльзінскай царквы аб нараджэнні, шлюбе і смерці за 1880-1883 гады. Арк. 13 адв. - 14.

[15] Там жа. Ф. 1681. Воп. 3. Спр. 1. Арк. 138 адв. - 139.

[16] Там жа. Ф. 1681. Воп. 3. Спр. 3. Арк. 59 адв. - 60.

[17] Там жа. Ф. 1681. Воп. 3. Спр. 3. Арк. 229 адв. - 230.



***Васіль Гаўрыілавіч Лаўрыш (Лаўрэш).*** *Фота 1943 г.*

лавек прапаў без вестак пры наступе - гэта значыць смерць, а калі пры адступленні -дык вельмі верагодна, што гэта палон.

Пасля некалькіх месяцаў зняволення Васіля аддалі працаваць аўстрыйскаму фермеру (канец 1915-1918 г.). Але працай на вёсцы беларускага селяніна не спужаеш, У 1918 г., калі, прайграўшы вайну, развалілася Аўстра-Венгерскае імперыя, Васіль Лаўрэш пешшу пайшоў дахаты. Па дарозе купіў у вайскоўцаў каня і вярнуўся ў родную вёску, гатовы да сельскай працы.

У хуткім часе Васіль Лаўрыш ажаніўся з **Наталляй Антонаўнай Чайкоўскай**, бабуляй Леаніда Лаўрэша, і ў цяжкай працы дажыў да Другой сусветнай вайны. У гэтай вайне не ваяваў з-за ўзросту. Але ў канцы 1944 г. немцы мабілізавалі яго везці сваім канём з абозам нейкія грузы ў Кёнігсберг. Трапіў ва Усходнюю Прусію зімой 1945 г., калі там ужо пачаліся жорсткія баі. Старому жаўнеру зноў пашчасціла вырвацца з пекла, праўда, ўжо без каня, але жывым і здаровым вярнуцца дахаты.

Толькі ў 1960-я г., калі ўжо было за 80 гадоў, дзед Васіль ўбачыў па-сапраўднаму добрае жыццё. Атрымліваў пенсію недзе ў 12-15 рублёў і ў вольны ад сялянскай працы час сядзеў ля сваёй хаты і, нібы ў цягніку, сачыў, як цячэ жыццё.

Сям'я Васіля Гаўрылавіча.

Сыны:

- **Пётр Васільевіч** (1921-2004), яго жонка **Валянціна** (1931-2006) і іх дзеці **Мікалай** (нарадзіўся ў 1951 г.), **Ніна** (1954-1986), **Ганна** (нарадзілася ў 1957 г.), **Ліда** (нарадзілася ў 1960 г.)
- **Лявонцій Васільевіч** (1923-2009) (і яго жонка **Ніна Аляксандраўна** (1929-2016) - бацькі Леаніда Лаўрэша).

**Дочкі:**

- **Надзея Васільеўна Панасевіч** (нарадзілася ў 1926 г.) і яе сын **Уладзімір**.
- **Лідзія Васільеўна Хаян** (1927-2014) і яе дзеці **Васіль** (нарадзіўся ў 1956 г.), **Алена** (нарадзілася ў 1958 г.).
- **Алена (Лёля) Васільеўна Кудравец** (нарадзілася ў 1934 г.) і яе дзеці **Ларыса, Ганна, Васіль**. Алена, якую ўсё жыццё звалі Лёляй - наймаладзейшая з дачок Васіля, дзеда Леаніда Лаўрэша, і цётка Леаніда.



***Фота 1951 г. Лявонцій Васільевіч Лаўрэш (стаіць першы справа) і яго сям'я. Злева ад яго стаяць: сястра Ліда і брат Пётр з жонкай Валянцінай. Сядзяць: яго бацька Васіль Гаўрылавіч, сястра Алена і маці Наталля***

Бацька Леаніда - Лявонцій Васільевіч Лаўрэш (1923-2009) родам з заходнебеларускай вёскі Брантоўцы тагачаснага Ваўкавыскага павета. Пасля сямігодкі вучыўся (з 1939 г.) у школе фабрычна-завадскога вучнёўства спачатку ў Ружанах, потым у Беластоку.

Юнак рана зразумеў сваю нацыянальную ідэнтычнасць. Жыў у мясцовасці, дзе быў моцны ўплыў мела Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, якая нягледзячы на моцны падмурак марксісцка-ленінскай ідэалогіі, у сялянскім асяроддзі была выразна беларускай нацыянальнай арганізацыяй.



***Лявонцій Васільевіч Лаўрэш. Франтавыя здымкі 1944-1945 г. Злева - у польскай вайсковай форме, справа - у форме Чырвонай Арміі***



***Лаўрэшы Лявонцій Васільевіч і Ніна Аляксандраўна пасля вяселля***

У пачатку 1941 г. 17-гадовага хлопца Лявонція Лаўрэша перавялі з Беластока за тысячы кіламетраў ад роднай хаты - у расійскую Уфу. А ў верасні Уфімскі ваенкамат прызваў яго, які яшчэ не дасягнуў 18-гадовага ўзросту, у войска. І адразу адправілі на фронт. Спачатку служыў у Чырвонай Арміі, у 1944 г. быў пераведзены ў Войска Польскае. Прайшоў усю вайну - быў на Смаленскім фронце, потым на 1-м Беларускім фронце.

На першым здымку - Лявонцій Лаўрэш у польскай форме, на другім - у чырвонаармейскай форме. Да 1944 г. аніводнай узнагароды не меў - "заходнікам" не давяралі. Але ў сярэдзіне 1944-1945 г. атрымаў чатыры медалі: "За отвагу", "За освобождение Варшавы", "За взятие Берлина", "За победу над Германией", а таксама ордэн Чырвонай зоркі, які так і не знайшоў героя.

Дэмабілізаваны ў 1947 г., Лявонцій Лаўрэш пачаў працаваць слесарам у ваўкавыскім чыгуначным дэпо. З чыгункай звязаў усё сваё прафесійнае жыццё.

Паралельна з працай вучыўся ў вячэрняй школе - атрымаў сярэднюю адукацыю, потым у Гарадзенскай трохгадовай школе машыністаў - марыў стаць машыністам лакаматыва. Па размеркавані трапіў на працу ў Ліду, у чыгуначнае дэпо. Так род Лаўрэшаў з'явіўся ў слаўным гісторыяй горадзе Ліда. У 1956 г. Лявонцій справіў вяселле з дзяўчынай, якая ў 1963 г. стала мамай Леаніда. Але першым сям'і нарадзіўся яго старэйшы брат Юрый (1957-1996).



***Уся сям'я Леаніда Лаўрэша, люты 2023 г.***

У канцы 1960-х - 1970-я г. Лявонцій Лаўрэш вадзіў паравоз серыі "Л" ("Элка"). Высокага тону гудок-акорд Лаўрэшаўскага паравоза, адрозны ад усіх іншых цягнікоў, заўсёды гучаў на ўездзе на станцыю Ліда. І ўсхваляваны малы, пачуўшы гучны сігнал татавага паравоза, бег дахаты. Спяшаўся абрадаваць сваіх, што з рэйсу вяртаецца яго тата - самы лепшы, самы разумны, самы справядлівы тата на свеце… Тата, які выгадаваў для Беларусі пісьменніка …

**Дзесяць пакаленняў роду:генеалагічнае дрэва**




У бацькоў Леаніда Лаўрэша - двое дзяцей: сам Леанід і яго брат Юрый. Наймалодшымі прадстаўнікамі роду Лаўрэшаў да нядаўняга часу былі сын Леаніда Вадзім і пляменнікі Таня і Юра. Але ў 2017 г. нарадзіўся Альгерд, унук Леаніда Лаўрэша, а ў 2022 г. нарадзіўся Стэфан, унучаты пляменнік Леаніда (сын пляменніка). Яны з'яўляюцца дзясятым пакаленнем роду Лаўрэшаў, калі яго адлічваць ад першага вядомага прадстаўніка роду - Паўла Лаўрэша, народжанага каля 1740 г.

Тры стагоддзі гісторыі свайго роду аднавіў пісьменнік!

## 3. Прафесійныя гісторыкі - пра навуковую вартасць кніг Леаніда Лаўрэша

### Святлана Лугаўцова, кандыдат гістарычных навук, дацэнт - пра кнігу "Інстынкт пазнання. Нарысы з гісторыі адукацыі ў горадзе Ліда" (Гродна, 2023)

"Палітыка ў галіне адукацыі той ці іншай дзяржавы з'яўляецца ключавым фактарам, які вызначае яе дынаміку: прагрэсіўны рух або стагнацыю. Разам з тым пытанням развіцця адукацыі ў беларускай гістарыяграфіі традыцый надавалася менш увагі, чым аналізу палітычных і эканамічных праблем. Новая праца Леаніда Лаўрэша "Інстынкт пазнання" у значнай меры закрывае гэтую лакуну. У ёй паслядоўна разглядаецца гісторыя адукацыі ў Лідзе з сярэдзіны XVIII стагоддзя да канца 30-х гадоў XX стагоддзя.

Вызначаныя храналагічныя рамкі даследавання супярэчаць гістарыяграфічнай традыцыі, згодна з якой гістарычны наратыў прынята дзяліць на два вялікія этапы: да рэвалюцыйных падзей 1917 года і пасля іх. У кнізе такога падзелу не існуе. Аўтар прапануе іншы падыход. Для яго мінулае існуе як адзіны неразрыўны працэс, у якім паваротным пунктам з'яўляецца 1939 год. Калі паглядзець на іншыя працы Л. Лаўрэша, то становіцца ясна: усё жыццё ён даследуе лідскую спадчыну менавіта пад такім вуглом гледжання. Для аўтара гэта цэльны сусвет, у які ён свайго чытача запрашае. Скарыстаем запрашэнне і адчынім дзверы ў гісторыю лідскай адукацыі.

Кніга пачынаецца з агляду ролі піяраў у развіцці мясцовай адукацыі і горада ў цэлым. Л. Лаўрэш даводзіць, што піяры ўвялі існаванне Ліды ў тагачасны еўрапейскі кантэкст, па сваёй значнасці іх уплыў на развіццё горада можна параўнаць толькі з будаўніцтвам у канцы XIX стагоддзя чыгункі, якая дала значны штуршок развіццю павятовага цэнтра. […]

[…] рэгіянальны аспект набывае асаблівую значнасць у сучаснай айчыннай гістарыяграфіі. Погляд на падзеі мінулага праз прызму лакальнай гісторыі дазваляе выявіць разнастайнасць і спецыфіку гістарычных працэсаў, у тым ліку па пытанні рэалізацыі адукацыйнай палітыкі расійскай улады на тэрыторыі Беларусі. Акрамя таго, рэгіянальны складнік дапамагае зразумець, у якім сацыяльным асяроддзі рэалізоўвалася дзяржаўная адукацыйная палітыка, знаёміць нас з працай канкрэтных дзеячаў народнай асветы, дазваляе ўпісаць дадзеную тэму ў рэчышча найбольш запатрабаваных навуковых напрамкаў: сацыяльную гісторыю, інтэлектуальную гісторыю, гістарычную антрапалогію. […]

Для таго, каб разабрацца ў разнастайнасці гэтых навучальных устаноў трэба ведаць асаблівасці сістэмы адукацыі Другой Рэчы Паспалітай, палітыку кіруючых колаў у адносінах да нацыянальных меншасцяў, фінансавае забеспячэнне ўрадавай палітыкі. Гэта не толькі цікавы, але і складаны шлях, які патрабуе настойлівасці і жадання рухацца далей. Узіраючыся ў нашае мінулае, мы лепш разумеем, што адбываецца ў сучаснасці. Запрашаю разам з аўтарам у гэты шлях выправіцца…"

### Аляксандр Краўцэвіч, доктар гістарычных навук - пра кнігу "Шпацыры па старой Лідзе" (Гродна, 2020)

"Кніга "Шпацыры па старой Лідзе" - плён шматгадовай працы лідскага літаратара і краязнаўца Леаніда Лаўрэша, працы архіўнай, гістарыяграфічнай, але таксама і даследчыцка-палявой, менавіта апытання сталых жыхароў горада пра падзеі XX ст.

Строга падыходзячы да справы, тут не зусім пасуе слова "краязнаўства" як да кнігі, так і да яе аўтара, бо яно асацыюецца з аматарствам. Больш дакладным будзе акрэсленне "рэгіянальная гісторыя", бо мы маем выкладзенае ў папулярнай форме навуковае даследаванне.

Кніга Лаўрэша - як вяршыня айсберга, менавіта яго частка, найбольш відочная і даступная для людскога ўспрымання. Па-за полем зроку застаецца "падводная" частка - нашмат большая як па працягласці, так і па аб'ёму прапрацаванай працы.

Каштоўнасць кнігі менавіта ў тым, што яна ўяўляе сабой прадукт гістарычнага даследавання, даведзены да канцавой мэты - масавага чытача. Але яна - не прадукт масавай культуры. Напісаная добрай выразнай мовай у апоры на грунтоўны крыніцазнаўчы і гістарыяграфічны падмурак - кніга прэзентуе культуру прафесійную.

Лічу гэтую працу выдатным дапаможнікам для ўсіх, хто хоць нейкім чынам судакранецца з гісторыяй старажытнага горада Ліда. Для экскурсаводаў, каб мелі да дыспазіцыі большы аб'ём дакладнай гістарычнай інфармацыі і менш запаўнялі час выцечкі ўласнымі фантазіямі. Для гісторыкаў, якія пішуць гісторыю рэгіёна і ўсёй краіны. Урэшце для турыстаў, якія самастойна могуць з кнігай у руках прайсціся па ўсіх апісаных у ёй мясцінах, каб усё спраўдзіць на ўласныя вочы. Прызнаюся, што сам менавіта так і зраблю, неўзабаве пасля выхаду кнігі друкам".

### Дарота Міхалюк, ад'юнкт кафедры Усходняй Еўропы, Універсітэт Мікалая Каперніка ў Торуні (Польшча) - пра кнігу "Генерал, які дайшоў да Беларусі. Жыццяпіс Кіпрыяна Кандратовіча" (Гродна, 2018)

"На стагоддзе абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў рукі чытача патрапляе біяграфія генерала

Кіпрыяна Кандратовіча, ветэрана руска-турэцкай, руска-японскай і Першай сусветнай войнаў, які ў 1917 г. далучыўся да беларускага нацыянальнага руху і стаў абаронцам незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, абвешчанай 25 сакавіка 1918 г. Вяртанне на старонкі гісторыі гэтай постаці адбылося дзякуючы пісьменніку і гісторыку Леаніду Лаўрэшу, які ўжо каля дваццаці гадоў даследуе лёс генерала і публікуе працы пра яго жыццё. Ягонай заслугай з'яўляецца адшуканне магілы генерала, пахаванага каля царквы ў Воранаве.

[…] Праца мае высокую навуковую каштоўнасць, бо падмацавана дакументамі і добра напісана. Аўтар руплiва прааналізаваў вялікую колькасць крыніц: дакументы, прэсу, успаміны і навуковыя працы. Крок за крокам мы даведваемся пра лёс генерала Кандратовіча, які жыў у складаныя часы ўпадку і скону Расійскай Імперыі ды фармавання новай палітычнай карты Усходняй Еўропы.

[…] Аўтар цікава піша пра прыступкі вайсковай кар'еры Кандратовіча, ілюструючы пры гэтым яе ўспамінамі сучаснікаў. […] Чытача будуць весці па кнізе сведчанні вайскоўцаў пра генерала, якія розняцца ад прыхільных да не вельмі станоўчых. […]

Вельмі жадаю прыцягнуць увагу ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі пачатку XX ст., да гэтага незвычайна цікавага для аматараў біяграфій, краязнаўцаў і прафесійных гісторыкаў тэкста. Аўтар не толькі з захапленнем праводзіць нас праз жыццё генерала Кіпрыяна Кандратовіча, але таксама дзеліцца з чытачом этапамі сваіх пошукаў і даследаванняў і паказвае, якой надзвычай захапляльнай можа быць праца гісторыка".

## Алесь Смалянчук, доктар гістарычных навук - пра кнігу "Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900-1939 гг." (Гродна, 2017)

"Кніга Леаніда Лаўрэша ў пэўным сэнсе ўнікальная. Гэта свайго роду хроніка мінулага Ліды, складзеная карэспандэнтамі шматлікіх газет і часопісаў, у якой адлюстравалася жыццё горада і наваколляў у першае саракагоддзе XX ст. […] Рэдакцыя кожнага выдання імкнулася данесці да чытачоў уласнае бачанне сітуацыі, асабліва калі гэта датычыла сацыяльна-палітычных ці нацыянальных і канфесійных падзей. Але менавіта гэтая відавочная суб'ектыўнасць і стварае тую шматколерную карціну мінулага, якая ў найбольшай ступені перадае дух і атмасферу мінулай эпохі і максімальна набліжае нас да яе разумення.

Горад Ліда - слаўны сваёй гісторыяй, якая мае таленавітых даследчыкаў. І Леанід Лаўрэш - адзін з іх. Ягонымі намаганнямі ўжо адноўлены многія важныя старонкі мінулага Ліды і Лідскага краю. Постаць даследчыка прысутная і ў гэтай кнізе. Праўда, яна знаходзіцца на другім плане, і чытач мае магчымасць самастойна ацэньваць тыя падзеі і здарэнні гісторыі Лідчыны, якія адлюстраваліся на старонках шматлікіх газет і часопісаў. Але іх адборам і ўкладаннем займаўся якраз даследчык, і іх прысутнасць у кнізе, безумоўна, з'яўляецца пэўным адлюстраваннем аўтарскіх прыярытэтаў як у разуменні ролі гісторыка, так і ў выбары найбольш актуальных гістарычных сюжэтаў. Дык вось сярод гэтых прыярытэтаў відавочнае імкненне да самастойнасці ў даследаваннях. Яно спалучаецца з жаданнем распавесці пра тое, што можа вызваліць чытача з палону ідэалагічных шаблонаў, сфармаваных яшчэ ў савецкія часы, пераадолець бяспамяцтва, якое на нашай зямлі навязвалася амаль усімі ўладамі XX стагоддзя. Даследчык з дапамогай перыядычнага друку раскрывае перад чытачом новыя далягляды мінулага і дапамагае яму ўбачыць прыгажосць і веліч айчыннай беларускай гісторыі, адчуць яе боль, часта схаваны пад накінутымі ідэалогіямі, якія ігнаруюць агульначалавечыя каштоўнасці і самую вялікую з іх - каштоўнасць чалавечага жыцця".

## Святлана Марозава, доктар гістарычных навук, прафесар - пра кнігу "Маламажэйкаўская царква: гістарычны нарыс" (Гродна, 2017)

"Фактычна Леанід Лаўрэш даў прыклад і ў пэўнай меры ўзор навуковага мікрагістарычнага даследавання на матэрыяле адной царквы. Як будаўнік цаглінка да цаглінкі кладзе будынак, так і тут даследчык факцік да факту ўзводзіць будынак гісторыі адной з найслаўуцейшых святынь Беларусі. Гэтыя факты, якія гадамі збіраліся ім з архіўных і апублікаваных крыніц (у тым ліку з архіваў Беларусі, Літвы, Расіі), з літаратуры і вышыхтаваліся ў лагічна-храналагічнай паслядоўнасці, разам з аўтарскай аналітыкай, аргументацыяй, назіраннямі і высновамі далі ўнікальную ў сваім родзе працу.

Старонка за старонкай мы гартаем кнігу гісторыі Маламажэйкаўскай царквы даўжынёю ў 500 год. Мы знаёмімся з падзеямі і людзьмі - уладальнікамі Мажэйкава; "калятарамі" царквы (дабрадзеямі і самадурамі); са шматлікімі прэтэндэнтамі на сам храм і яго маёмасць, рэліквіі, землі; з дзяржаўнымі мужамі і мясцовымі чыноўнікамі, ад якіх залежаў лёс храма. Перад намі праходзіць цэлы шэраг прадстаўнікоў духоўнага саслоўя: ад вышэйшых царкоўных іерархаў да радавых святароў. Дарэчы, Л. Лаўрэш аднавіў імёны ўсіх настаяцеляў храма, пачынаючы з сярэдзіны XVII ст. Гісторыя Маламажэйкаўскай царквы - гэта не роўнае поле, як на першы погляд можа падацца. На старонках гісторыі храма і на яго сценах, у яго сутарэннях, на могілках, у мясцовых паданнях - раны войн, вандалізм мясцовых Неронаў, ахвяры рэпрэсій. Не аднойчы бушавалі людскія жарсці вакол гэтай святыні.

Таму кніга Л. Лаўрэша - гэта не звыклы нам краязнаўчы нарыс. Чым далей яе чытаеш, тым больш разумееш веліч і трагізм нашай мінуўшчыны (напрыклад, аж да бальшавіцкай расправы з сынамі і ўнукам згаданага Л. Савіцкага). Пасля такіх адкрыццяў, якія зрабіў

аўтар кнігі, пра Мураванку можна складаць вершы і пісаць ледзь не дэтэктыўныя раманы".

### Аляксандр Радзюк, кандыдат гістарычных навук - пра кнігу "Паўстанчы дух. 1812, 1831, 1863 гады на Лідчыне" (Гродна, 2016)

"Кожны народ мае ў сваёй гісторыі падзеі, якімі ён ганарыцца. На гэтых невялікіх па часе эпізодах мінулага выхоўваюцца новыя пакаленні грамадзян, яны ўключаны ў кантэкст дзяржаўнай ідэалогіі, на іх прыкладах фарміруецца гістарычная памяць народа. Не выклікае сумненняў, што падобнымі вызначальнымі момантамі айчыннай гісторыі XIX ст. былі нацыянальна-вызваленчыя паўстанні і, у першую чаргу, паўстанне 1863 г.

У апошнія два дзесяцігоддзі незалежнай гісторыі Беларусі тэматыка падзей 1812, 1831 і 1863 гадоў пачала куды больш актыўна распрацоўвацца нашай гістарычнай навукай. За гэты час былі зроблены спробы іх новай ацэнкі і інтэрпрэтацыі, створаны некалькі абагульняючых прац па дадзенай праблематыцы, выдадзены шэраг зборнікаў па выніках тэматычных канферэнцый. Але нягледзячы на ўвесь паступальны рух наперад у вывучэнні гэтых момантаў нашай гісторыі, тут паранейшаму застаецца шмат "белых плямаў". Адным са спосабаў вырашэння тых пытанняў, што паўсталі на шляху вывучэння гэтых падзей, з'яўляецца распрацоўка рэгіянальнай гісторыі. Менавіта падобны падыход дазваляе нібыта праз павелічальнае шкло пабачыць тое, чаго зазвычай не відаць у акадэмічных выданнях і працах прафесійных гісторыкаў. Як вядома, на месцы бывае прасцей разабрацца з нейкай праблемай, убачыць яе спецыфіку, чым з далёкіх кабінетаў.

У дадзенай кнізе прадстаўлены нарысы гісторыі Лідчыны і яе жыхароў у барацьбе за незалежнасць свайго краю, супраць расейскага панавання. Аб'ектам аўтарскага інтарэсу былі абраны падзеі, звязаныя з вайной 1812 г. і паўстаннямі 1831 і 1863 гг. […]

Адным з несумненых дадатных бакоў дадзенага выдання з'яўляецца досыць шырока прадстаўленая галерэя лідзян - удзельнікаў тых падзей. На жаль, некаторыя з тых асоб сёння ў нас несправядліва забытыя. Таму іх прысутнасць на старонках нарысаў, а таксама невялікія біяграмы некаторых з іх выглядаюць вельмі дарэчы.

У сваім бачанні таго, што адбывалася на Лідчыне ў тыя часы, аўтар далёкі ад ідэі манапалізацыі аднаго нейкага пункту гледжання на ўсе тыя падзеі. Адной з галоўных адметнасцяў нарысаў з'яўляецца прысутнасць у іх поглядаў розных бакоў канфлікту. З аднаго боку гэта расейскія афіцэры і цывільныя чыноўнікі царскай адміністрацыі, а з іншага - прадстаўнікі супрацьлеглага лагеру, мясцовыя жыхары. Асабліва каштоўнымі, на нашу думку, з'яўляюцца ўспаміны, у якіх характарызуецца тая абстаноўка, што панавала ў Лідзе напярэдадні выбуху паўстання 1863 г. У іх адлюстраваны не столькі палітычныя, колькі штодзённыя адметнасці тагачаснага жыцця гэтага горада і навакольнага рэгіёна".

### Святлана Марозава, доктар гістарычных навук, прафесар - пра кнігу "Грэка-каталіцкая (уніяцкая) Царква на Лідчыне" (Полацк, 2012)

"Нам часта здаецца, што гісторыя робіцца ў сталіцах і буйных палітычных, культурных, рэлігійных цэнтрах. На матэрыяле аднаго кутка Беларусі Леанід Лаўрэш паказвае, як нашыя продкі - ад князёў і царкоўных ерархаў да сялян і шараговых святароў - "круцілі" гэтае кола гісторыі.

Аўтар у сваёй працы на шматлікіх фактах раскрывае царкоўна-рэлігійныя працэсы, якія адбываліся на Лідчыне ў кантэксце аналагічных ўсходнееўрапейскіх працэсаў. Спачатку падаюцца малавядомыя сюжэты і факты аб распаўсюджванні хрысціянства ў краі. Далей паказана выспяванне ідэі царкоўнай уніі ў Вялікім Княстве Літоўскім, стварэнне і дзейнасць у Лідскім павеце ў XVII-XVIII ст. уніяцкіх прыходаў і базыльянскіх манастыроў. Потым адлюстраваны падзеі рэфармавання і ліквідацыі ў першай палове XIX ст. уніяцкай царквы на Лідчыне. Завяршае працу сюжэт пра аднаўленне ўніяцкіх прыходаў у канцы XX ст. і іх сучаснае жыццё. Побач са штодзённасцю і мікрагісторыяй у кнізе прысутнічае і "вялікая" гісторыя: у людскіх дзеях, гістарычных постацях, гісторыка-культурных рэліквіях".

## 4. Спіс публікацый пра Л. Лаўрэша

1. Марозава С. В. Людзі культуры Гродзеншчыны: Леанід Лаўрэш. - Гродна : ЮрСаПрынт, 2023.

2. Чыгрын Сяргей. Плён працы Леаніда Лаўрэша // Краязнаўчая газета. 2023. 3 сакавіка.

3. Марозава Святлана. Леаніду Лаўрэшу - 60 гадоў // Наша слова.pdf. 2023. 1 сакавіка.

4. Лаўрэш Леанід Лявонцьевіч // Марозаў С. П. Сучасныя беларускія даследчыкі гісторыі Вялікага Княства Літоўскага: біябібліяграфічны даведнік. Гродна-Каўнас: ЮрСаПрынт, 2022. С. 146-147.

5. Что пишут лидские авторы и где их почитать: Леонид Лавреш // Принёманские вести. 2022. 3 марта.

6. Чыгрын С. Леанід Лаўрэш: "Хачу рэалізаваць раней задуманае…" // Czasopis. 2019. № 9. С. 16-18.

7. Шчарбачэвіч Н. Леанід Лаўрэш: "Кожная знаходка - нагода для радасці" // Звязда. 2014. 30 верасня.

8. Чэмер М. Астраномія - навука светапоглядная // Настаўніцкая газета. 2013. 20 мая.

9. Спіс важнейшых публікацый Л. Л. Лаўрэша // Лідскі летапісец. 2013. № 1. С. 24-26.

10. Марозава С. В. Сфера навуковых зацікаўленняў лідскага краязнаўца Леаніда Лаўрэша // Лідскі летапісец. 2013. № 1. С. 23-24.

11. Марозава С. В. Мае адкрыцці Леаніда Лаў-

рэша // Лідская газета. 2013. 28 лютага.
12. Марозава С. В. Мае адкрыцці Леаніда Лаўрэша // Наша слова. 2013. 27 лютага.
13. Леаніду Лаўрэшу - 50 // Наша слова. 2013. 27 лютага.
14. Лявон Лаўрэш, рэдактар аднаго з найбольш грунтоўных краязнаўчых сайтаў "Pawet" // Наша слова. 2008. 27 лютага.
15. "Павет" Леаніда Лаўрэша // Лідскі летапісец. 2001. № 3. С. 1.

## Спіс публікацый Л. Лаўрэша

### Кнігі:

1. Лаўрэш Л. Інстынкт пазнання. Нарысы з гісторыі адукацыі ў горадзе Ліда. Гродна: ЮрСаПрынт, 2023. 192 с.
2. Lawresz L. Szept pozolklych stron. Ziemia Lidzka w zwierciadle prasy lat 1922-1939. Warszawa: Wydawnictwo Poligraf, 2021. 338 s.
3. Лаўрэш Л. Шпацыры па старой Лідзе. Гродна: ЮрСаПрынт, 2020. 342 с.
4. Лаўрэш Л. Генерал, які дайшоў да Беларусі. Жыццяпіс Кіпрыяна Кандратовіча. Гродна: ЮрСаПрынт, 2018. 154 с.
5. Лаўрэш Л. Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900-1939 гг. Гродна: ТАА "ЮрСаПрынт", 2017. 432 с.
6. Лаўрэш Л. Маламажэйкаўская царква: гістарычны нарыс / пад рэд. С. В. Марозавай. Гродна: ЮрСаПрынт, 2017. 114 с.
7. Лаўрэш Л. Паўстанчы дух. 1812, 1831, 1863 гады на Лідчыне. Гродна: Юрсапрынт, 2016. 244 с.
8. Лаўрэш Л. Вандалін Шукевіч: беларускі археолаг і краязнаўца. Мінск: Харвест, 2014. 63 с. (100 выдатных дзеячаў беларускай культуры).
9. Лаўрэш Л. Ліда ўчора і сёння : гісторыя горада ў выявах. Ліда: Лідская друкарня, 2013. 152 с.
10. Лаўрэш Л. "І зорнае неба над галавой…": Нарысы з гісторыі астраноміі. Мінск: Лімарыус, 2013. 266 с.
11. Лаўрэш Л. Грэка-каталіцкая (уніяцкая) Царква на Лідчыне; пад рэд. С. В. Марозавай. Полацк: Грэка-каталіцкая парафія Святамучаніка Язафата ў г. Полацку, 2012. 128 с.
12. Лаўрэш Л. Генерал Кіпрыян Кандратовіч (Дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі). Ліда, 2007. 43 с
13. Лаўрэш Л., Круцікаў У. Ліда на старых малюнках, паштоўках, фотаздымках. Ліда, 2001. 108 с.

### Укладальнік кніг:

1. Закуй, закуй, зязюленька, рана… Анталогія беларускіх народных песень / уклад. Л. Лаўрэш. Ліда, 2021. 108 с.
2. АСОБА І ЧАС. Беларускі біяграфічны альманах. Вып. 6 / уклад.: Л. Лаўрэш, А. Фядута. Мінск, 2015. 365 с.
3. Шымялевіч Міхал. Збор твораў; уклад. Л. Лаўрэш. Гродна: ТАА ЮрСаПрынт, 2019. 326 с.

### Артыкулы:

#### 2023 год

Пра лідскія ветраныя млыны // Наша слова.pdf № 10 (62), 7 сакавіка 2023.

Гісторыя двух, амаль што аднатыпных будынкаў у Лідзе // Наша слова.pdf. 2023. 15 лютага.

#### 2022 год

Падымны рэестр шляхты Лідскага павета, 1728 г. // Лідскі Летапісец. 2022. № 3-4. С. 43-60.

Шымка Мацкавіч, яго нашчадкі і перадумовы будаўніцтва Маламажэйкаўскай царквы // Лідскі Летапісец. 2022. № 3-4. С. 61-69.

Лідскія прывілеі ў архіве Лідскага магістрата, 1785 г. // Лідскі Летапісец. 2022. № 3-4. С. 42.

Спіс былых сяброў Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў // Нясвіжскія каеты. 2022. № 9. С. 18-23.

Страчаная цывілізацыя: Маёнтак Вялікае Мажэйкава // Новы Замак. 2022. № 11. С. 206-228.

Лідскія пісьменніцы XVIII-XIX ст. // Ад лідскіх муроў. 2022. № 10. С. 478-490.

Гісторыя маёнтка Востраў // Гісторыка-культурная спадчына Лідчыны. Зборнік навуковых артыкулаў. Мінск, 2022. С. 39-45.

Новае пра генерала Яўгена фон Гротэ дэ Буко // Лідскі Летапісец. 2022. № 1-2. С. 28-29.

Жалудок і палац Чацвярцінскіх // Лідскі Летапісец. 2022. № 1-2. С. 32-38.

Лідскія Хрулі герба "Праўдзіч" // Герольд Litherland. 2022. №23. С. 145-150.

260 гадоў беларускай бульбе // Наша слова.pdf. 2022. 9 лістапада.

Лідскія камуністы ў данясеннях канфідэнта Чорнага (1932-1937) // Homo Historicus 2022. Гадавік антрапалагічнай гісторыі. Мінск, 2022. С. 200-218.

#### 2021

Шчучыншчына // Наша Слова. 2021. 27 студзеня.

Адукацыя ў Лідзе, 1920 - 1930-я гады // Маладосць. 2021. № 2. С. 92-109.

Кароткі ўспамін пра Ларысу Канчэўскую // Наша Слова. 2021. 24 сакавіка.

Ганна Патоцкая, пісьменніца, мемуарыстка, мастак // Наша Слова. 2021. 14 красавіка.

Ваверка і род Клаўсуцяў на Лідчыне // Лідскі Летапісец. 2021. № 1. С. 18-28.

Бальтазар Калясінскі, Аніцэт Рэніер і Каятан Дарашкеіч // Лідскі Летапісец. 2021. № 1. С. 37-44.

Новае пра лепшага лідскага гісторыка XX ст. Міхала Шымялевіча // Лідскі Летапісец. 2021. № 1. С. 15-

17.

Палац у Жалудку // Наша Слова. 2021. 15 ліпеня; 22 ліпеня.

Дом інжынера Мінейкі ў Дзікушках // Наша Слова. 2021. 12 жніўня.

Сяклюцкія і маёнтак Стрэліца на Лідчыне // Наша Слова. 2021. 9 верасня; 16 верасня.

Архівы і зборы маёнткаў Ішчална і Вялікае Мажэйкава // XVI Гарадзенскія навуковыя чытанні "Скарбы гарадзенскіх калекцый". Гродна, 2021. С. 46-54.

Маёнткі Касцянёва і Паперня // Наша Слова. 2021. 30 верасня; 7 кастрычніка; 14 кастрычніка; 21 кастрычніка.

Фундатар Маламажэйкаўскай царквы Шымка Мацкавіч і яго нашчадкі // Беларусь у кантэксце еўрапейскай гісторыі: асоба, грамадства, дзяржава: зб. навук. арт. / ГрДУ імя Янкі Купалы. Гродна: ГрДУ, 2021. С. 299-305.

Пошта на Лідчыне // Маладосць. 2021. № 6. С. 97-104.

Прыход у Мыто // Лідскі Летапісец. 2021. № 2. С. 19-29.

Урады,ураднікі і старасты лідскія // Лідскі Летапісец. 2021. № 2. С. 30-54.

Новае пра лідскі фарны касцёл, замак і абразы пэндзля Смуглевіча // Лідскі Летапісец. 2021. № 2. С. 55-58.

Прыход у Ракавічах // Лідскі Летапісец. 2021. № 3-4. С. 32-41.

Стары дом паміж сучасным Ліцэем № 1 і Еўраоптам // Лідскі Летапісец. 2021. № 3-4. С. 74.

Новае пра цэрквы Лідчыны ў другой палове XIX - першай палове XX стст. // Лідскі Летапісец. 2021. № 3-4. С. 42-51.

Новае пра Тэадора Нарбута і яго сям'ю // Лідскі Летапісец. 2021. № 3-4. С. 52-59.

Страчаная цывілізацыя. Гістарычныя хронікі: Маёнтак Ішчална // Новы замак. 2021. Вып. 10. С. 179-200.

**2020**

Надзеі і расчараванні протаіерэя Антона Сасноўскага // Наша Слова. 2020. 23 снежня; 30 снежня.

"На жаль, у нас не водзяцца гэтыя звяркі..." Якая армія прынесла ў Беларусь тараканаў? // Наша Гісторыя. 2020. № 5. С. 89-91.

Браніслаў Друцкі-Падбярэскі. Да 130-тых угодкаў з дня нараджэння // Лідскі Летапісец. 2020. № 1. С. 19-20.

Паўстанцы і маёнткі // Маладосць. 2020. № 9. С. 94-100.

Зноў пра святароў і царкву ў Малым Мажэйкаве // Лідскі Летапісец. 2020. №1. С. 21-31.

Ксёндз Юзаф Бародзіч і яго успаміны, датычныя Ліды // Лідскі Летапісец, 2020. 1. С. 76-80.

Успаміны ўніятаў-пакутнікаў // АСОБА І ЧАС. Беларускі біяграфічны альманах. Вып. 9. Уклад.: Д. Кандакоў, А. Фядута. Мінск. 2020. С. 246-248.

Тадэвуш Іваноўскі, яго сям'я і ягоныя ўспаміны // АСОБА І ЧАС. Беларускі біяграфічны альманах. Вып. 9. Уклад.: Д. Кандакоў, А. Фядута. Мінск. 2020. С. 57-59.

Маршалкі Лідскага павета // Лідскі Летапісец. 2020. № 2. С. 13-19.

Бердаўка // Лідскі Летапісец. 2020. № 2. С. 20-30.

Прыход у Лебядзе // Лідскі Летапісец. 2020. № 2. С. 31-45.

Новае пра лідскі фарны касцёл і замак // Наша Слова. 2020. 3 чэрвеня.

Лідчына ў XIV стагоддзі // Лідскі Летапісец. 2020. № 3. С. 14-32.

Ольжава // Лідскі Летапісец. 2020. № 3. С. 33-43.

Другі Вацлаў Ластоўскі // Лідскі Летапісец. 2020. № 4. С. 20-21.

Леанард Іваноўскі, тайны дарадца і ганаровы грамадзянін Ліды // Лідскі Летапісец. 2020. № 4. С. 72-79.

Графіня Сафія Шуазёль-Гуф'е // Лідскі Летапісец. 2020. № 4. С. 18-19.

Прыходы ў Ганчарах і Дакудаве // Лідскі Летапісец. 2020. № 4. С. 44-71.

Краязнаўства ў Лідзе // Маладосць. 2020. № 4. С. 76-77.

**2019**

Эміграцыя ў Амерыку // Маладосць. 2019. № 1. С. 17-18.

Адкуль у нас з'явіліся прусакі? // Наша Слова. 2019. 23 студзеня.

Да 135-тых угодкаў нараджэння Антона Луцкевіча // Наша Слова. 2019. 6 лютага.

Тэадор Нарбут у падзеях 1812 года // Наша Слова. 2019. 3 красавіка.

Іван Дрозд - грамадскі дзеяч і навуковец // Лідскі Летапісец. 2019. № 1. С. 23.

Пра Валеек з Галавічполя і газету "Свабода" // Лідскі Летапісец. 2019. № 1. С. 20-22.

"Невядомая вайна" XVII ст. на Лідчыне і вакол яе // Лідскі Летапісец. 2019. № 1. С. 24-37.

Амброзі Кастравіцкі // Наша Слова. 2019. 22 траўня.

Гісторыя з пахаваннем паўстанцаў аддзела Людвіка Нарбута // Наша Слова. 2019. 29 траўня.

Бальтазар Калясінскі, лідскі паўстанец і сябар Тараса Шаўчэнкі // Наша Слова. 2019. 12 чэрвеня; 19 чэрвеня.

Юлія Шышкова з лідскіх Нарбутаў // Маладосць. 2019. № 6. С. 114-122.

Ваколіца Ліды Вісманты // Наша Слова. 2019. 4 ліпеня.

Апошні беларускі базыльянін XIX ст. // Наша Слова. 2019. 10 ліпеня.

Яшчэ раз пра Летаўта // Наша Слова. 2019. 24 ліпеня.

Алена Іваноўская // Маладосць. 2019. № 8. С. 20-33.

Зноў пра апошняга беларускага базыльяніна а. Кірыла Летаўта // Наша Слова. 2019. 28 жніўня.

Грэка-каталіцкі епіскап Галаўня // Наша Слова. 2019. 16 кастрычніка.

Новае з гісторыі ўніяцкай царквы на Лідчыне: царква ў Дзікушках і прыватнаўласніцкія капліцы ў

Вялікім Мажэйкаве і Красулях // Лідскі летапісец. 2019. №2. С. 37-40.

Прыход у Радзівонішках // Лідскі летапісец. 2019. № 2. С. 41-53.

Астраномія ў Лукішскай турме // Наша Слова. 2019. 27 лістапада.

Лідчына да XIV стагоддзя // Лідскі летапісец. 2019. № 3. С. 16-34.

Касцёл на крыві // Лідскі летапісец. 2019. № 3. С. 8.

Пра трываласць беларускай рэлігійнай традыцыі // Слонімскі край. 2019. № 10. С. 14-15; № 11. С. 12-14.

Неаунія ў Дзікушскай царкве Лідскага павета ў 1925 г. // Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў. Варшава, 2019. № 5. С. 78-90.

Амброзі Кастравіцкі // Лідскі летапісец. 2019. №3. С. 49-52.

Лябёдка Іваноўскіх. Дакументальная аповесць / / Новы Замак. 2019. № 8. С. 194-212.; 2020. № 9. С. 180-219.

Пра Фелікса Стацкевіча. Да 140-годдзя з дня нараджэння // Лідскі Летапісец. 2019. 4. С. 11-15.

Сайту "Павет" - 20 гадоў // Лідскі Летапісец. 2019. 4. С. 7.

LIDA einst und jetzt // Лідскі Летапісец. 2019. 4. С. 43-61.

Сабакінцы // Лідскі Летапісец. 2019. 4. С. 22-42.

**2018**

Генералы БНР // Наша Слова. 2018. 31 студзеня.

Дом Юрыя Іваноўскага ў Галавічполі, пабудаваны па праекце архітэктара Лявона Вітан-Дубейкаўскага // Наша Слова. 2018. 2 траўня.

Трошкі пра Кастуся Езавітава // Наша Слова. 2018. 16 траўня.

Кастусь Езавітаў і Кіпрыян Кандратовіч: крэскі да біяграфій // Лідскі Летапісец. 2018. № 1. С. 13-15.

Лідская адукацыя на пачатку XX стагоддзя // Маладосць. 2018. № 10. С. 117-125.

Дыспуты паміж уніятамі і праваслаўнымі ў школьных тэатрах першай паловы XVII ст. // Наша Слова. 2018. 14 лістапада.

Яшчэ раз пра караля Андоры // Лідскі Летапісец. 2018. № 1. С. 37-50.

Новае пра лідскую чыгунку // Лідскі Летапісец. 2018. № 2. С. 32-38.

Прыход у Турэйску // Лідскі Летапісец. 2018. № 2. С. 20-28.

Гісторык у высылцы: да біяграфіі Міхала Шымялевіча // АСОБА І ЧАС. Беларускі біяграфічны альманах. Вып. 8. Уклад.: А. Фядута. Мінск, 2018. С. 136-139.

Рок плывёт над Лидой (Воспоминания Владимира Крушевского) // АСОБА І ЧАС. Беларускі біяграфічны альманах. Вып. 8. Уклад.: А. Фядута. Мінск, 2018. С. 254-256.

Фелікс Стацкевіч // Наша Слова. 2018. 22 жніўня; 29 жніўня.

Лідская чыгунка. Дакументальная аповесць // Маладосць. 2018. № 7. С. 120-139; № 9. С. 116-122.

Іваноўскія і Валейкі // Наша Слова. 2018. 26 верасня.

Лідскі дэкан - філамат, ксёндз Дзіянісі Хлявінскі / / Лідскі Летапісец. 2018. № 3. С. 7-10.

Філамат Ануфры Петрашкевіч // Лідскі Летапісец. 2018. № 3. С. 11-16.

Іншыя лідскія філаматы // Лідскі Летапісец. 2018. № 3. С. 16-17.

Горад Ліда ў лёсе ксяндза Віктара Шутовіча // Лідскі Летапісец. 2018. № 3. С. 49-51.

Новае пра Лідскія гарадскія могілкі // Лідскі Летапісец. 2018. № 3. С. 34-41.

Гротэ дэ Буко ва ўспамінах Станіслава Іваноўскага // Лідскі Летапісец. 2018. № 4. С. 10-12.

Пахаванне паўстанцаў 1863 г. каля былога фальварка Стрэліца на Лідчыне // Лідскі Летапісец. 2018. № 4. С. 14-15.

Прыходы ў Голдаве і Бабрах // Лідскі Летапісец. 2018. № 4. С. 22-40.

Лідская павятовая 5-ці класная вучэльня ва ўспамінах Яўстаха Шалевіча // Лідскі Летапісец. 2018. № 4. С. 54-60.

Новая інфармацыя пра крыж на магіле паўстанцаў 1863 г. каля Стрэліцы і іншыя народныя мемарыялы 1863 г. на Лідчыне // Наша Слова. 2018. 5 снежня.

**2017**

Савецкая, 27, 32, 34. Функцыяналізм // Лідская газета. 2017. 5 студзеня

Вуліца Савецкая (Віленская, Сувальская) далей на поўнач // Лідская газета. 2017. 18 студзеня.

Па старонках нашай гісторыі. Вуліца Савецкая каля перакрыжавання з чыгункай // Лідская газета. 2017. 1 сакавіка.

Славойкі // Наша Слова. 2017. 12 красавіка.

Лідская Тарбут-школа // Наша Слова. 2017. 10 траўня.

Калона арханёла Рафаіла ў Жырмунах // Лідскі летапісец. 2017. № 1. С. 38.

Ліда да 1914 г. // Лідскі летапісец. 2017. № 1. С. 46-70.

Лідскі замак у 1891 - 1939 гг. // Лідская газета. 2017. 11 мая.

Новае з гісторыі лідскай архітэктуры // Наша Слова. 2017. 14 чэрвеня.

Паліцыя ў Лідзе // Лідская газета. 2017. 28 чэрвеня.

400-годдзе базыльянскай кангрэгацыі ў Нагародавічах // Наша Слова. 2017. 12 ліпеня.

Грэка-каталіцкая парафія ў Нагародавічах // Лідскі Летапісец. 2017. №2. С. 28-39.

Вузкакалейныя чыгуначныя лініі вакол Ліды // Лідскі Летапісец. 2017. №2. С. 40-45.

З жыцця вуліцы Школьнай - сучаснай Кірава // Лідская газета. 2017. 19 ліпеня.

Лідская павятовая вучэльня // Маладосць. 2017. № 7. С. 125-132.

Выган - раён горада // Лідская газета. 2017. 6 ліпеня.

Генерал К. А. Кандратовіч ў 1916-1917 гг. // Наша

Слова. 2017. 3 жніўня.

Ксёндз Віктар Шутовіч і горад Ліда // Наша Слова. 2017. 30 жніўня.

Будынак Лідскай пошты - шэдэўр стылю функцыяналізму // Лідская газета. 2017. 6 верасня.

"Абрусіцелі" і дзяцінства генерала Кіпрыяна Кандратовіча // Наша Слова. 2017. 6 верасня.

Алена Скінадар з Іваноўскіх // Наша Слова. 2017. 20 верасня.

Лідскія кінатэатры // Маладосць. 2017. № 11. С. 95-104.

Генерал Кандратовіч і БНР // Наша Слова. 2017. 11 кастрычніка; 18 кастрычніка.

Грамадскі дзеяч і навуковец Іван Дрозд // Наша Слова. 2017. 25 кастрычніка.

Генерал Кіпрыян Кандратовіч у Парыжы // Наша Слова. 2017. 1 лістапада.

Лідскія друкарні // Лідскі Летапісец. 2017. № 3. С. 14-16.

Школа № 1 // Лідская газета. 2017. 15 лістапада.

Браніслаў Друцкі-Падбярэскі // Наша Слова. 2017. 20 снежня.

Кнігі цэркваў Лідчыны ў XVIII ст. // Лідскі Летапісец. 2017. № 3. С. 17-19.

Прыход ў Зблянах // Лідскі Летапісец. 2017. № 3. С. 30-48.

Славойкі на Лідчыне // Лідскі Летапісец. 2017. № 4. С. 39-40.

Тарбут-школа ў Лідзе // Лідскі Летапісец. 2017. № 4. С. 41-42.

Прыход у Орлі. // Лідскі Летапісец. 2017. № 4. С. 22-38.

**2016**

Загадкі Тарноўскага палаца // Лідская газета. 2016. 13 студзеня.

Кароль Андоры // Лідская газета. 2016. 20 студзеня.

Старыя дамы на карце нашага горада // Лідская газета. 2016. 3 лютага.

Мінская электрастанцыя // Маладосць. 2016. № 1. С. 108-113.

Яшчэ раз пра генерала фон Гротэ дэ Буко // Наша Слова. 2016. 23 сакавіка.

Яўрэі Ліды // Маладосць 2016. № 4. С. 141-154.

Старыя дамы на карце нашага горада. На поўнач ад замка - вучылішча // Лідская газета. 2016. 27 красавіка.

700-годдзе Літоўска-Наваградскай мітраполіі // Наша Слова. 2016. 4 траўня.

Пошта ў стылі канструктывізму // Звязда. 2016. 7 чэрвеня.

На поўнач ад замка - аўтавакзалы Ліды // Лідская газета. 2016. 15 чэрвеня.

Падарожжа па старых вуліцах // Лідская газета. 2016. 20 ліпеня.

Лідская гарадская электроўня, 1916-1939 // Маладосць. 2016. № 7. С. 131-139.

Кінематограф у Лідзе. Кінатэатр "Эдысан" // Лідская газета. 2016. 3 жніўня.

Дом Віленская, 19 і далей на поўнач // Лідская газета. 2016. 24 жніўня.

Цікавы лёс дома №16 па вуліцы Савецкай // Лідская газета. 2016. 14 верасня.

Прыход у Дзікушках // Лідскі летапісец. 2016. № 1. С. 15-29.

Насупраць сённяшняй Савецкай, 16 // Лідская газета. 2016. 21 верасня.

Купецкая гімназія. Якой яна была? // Лідская газета. 2016. 5 лістапада.

Міхал Шымялевіч. Крэскі да біяграфіі найлепшага гісторыка горада Ліды // Лідскі летапісец. 2016. № 1. С. 45-58.

Дом па вуліцы Савецкай, 26 і вакол яго // Лідская газета. 2016. 16 лістапада.

Лідскі піярскі калегіум // Маладосць. 2016. № 11. С. 120-130.

Хто і для якіх мэтаў будаваў дом № 23 па вуліцы Савецкай і "дом з калонамі" // Лідская газета. 2016. 30 лістапада.

13 траўня 1901 г. нарадзіўся Вітольд Пілецкі // Лідскі Летапісец. 2016. № 2. С. 15-19.

Лідскія могілкі // Лідскі Летапісец. 2016. № 2. С. 38-60.

100 гадоў Лідскай гарадской электрастанцыі // Лідскі Летапісец. 2016. № 4. С. 10-12.

Парафіяне Лідскай, Дзікушкай, Маламажэйкаўскай і Жыжмянскай грэка-каталіцкіх цэркваў у 1829 г. // Лідскі Летапісец. 2016. № 3. С. 26-40.

Ян Карловіч // Лідскі Летапісец. 2016. № 3 С. 11-13.

Лёсы родных Алаізы Пашкевіч // Лідскі Летапісец. 2016. № 3. С. 15-16.

Прыход ў Жыжме // Лідскі Летапісец. 2016. № 3. С. 20-25.

Горад Яго Каралеўскай Мосці Ліда ў другой палове XVII і ў XVIII стагоддзях // Лідскі Летапісец. 2016. № 4. С. 28-51.

**2015**

Лідчына ў 1924-1929 гг. у люстэрку прэсы // Лідскі Летапісец. 2015. № 1. С. 51-67; №2. С. 26-65.

Прыгоды Сяргея Пясецкага на Лідчыне // Маладосць. 2015. № 2. С. 148-153.

Лідскія могілкі // Наша Слова. 2015. 13 траўня.

Людвік Нарбут // АСОБА І ЧАС. Беларускі біяграфічны альманах. Вып. 6. Уклад.: Л. Лаўрэш, А. Фядута. Мінск, 2015. С. 74-105.

Уніяцкі святар Адам Плаўскі // АСОБА І ЧАС. Беларускі біяграфічны альманах. Вып. 6. Уклад.: Л. Лаўрэш, А. Фядута. Мінск, 2015. С. 125-132.

Пра Міхала Шымялевіча: Крэскі да біяграфіі найлепшага гісторыка горада Ліды // АСОБА І ЧАС. Беларускі біяграфічны альманах. Вып. 6. Уклад.: Л. Лаўрэш, А. Фядута. Мінск, 2015. С. 133-165.

Пра што гавораць помнікі каля Ходараўцаў // Лідская газета. 2015. 24 чэрвеня.

Больш за 130 гадоў таму праз Ліду прайшоў першы цягнік // Лідская газета 2015. 12 жніўня.

Па справе першай беларускай школы... // Звязда. 2015. 25 жніўня.

Пачаткі беларускамоўнай адукацыі на Лідчыне // Наша Слова. 2015. 26 жніўня.

Штодзённае жыццё павятовага горада Ліда ў 1915-1918 гадах. Паводле віленскай беларускай газеты "Гоман" // Маладосць. 2015. № 8. С. 132-140.

110 гадоў таму, выйшла першая кніга па гісторыі нашага горада // Лідскі летапісец. 2015. № 3. С. 12.

Лідчына ў люстэрку прэсы, 1930-1935 гг. // Лідскі летапісец. 2015. № 3. С. 45-84.

Будынак вясковай школкі будавалі самі сяляне // Лідская газета. 2015. 2 верасня.

Лёсы родных Алаізы Пашкевіч // Наша Слова. 2015. 14 кастрычніка.

Другі Вацлаў Ластоўскі // Наша Слова. 2015. 11 лістапада.

Народная паэзія Багушэвіча // Звязда. 2015. 22 снежня.

100 гадоў першай беларускай школе на Лідчыне // Лідскі Летапісец. 2015. № 4. С. 7-9.

Распаўсюд вершаў Багушэвіча на Лідчыне пры канцы XIX-га ст. // Лідскі Летапісец. 2015. № 4. С. 20-21.

Рэнерты ў Лідзе // Лідскі Летапісец 2015. № 4. С. 22.

Выбітныя манахі-базіліяне часоў ліквідацыі ўніі // Biuletyn Historii Pogranicza. 2015. № 15. С. 65-89.

**2014**

Ліда на старых выявах. Вуліцы Крывая і Замкавая // Лідская газета. 2014. 25 студзеня.

Генерал Яўген фон Гротэ дэ Буко // Лідскі Летапісец. 2014. № 1. С. 59-64.

Лідчына да 1914 г. у люстэрку прэсы // Лідскі Летапісец. 2014. № 1. С. 30-58.

Датаванне пабудовы царквы ў Малым Мажэйкаве // Bialoruskie Zeszyty Historyczne. Bialystok, 2013. № 40. С. 226-232.

Маламажэйкаўскі святар айцец Леў Савіцкі // Маладосць. 2014. №1. С. 120-129.

Генерал Кандратовіч: два імгненні вечнасці // Наша Слова. 2014. 19 сакавіка.

Ліда на старых выявах. На Выгане вырасла Вялікая Ліда // Лідская газета. 2014. 12 красавіка.

Стыль функцыяналізму ў Лідзе да 1939 г. // Наша Слова. 2014. 7 траўня; 14 траўня; 21 траўня.

Багушэвіч на Лідчыне пры канцы 19-га ст. // Наша Слова. 2014. 4 чэрвеня.

Першая Сусветная і Ліда // Маладосць. 2014. № 7. С. 92-98.

Ліда перад паўстаннем 1863 года // Запісы таварыства аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага. Вып. 3. Рыга, 2014. С. 63-85.

Адукацыя ў Лідзе ў першай палове XX стагоддзя // Лідская газета. 2014. 15 ліпеня.

Водгук ваенных падзей у Лідзе // Лідская газета. 2014. 29 ліпеня.

Горад на старых выявах. Установы горада // Лідская газета. 2014. 9 верасня.

Горад на старых выявах. Фарны касцёл // Лідская газета. 2014. 16 верасня.

20-ці годдзе аднаўлення дзейнасці грэка-каталіцкай царквы ў Лідзе // Наша Слова. 2014. 24 верасня.

Ліда ў 1936 - 1939 гг. // Лідскі Летапісец. 2014. № 2. С. 25-94.

Прафесар Баброўскі і скасаванне ўніяцкай царквы // Наша Слова. 2014. 9 ліпеня.

Уладзіслаў Абрамовіч // Наша Слова. 2014. 1 кастрычніка.

"Народ, які абуджаецца, не патрабуе нянек" // Звязда. 2014. 4 лістапада.

"Лідская рэвалюцыя" 1936 года // Arche. 2014. № 7-8. С. 318-333.

Кароль Андоры з-пад Ліды // Маладосць. 2014. № 10. С. 114-125.

Ліда ад пачатку Першай сусветнай вайны да нямецкай акупацыі // Лідская газета. 2014. 22 лістапада.

Жыццё дала… чыгунка // Звязда. 2014. 30 снежня.

Лідчына ў люстэрку прэсы, 1913-1923 // Лідскі Летапісец. 2014. № 3. С. 37-81.

20-ці годдзе аднаўлення дзейнасці грэка-каталіцкай царквы ў Лідзе // Лідскі Летапісец. 2014. № 3. С. 9-10.

Рэдактар - краязнавец. 105 гадоў з дня нараджэння Ўладзіслава Абрамовіча // Лідскі Летапісец. 2014. № 3. С. 22-25.

Тодар Нарбут - папулярызатар найноўшых дасягненняў прыродазнаўства // Лідскі Летапісец. 2014. № 4. С. 12-13.

"Лідская рэвалюцыя" 1936 г. у люстэрку прэсы / / Лідскі Летапісец. 2014. № 4. С. 47-62.

Лідскія цэрквы да 1939 г. // Лідскі Летапісец. 2014. №4. С. 63-79.

Жыццё святара Адама Плаўскага // Актуальныя праблемы гістарычнай навукі і адукацыі: зб. навук. арт. Гродна, 2014. С. 54-64.

**2013**

Паўстанне 1863 года на Лідчыне. Перад паўстаннем // Лідскі Летапісец. 2013. № 1. С. 40-58.

Ліда на старых выявах. Замак у 1915-1918 гг. // Лідская газета. 2013. 5 студзеня; 12 сакавіка.

Аляксандра Нарбут: жанчына-акадэмік у XVIII стагоддзі // Через гендерное равенство - к участию в общественной и политической жизни общества: материалы II Республиканской научн.-практ. конф. 15 июня 2012 г. / Мозырь, 2012. С. 177-179.

Каменныя магілы і камяні-следавікі Лідчыны. // Запісы таварыства аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага. Вып. 1. Мінск, 2013. С. 34-41.

Паўстанне 1863 г. на Лідчыне. Перад паўстаннем // Наша Слова. 2013. 23 студзеня; 30 студзеня; 6 лютага; 13 лютага; 20 лютага.

Паўстанне 1863 г. на Лідчыне. За нашу і вашу свабоду // Наша Слова. 2013. 13 сакавіка; 20 сакавіка; 27 сакавіка; 3 красавіка; 10 красавіка

Яўген фон Гротэ дэ Буко - першы кіраўнік беларускага руху ў Лідзе // Наша Слова. 2013. 20 сакавіка

Гайцюнішкі // Маладосць 2013. № 2. С. 114-118.

Фарны касцёл у Лідзе: да 690-годдзя заснавання Ліды // Наша вера. 2013. № 4. С. 12-15.

Пасля паўстання // Паўстанне 1863 г. на Беларусі і Кастусь Каліноўскі. Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі (Менск, 23 сакавіка 2013 г.). Мінск, 2013. С. 5-12.

Горад на старых выявах. Замак у 1920-1930 гадах // Лідская газета. 2013. 18 красавіка

Паўстанне 1863 г. на Лідчыне. Заканчэнне, вынікі і наступствы // Наша Слова. 2013. 12 чэрвеня; 19 чэрвеня.

Ліда на старых выявах. Рыначная плошча // Лідская газета. 2013. 8 чэрвеня; 5 ліпеня.

Вайна 1812 г. на Лідчыне // Мірскі замак у кантэксце падзелаў Рэчы Паспалітай і вайны 1812 г. Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі (г.п. Мір, 16 чэрвеня 2012 г.). Мінск, 2013. С. 127-141.

Ліда на старых выявах. Вуліца Віленская (зараз - Савецкая) // Лідская газета. 2013 20 ліпеня; 8 жніўня.

Жыццё павятовага горада Ліда ў 1906-1912 гг.: па матэрыялах віленскіх газет "Kurier Litewski" і "Kurier Wilenski" // Другі Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі. Працоўныя матэрыялы. Т. 2. Kaunas, 2013. С. 95-97.

Калантаі і Зельзін // Маладосць. 2013. №7. С. 124-131.

Віктар Басяцкі // Наша Слова. 2013. 21 жніўня.

Паўстанне 1863 г. на Лідчыне. За нашу і вашу свабоду // Лідскі Летапісец. 2013. № 2. С. 48-73.

Калонія дзяржаўных дамоў у Лідзе (1920-я - 1930-я гг.) // Лідскі Летапісец. 2013. № 2. С. 74-78.

Сябар ТБШ Міхал Шымялевіч // Наша Слова. 2013. 18 верасня.

Ліда на старых выявах. Вуліца Каменская (зараз - Ленінская): якой яна была? // Лідская газета. 2013. 3 кастрычніка; 12 лістапада.

Царква ў Мураванцы // Лідскі Летапісец. 2013. № 3. С. 75-103.

Пра галоўнага лідскага боўдзілу XX ст. // Лідскі Летапісец. 2013. № 4. С. 73-74.

Лідскія касцёлы. Фарны касцёл, касцёл Піяраў, Кармеліцкі касцёл // Лідскі Летапісец. 2013. № 4. С. 36-54.

Род Путкамераў // Асоба і час. Беларускі біяграфічны альманах. Вып. 5. 2013. С. 302-313.

**2012**

Размова са старым шляхціцам // Наша Слова. 2012. 18 студзеня; 25 студзеня; 1 лютага; 8 лютага; 15 лютага.

Праўду ў яміну не закапаеш, або шукайце і знойдзеце // Маладосць. 2012. № 2. С. 96-100.

Касцёл у Начы // Наша Слова. 2012. 4 красавіка.

Гісторыя чыгункі на Лідчыне // Лідскі Летапісец. 2012. № 1. С. 30-39.

Размова са старым шляхціцам // Лідскі Летапісец. 2012. № 2. С. 51-61.

Сляды герояў Шэкспіра ў Беларусі і на Лідчыне // Лідская газета. 2012. 10 красавіка

Гісторыя чыгункі на Лідчыне // Наша Слова. 2012. 10 траўня; 16 траўня.

Вайна 1812 г. у Літве і на Лідчыне // Наша Слова. 2012. 13 чэрвеня; 20 чэрвеня; 27 чэрвеня; 4 ліпеня 2012.

Таямнічыя замкі Лідчыны // Маладосць. 2012. № 6. С. 97-100.

Вітольд Карлавіч Цэраскі // Гістарычны альманах. Т. 17. 2011. С. 101-124.

Пагадненне 1392 г. у Востраве пад Лідай // Лідская газета. 2012. 11 верасня.

След старадаўняга палаца ў Дайнаве // Лідская газета. 2012. 6 кастрычніка.

Гісторыя чыгункі на Лідчыне // Сучасны стан беларускага краязнаўства і валанцёрскі рух. Матэрыялы Рэспубліканская навукова-практычнай канферэнцыі 16 красавіка 2012 г. Мінск, 2012. С. 173-186.

Ліда на старых выявах // Лідская газета. 2012. 1 лістапада.

Аляксандра Нарбут: жанчына-акадэмік // Лідская газета. 2012. 13 лістапада

Вайна 1812 г. у Літве і на Лідчыне // Лідскі Летапісец. 2012. № 3. С. 29-48.

Цэзары Каменскі // Наша Слова. 2012. 14 лістапада; 2012. 21 лістапада.

Ліда на старых выявах. Замак на пачатку XX ст. // Лідская газета. 2012. 15 снежня.

Пачатак будаўніцтва гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча ў Лідзе // Лідскі Летапісец. 2012. № 4. С. 32-36.

**2011**

Антоні Гарэцкі: забыты паэт // Наша Слова. 2011 2 лютага.

Funkcjonalizm w lidzkiej architekturze // Ziemia Lidzka. 2011. №2.

Паўстанне 1830-1831 гг. // Наша Слова. 2011. 11 траўня; 18 траўня; 25 траўня; 1 чэрвеня; 8 чэрвеня.

Селішчы і гарадзішчы гістарычнай Лідчыны // Наша Слова. 2011. 6 ліпеня.

Архітэктура нацыянальнага рамантызму на Лідчыне // Наша слова. 2011. 14 верасня; 21 верасня.

"Жыў аднойчы рыцар…", або сляды герояў Шэкспіра ў старажытнай Беларусі // Маладосць. 2011. № 9. С. 121-126.

След вялікай каметы 1811 г. у сусветнай культуры // Роднае слова. 2011. № 10. С. 88-92.

Антоні Гарэцкі - забыты паэт // Ад Лідскіх муроў. № 7. 2011. С. 194-200.

Нагародавічы // Наша Слова. 2011. 7 снежня.

Аляксандра Нарбут - акадэмік Берлінскай акадэміі навук // АСОБА і ЧАС. Беларускі біяграфічны альманах. Выпуск 4. 2011. Мінск. С. 6-16.

Крыніцы для вывучэння гісторыі калоніі дзяржаўных дамоў у Лідзе (1920-я - 1930-я гг.) // Гістарычная ўрбаністыка: асновы метадалогіі і крыніцазнаўчая база: зб. навук. арт. Гродна, 2011. С. 362-366.

Дайноўскі і Радуньскі замкі гістарычнай Лідчыны. Нататкі краязнаўцы // Румлёўскія старонкі: Помнікі гісторыі, прыроды і культуры паміж турыстычнай прывабнасцю і навуковай цікавасцю: матэрыялы IV адкрытай рэгіян. навук.-практ. канф. па праблемах рэгіяналістыкі і краязнаўства "Румлёўскія чытанні" (Гродна, 18 лют. 2011 г.). Гродна, 2011. С. 39-45.

Паўстанне 1830-1831 гг. Да 180-х угодкаў // Лідскі летапісец. 2011. № 4. С. 18-28.

**2010**

Лідская Дайнова // Наша Слова. 2010. 2 чэрвеня.

Ксёндз Дзіянісій Хлявінскі, філамат // Навагрудчына ў гістарычна-культурнай спадчыне Еўропы (да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы). 2010. С. 172-175.

Радуньскі замак // Наша Слова. 2010. 23 чэрвеня.

Каменныя магілы Лідчыны // Наша Слова. 2010. 15 ліпеня.

Камяні-следавікі Лідчыны // Наша Слова. 2010. 1 верасня; 8 верасня.

Капліца на Лідскім чыгуначным вакзале // Наша Слова. 2010. 13 кастрычніка.

Генерал Кіпрыян Кандратовіч: крэскі да жыцця / / Асоба і час. Беларускі біяграфічны альманах. Вып. 2. 2010. С. 81-105.

Літоўскія прыгоды шэксьпіраўскіх пэрсанажаў // ARCHE. 2010. № 10. С. 145-156.

Прамысловасць горада Ліда ў 1920-30-я гг. // Працэсы ўрбанізацыі ў Беларусі ў XIX - пачатку XXI ст.: зб. навук. арт. Гродна, 2010. С. 181-188.

**2009**

Марцін Пачобут-Адляніцкі // Наша Слова. 2009. 4 сакавіка; 11 сакавіка.

Занатоўкі да біяграфіі міністра БНР генерала Кандратовіча // Наша Слова. 2009. 1 красавіка.

Скасаванне уніі на Лідчыне // Царква. 2009. №1.

Генерал Кіпрыян Кандратовіч. 150 гадоў з дня нараджэння // Лідскі Летапісец. 2009. № 1-2. С. 24-27.

Ян Снядэцкі // Наша Слова. 2009. 20 траўня; 2009. 27 траўня; 3 чэрвеня.

Вітольд Карлавіч Цэраскі. Да 160-тых угодкаў з дня нараджэння // Наша Слова. 2009. 22 ліпеня; 29 ліпеня; 5 жніўня; 12 жніўня; 19 жніўня.

Ціхаў Гаўрыіл Андрыянавіч // Наша Слова. 2009. 25 лістапада; 2 снежня; 9 снежня; 16 снежня; 23 снежня.

Гараджанін эпохі Асветніцтва (Францішак Нарвойш) // Гістарыяграфія і крыніцы па гісторыі гарадоў і працэсаў урбанізацыі ў Беларусі. Зборнік навуковых артыкулаў. Гродна, 2009. С. 208-214.

Ліквідацыя грэка-каталіцкай царквы на Лідчыне // Хрысціянства у гістарычным лёсе беларускага народа. Ч. 1. Гродна: ГрДУ, 2009. С. 333-339.

Царква ў Дзікушках на Лідчыне // Хрысціянства у гістарычным лёсе беларускага народа. Ч. 2. Гродна : ГрДУ, 2009. С. 311-316.

Ян Снядэцкі (1756-1830) - навуковец і асветнік гістарычнай Літвы // Гістарычны альманах. Т. 15. 2009. С. 75-88.

Аляксандра Нарбут з Ліды - акадэмік Берлінскай акадэміі навук // 3-я Нефёдаўскія чытанні. Беларускае мастацтва: гісторыя і сучаснасць. ВКЛ у гісторыі Беларусі. Т. III. Мінск. 2009. С. 120-124.

Месца заключэння Востраўскага пагаднення 1392 г. // Ліда і Лідчына: да 685-годдзе заснавання горада: матэрыялы рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі (Ліда, 3 кастрычніка 2008 г.). Ліда, 2009. С. 44-48.

**2008**

Персанажы Шэкспіра - ў Літве. Граф Дэрбі // Наша Слова. 2008. 30 ліпеня; 6 жніўня.

Персанажы Шэкспіра - ў Літве. Генры Персі Хотспур // Наша Слова. 2008. 27 жніўня.

Персанажы Шэкспіра - ў Літве. Джон Бафорт // Наша Слова. 2008. 15 кастрычніка.

У пошуках знакамітага Вострава //Лідская газета. 2008. 11 лістапада.

Месца заключэння Востраўскага пагаднення 1392 г. Пачатак // Наша слова. 2007. 2 траўня.

Месца заключэння Востраўскага пагаднення 1392 г. Заканчэнне // Наша слова. 2007. 13 чэрвеня.

Крэскі да біяграфіі генерала К. Кандратовіча // Наша слова. 2007. 10 кастрычніка.

Астранамічная абсерваторыя ў Гародні // Наша Слова. 2008. 16 студзеня.

Астраномія ў Віленскім універсітэце // Наша Слова. 2008. 27 лютага.

Аляксандра Нарбутоўна, лідзянка - акадэмік Берлінскай акадэміі // Наша Слова. 2008. 9 красавіка

Месца заключэння Востраўскага пагаднення 1392 г. // Гістарычны альманах. 2007. Т. 13. С. 109-118.

**2000 - 2007**

Miejsce zawarcia ugody ostrowskiej 1392 r. // Ziemia Lidzka. 2007. № 2.

Каталіцкае Свята Божага нараджэння ў Лідзе // Наша слова. 2006. 27 снежня.

Генерал Кіпрыян Кандратовіч // Лідскі летапісец. 2005. № 4. С. 12-26.

Паданні вёскі Бабры // Наша Слова. 2005. 17 жніўня.

Гісторыя парафіі ў Ішчалне. 490 гадоў Ішчалнянскай парафіі // Наша Слова. 2005. 15 чэрвеня.

Гайцюнішкі // Наша Слова. 2005. 19 кастрычніка.

Генерал Кіпрыян Кандратовіч на службе БНР // Наша Слова. 2004. 17 сакавіка.

Грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква у Лідзе і Лідскім павеце // Наша слова. 2003. 26 лістапада.

Міністр БНР, генерал Кіпрыян (Цыпрыян) Кандратовіч // Наша слова. 2002. 10 сакавіка; 17 сакавіка.

Генерал Кіпрыян Кандратовіч // Спадчына. 2002. № 1. С. 161-166.

Лідзяне XX стагоддзя // Лідскі летапісец. 2002. № 2. С. 9-11.

Lidzianie XX wieku // Ziemia Lidzka. 2001. № 1.

Kosciol greko-katolicki w Lidzie i Ziemi Lidzkiej // Ziemia Lidzka. 2001. № 1.

Мажэйкаўскія сядзібна-паркавыя комплексы // Спадчына. 2001. № 1-2. С. 206-212.

Архітэктура Лідчыны. Готыка // Лідскі Летапісец. 2000. № 3. С. 32-34.

Камень-следавік ў в. Бабры // Лідскі Летапісец. 2000. № 1. С. 24.

Сонечны гадзіньнік у в. Ішчална // Спадчына. 2000. № 2. С. 139-141.

Сонечны гадзіньнік у вёсцы Ішчална // Лідскі Летапісец. 1999. № 4. С. 21.

*Леанід Лаўрэш*

# Гарадское самакіраванне Ліды ў другой палове XIX ст.

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у сістэму кіравання нашых гарадоў паступова пачалі ўводзіцца нормы расійскага заканадаўства, што азначала рашэнне ўсіх пытанняў толькі губернскім ці мясцовым начальствам разам з чыноўнікамі. Бяспраўнасць мясцовых органаў і іх поўная залежнасць ад бюракратычнага апарата істотна стрымлівала развіццё гарадской гаспадаркі.

Падрыхтоўка рэформы гарадскога самакіравання пачалася ў 1862 г. падчас ліберальных пераўтварэнняў імператара Аляксандра II. Да абмеркавання праекту рэформы былі прыцягнутыя прадстаўнікі розных саслоўяў гарадскога насельніцтва краю. Праект рэформы абмяркоўваўся ў тым ліку і камісіяй у Лідзе - камісія ў нашым горадзе падтрымала ідэю высокага маёмаснага цэнзу, але на пасаду гарадскога галавы прапаноўвала дапусціць "як хрысціян, гэтак і яўрэяў". Наш горад быў сярод 49 гарадоў імперыі, камісіі якіх выказаліся таксама і за ўвядзення адукацыйнага цэнзу для выбарных асоб муніцыпальнага кіраўніцтва.

Прынятае ўладамі імперыі 16 чэрвеня 1870 г. "Городовое положение" сталася больш кансерватыўным у параўнанні з першапачатковым праектам, але, безумоўна, і яно было больш прагрэсіўным у параўнанні з ранейшым заканадаўствам. Рэформа павінна была стварыць сістэму мясцовага самакіравання на аснове выбарнасці, удзелу ў выбарах усіх саслоўяў і маёмаснага цэнзу. Права прымаць удзел ў гарадскіх выбарах атрымлівалі мужчыны ў веку ад 25 гадоў, якія валодалі ў горадзе нерухомай маёмасцю або гандлёвымі і прамысловымі прадпрыемствамі і выплачвалі падатак у скарб горада. Гэтыя асобы складалі выбарчыя сходы, дзе з свайго асяроддзя выбіралі дэпутатаў ("гласных") у думу - распарадчы орган гарадскога самакіраванні.

На тэрыторыі Беларусі рэформа пачала праводзіцца пасля прыняцця 29 красавіка 1875 г. адпаведнага закона. У 1879 г. былі складзены і выверaны спісы выбаршчыкаў па разрадах, праведзены выбары, вызначаны склад думы. Усе гэтыя мерапрыемствы запатрабавалі значнага часу.

Новае "Городовое положение" было ўведзена ў Лідзе 21 кастрычніка 1880 г. Пасля ўрачыстага богаслужэння і вітальных прамоў гарадская дума адкрыла свае першае пасяджэнне. Сацыяльны склад першай гарадской думы Ліды быў пераважна мяшчанскім, што адпавядала складу насельніцтва і статусу горада. З 36 "гласных" мяшчанамі з'яўлялася 30 чалавек, 6 "гласных" належалі да дваранскага саслоўя[1].

Спіс Лідскай гарадской думы з'явіўся толькі ў Памятнай кніжцы Віленскай губерні за 1882 г. Гарадскім галавой быў абраны Рудольф Банецкі (каталіцкага веравызнання, на пасадзе з 20 кастрычніка 1880 г.), гарадскім сакратаром стаў Андрэй Татароўскі (каталіцкага веравызнання, на пасадзе з 20 кастрычніка 1880 г.)[2]. Гарадскі галава ўзначальваў усё гарадское кіраванне і абіраўся думай. Ён з'яўляўся старшынём думы - распарадчага органа самакіравання, а таксама кіраваў управай - выканаўчым органам. Колькасць чальцоў управы вызначалася думай самастойна. Дума вызначала таксама памер заробку чальцоў управы і гарадскому галаве. У склад гарадской управы Ліды ўваходзіла чатыры асобы. Акрамя гарадскога галавы Банецкага ў склад управы ўвайшлі мяшчанін Фердынанд Эйсмант (ён быў абраны намеснікам гарадскога галавы), мяшчане Тамаш Вянцкевіч і Іцка Пупко.

Гарадская дума абіралася на чатыры гады. Выбары і зацвярджэнне кіраўнічых асоб Лідскага самакіравання на другое чатырохгоддзе ў ліпені 1885 г. суправаджалася значнымі праблемамі. Гарадскім галавой Ліды большасцю галасоў тагачасная дума абрала І. Шагуна, які яшчэ ва ўправе зарэкамендаваў сябе актыўным дзеячам. Аднак гэтая кандыдатура не была зацверджана губернскім начальствам, і таму былі праведзены паўторныя выбары.

Падобная сітуацыя паўтарылася і на выбарах 1889 г. У лістападзе 1889 г. гарадскім галавой Ліды на трэцяе чатырохгоддзе дума абрала двараніна каталіцкага веравызнанні Антона Малеўскага. Тады частка "глас-

[1] Грибко И.Л. Из истории городского самоуправления г. Лиды (конец XIX ст.) // Ліда і Лідчына: да 685-годдзя з дня заснавання горада : матэрыялы рэспуб. навук.-практ. канф., (Ліда, 3 кастр. 2008 г.). Ліда, 2008. С. 62-63.

[2] Старшынём гарадской управы быў гарадскі галава, членамі ўправы абраны Тамаш Вянцкевіч, Фердынанд Эйсмант і Ісак Пупко.

Асобы абраныя "гласныя" Гарадской думы: Эдуард Качынскі, Альфонс Астравух, Людвік Гурскі, Тамаш Вянцкевіч, Фердынанд Эйсмант, Міхал Астроўскі, Іван Брэйва, Сямён Стасевіч, Ян Валюкевіч, Вінцэнт Брэйва, Антон Ілюковіч, Іосіф Кудоцін, Леапольд Рудніцкі, Геранім Сялятыцкі, Франц Ёдка, Марцін Лебядзінскі, Іван Семяновіч, Ігнат Дзямідовіч, Стэфан Гнядзевіч, Сямён Гарневіч, Міхал Гарневіч, Антон Пухальскі, Іосіф Сягла, Вакс Зысканд, Ісак Пупко, Нафталь Сольц, Хаім Каган, Іцка Вольфавіч, Саламон Разенталь, Гірш Музыканцкі, Ёсель Камянецкі, Мойша Баран, Янкель Пупко, Айзік Эпштэйн, Гдалія Гальданскі. - Гл: Памятная книжка Виленской губернии на 1882 год. Вильна, 1882. С. 247-248.

ных" думы звярнулася са скаргай на ход выбараў. Было праведзенае расследаванне, і хоць пераканаўчых доказаў парушэнняў не знойдзена, губернатар прасіў міністра ўнутраных спраў адхіліць кандыдатуру Малеўскага і замест яго зацвердзіць на пасаду гарадскога галавы двараніна Рафаловіча, які набраў падчас выбараў меншую колькасць галасоў. Матывуючы сваю просьбу, губернатар падкрэсліў, "што гарады заходніх губерняў не могуць лічыцца суцэльна добранадзейнымі". У сакавіку 1890 г. міністр унутраных спраў зацвердзіў на пасадзе лідскага гарадскога галавы Рафаловіча[3].

Гісторык Ірына Грыбко адзначыла, што, нягледзячы на значнае супрацьстаянне і апеку з боку губернскай адміністрацыі, падчас дзейнасці ўстаноў самакіравання Ліды, гарадскія справы значна палепшыліся. Сродкі для муніцыпальнага бюджэту першым чынам былі атрыманы коштам спагнання нядоімак, парадкавання розных збораў і павелічэння прыбытковасці гарадской маёмасці. У выніку бюджэт горада істотна вырас, што дазволіла больш эфектыўна вырашаць штодзённыя пытанні лідзян. Гарадскія даходы з 1882 па 1892 г. узняліся з 6 185 да 15 835 руб. Аднак узмацненне рэакцыйнай палітыкі падчас царавання Аляксандра III прывяло да абмежавання інстытутаў самакіравання. У снежні 1893 г. віленскі генерал-губернатар паведаміў у МУС аб увядзенні ў Лідзе і шэрагу іншых гарадоў губерні так званага спрошчанага кіравання.

Такім чынам, перыяд дзеяння рэальнага прадстаўнічага самакіравання ў г. Лідзе быў вельмі нядоўгачасовым[4].

Разам з Гарадской думай у горадзе працягвала сваю дзейнасць і ранейшае гарадское кіраванне праз мяшчанскага старасту і яго памочнікаў (якое атрымала назву "спрошчанае"). Менавіта пра гэты орган і ідзе размова ў артыкуле Якуба Пупко, які я падаю ніжэй. Аналіз Памятных кніжак Віленскай губерні паказвае адсутнасць так званага спрошчанага самакіравання толькі ў перыяд з 1885 па 1888 г., але ў 1888 г. яно зноў з'яўляецца ў выглядзе Лідскай гарадской управы на чале з гарадскім старастам Ігнатам Дзямідовічам (каталіцкага веравызнання, на пасадзе з 1884 г.). Адначасова дзейнічае і Гарадская дума на чале з гарадскім галавой Эдуардам Качынскім (закончыў С.-П.-б хірургічную акадэмію, каталіцкага веравызнання, на пасадзе з 1 снежня 1885 г.). Размеркаванне кампетэнцый паміж гэтымі двума органамі самакіравання для мяне застаецца цьмяным.

Тым не менш, вядома, што гарадское (ці мяшчанскае) спрошчанае самакіраванне мела наступныя абавязкі:

*"1) апека па ўсіх справах, якія адносяцца да мяшчанскага саслоўя;*

*2) прыняцце ад губернскага начальства ўказаў і загадаў, а ад іншых устаноў патрабаванняў і іх выкананне;*

*3) збор і перадача вышэйшаму кіраўніцтву і ўтрыманне ў парадку і спраўнасці рэвізскіх казак свайго саслоўя;*

*4) адказнасць за наяўнасць ведамасцей аб мяшчанах: па імёнах, сямействах, гадах нараджэння і іншым, з вызначэннем асоб састарэлых і збяднелых і звестак аб паводзінах і занятках мяшчан;*

*5) скліканне ў патрэбных выпадках сходу грамадства горада або адмысловых выбарных дэпутатаў, ахова парадку падчас сходу і сведчанне, што вырак грамадства горада падпісаны тымі асобамі, якія знаходзіліся на сходзе;*

*6) раскладка са згоды грамадства, дзяржаўных і грамадскіх павіннасцяў на мяшчан"* і г. д.

Гарадскі староста і яго памочнікі абіраліся на адзін год і зацвярджаліся на пасадзе губернатарам[5].

Для лепшага разумення спраў, якімі займаліся гарадскія ўлады, прывяду некалькі прыкладаў. У канцы XIX - пачатку XX ст. Лідскім спрошчаным самакіраваннем было праведзена не менш за 40 публічных гандляў, у выніку якіх мяшчане атрымалі ў карыстанне надзелы гарадской зямлі розных памераў на тэрмін ад 6 да 12 гадоў. Пасля правядзення гандляў з арандатарам падпісваўся кантракт, у якім дубліраваліся патрабаванні да арэнднага карыстання надзелам і пазначалася арэндная плата, аб'яўленая на публічных гандлях. У выпадку неабходнасці ў кантракт маглі быць унесены больш дакладна вызначаныя патрабаванні да арандатараў. Напрыклад, надзел гарадской зямлі Пагулянка, які быў размешчаны па правы бок ад Віленскага паштовага тракта з г. Ліды ў г. Вільню на адлегласці трох вёрст памерам 80 дзесяцін з гаспадарчымі пабудовамі перадаваўся ў 1896 г. у 12-гадовае арэнднае карыстанне на ўмовах адвядзення дзвюх дзесяцін пад сядзібу і вядзення чатырохпольнай сістэмы. Пры гэтым арандатар на працягу першых двух гадоў павінен быў пабудаваць на зямлі, адведзенай пад сядзібу, свіран даўжынёй і шырынёй па 9 аршынаў, хлеў даўжынёй 12 аршынаў, шырынёй 9 аршынаў і вышынёй 4 аршыны з сасновага дрэва і пакрытых гонтай. Гэтыя пабудовы, а таксама драўляны дом і хлеў, якія ўжо меліся на арэнднай зямлі, неабходна было застрахаваць на імя гарадскога ўпраўлення на кошт не менш 1200 руб. Таксама вызначалася, што на працягу першага года арандатар абавязваўся

[3] Валяр'ян Іванавіч Рафаловіч, праваслаўнага веравызнання, на пасадзе з 1890 г. - Гл: Памятная книжка Виленской губернии на 1891 год. Вильна, 1890. С. 225.

[4] Грибко И.Л. Из истории городского самоуправления г. Лиды (конец XIX ст.) С. 62-65.

[5] Юрочкин М.А. Становление и развитие деятельности органов мещанского самоуправления в Северо-Западном крае Российской империи во второй половине XIX - начале XX вв // Актуальные вопросы современной науки. 2015. № 41. С. 160-169.

абзавесціся садам з фруктовымі дрэвамі плошчай каля 1/3 дзесяціны.

У канцы XIX ст. у сувязі з актывізацыяй прамысловай дзейнасці мяшчан значна пашырылася практыка арэнды мяшчанамі прамысловых прадпрыемстваў. Пры гэтым у кантракце на іх арэнду маглі асобна прапісвацца патрабаванні да карыстання зямельным надзелам, на якім размяшчалася прадпрыемства. У 1895 г. Лідскім гарадскім спрошчаным кіраваннем быў заключаны кантракт з мешчанінам Мардухом Лэйбавічам Алькеніцкім на перадачу ў трохгадовае арэнднае карыстанне на тэрмін з 1896 па 1899 г. прадпрыемства па вытворчасці цэглы ва ўрочышчы Лайкоўшчына. Завод з усімі пабудовамі і прыстасаваннямі пераходзіў у арэнднае карыстанне разам з надзеламі зямлі для вядзення гаспадаркі і промыслаў. Гэты цагельны завод потым быў перададзены мешчаніну Мардуху Алькеніцкаму ў далейшае арэнднае карыстанне на тэрмін з 1899 па 1905 г. Разам з тым у кантракце было пазначана, што зямельны надзел пры заводзе забаранялася выкарыстоўваць для здабычы гліны

Надзел гарадской зямлі "Зарэчча" памерам 10 дзесяцін 1460 сажняў знаходзіўся ў 12-гадовым утрыманні лідскага мешчаніна Восіпа Каятанава Высоцкага за арэндную плату 31,8 руб на год. За гэты тэрмін былі пастаўлены сядзібныя пабудовы, а таксама выкарыстаны значныя сродкі на апрацоўку і паляпшэнне глебы, у сувязі з чым арандатар неаднаразова падаваў прашэнні пакінуць за ім гэты надзел у далейшае карыстанне. Пастановай лідскага спрошчанага кіравання ад 30 лістапада 1906 г. надзел Зарэчча быў перададзены мешчаніну Восіпу Высоцкаму на 12-гадовы тэрмін арэнды, які пачынаўся з 1 красавіка 1909 г., за арэндную плату 35 руб. на год.

Пры ўзнікненні патрэбы гарадскога кіравання ў пэўным надзеле ці яго частцы мешчанін павінен быў да канца арэнднага тэрміну саступіць гэты надзел гораду, у іншым выпадку зямля забіралася горадам без вяртання арандатару залогу. Напрыклад з гарадскога надзела "Лідская плябанія", памерам да 7 дзесяцін 688 сажняў, які быў перададзены ў 12-гадовае арэнднае карыстанне на тэрмін з 1897 па 1909 г. мяшчанам Зэльману Шмуйлавічу Беркавічу і Ізраэлю Арыелевічу Каменскаму за арэндную плату 31,6 руб., пад лінію чыгункі была адрэзана паласа даўжынёй 55 сажняў і шырынёй 20 сажняў. У акце мясцовага агляду 1908 г. упаўнаважаных г. Ліды на Віленскай заставе падчас праверкі зямлі ўдзельнікаў кантракта ад 30 кастрычніка 1883 г. адзначана, што ў Елі Мардуховіча Каплана з надзелу зямлі памерам 7 дзесяцін 1221 сажняў пад пабудову Мікалаеўскай чыгункі адышоў 621 сажань а адзін з арэндных надзелаў Антона Шыбайлы, размешчаны паблізу чыгункі, быў адведзены пад пабудову казарм для Лідскага палка. У данясенні ад 23 верасня 1910 г. лідскаму старасту адзначана, што частка зямлі, якая знаходзіцца ў арэндзе двараніна Уладзіслава Геранімa Селятыцкага і мешчаніна Уладзіслава Запасніка памерам каля 3 дзесяцін 800 сажняў, адышла пад пабудову казарм для Лідскага палка .

Ніжэй прыводжу свой пераклад цікавага даследавання раней невядомага нам лідскага краязнаўца Якуба Пупко і поўныя каштарысы даходаў і расходаў Ліды за 1890 г. Гэтыя каштарысы дазваляюць зразумець, чым жыў наш горад пры канцы XIX ст., яны ўжо выкарыстоўваліся мной раней пры напісанні папярэдніх прац.

Заўважу, што гэты мой артыкул пачынаўся з каментавання перакладу тэкста Якуба Пупко.

***Якуб Пупко***

# З мінулага Ліды

Пасля таго, як ў Расіі быў прыняты закон аб усеагульнай вайсковай павіннасці, ва ўрадавых сферах набыло актуальнасць пытанне гарадскога самакіравання для спраўнага выкання абавязкаў у сферы падаткаў, выканання вайсковай павіннасці і інш. 29 красавіка 1875 г. расійскі урад выдаў распараджэнне аб утварэнні ў паўночна-заходніх губернях хрысціянскіх і яўрэйскіх самакіраванняў і гарадскіх дум, якія на 4 гады абіралі гарадскога галаву. Выбарчае права надавалася паўнагадовым асобам мужчынскага полу, якія мелі нерухомасць. Галасавалі шарамі, якія кідалі ў адмысловыя урны.

У 1888 г. яўрэйскае і хрысціянскае самакіраванні Ліды было аб'яднана ў адно агульнае самакіраванне, на чале якога стаяў гарадскі стараста, абраны радай "выбаршчыкаў ад пяці дамоў" - г.з. кожныя 5 уладальнікаў нерухомасці выбіралі 1 выбаршчыка.

Гарадское самакіраванне адказвала за збор падаткаў, прымала ў гараджане новых людзей, вяло ўлік асоб, якія маюць карыстацца выбарчым правам і г. д.

Месца гарадскога старасты ад 1884 г. па 1891 г. займаў шавец Ігнат Дзямідовіч. Яго змяніў Вінцэнт Урбановіч , які адкрыў гандаль фальшывымі пашпартамі і таму ў 1894 г. быў змушаны ратавацца ў Амерыцы. З 1881 па 1895 г. намеснікам старасты быў Ісак Пупко па

[6] Церашкова К. С. Мяшчанскае домаўладанне і землекарыстанне на тэрыторыі Беларусі (1860-я гг. - пачатак XX ст.) // Часоп. Беларус. дзярж. ун-та. Гісторыя. 2018. № 1. С. 62-63.

[7] Pupko Jakob. Fragment z przeszlosci m. Lidy // Kurjer Wilenski № 214 (3104) 8 sierpnia 1934.

[8] Пра Якуба Пупко вядома толькі тое, што ў 1929 г. ён заснаваў у нашым горадзе газету "Lider Wokenblat" на яўрэйскай мове, у якой, верагодна, друкаваліся і даследаванні па гісторыі нашага горада. Але хто сёння змог бы прачытаць тэксты гэтай газеты на мове ідыш? - *Л. Л.*

[9] Віцэнт Урбановіч, каталіцкага веравызнання, на пасадзе з 1891 г. - *Л.Л.*

мянушкі "Ізя Член" [10]. У 1895 г. годзе інстытут самакіравання быў ліквідаваны[11].

Маю перад сабой вельмі характэрны дакумент: Указ Расійскага Сената № 7571 ад 8 чэрвеня 1899 г. у якім абмяркоўваецца скарга трох лідскіх абывацеляў: Зэліка Пупко (сына намесніка гарадскога старасты), Мардуха Айзіковіча і Віктара Янушэўскага на няправільнае галасаванне (арэхамі замест адмысловых шароў) пад час выбараў гарадскога старасты 26 студзеня 1888 г.[12] Гэты выпадак меў месца пасля сканчэння кадэнцыі старасты Дзямідовіча. Скарга была пададзена віленскаму губернатару, які перадаў яе для разбору ў губернскую ўправу. Губернская ўправа скаргу адхіліла. Тады скаржнікі звярнуліся да найвышэйшай інстанцыі ў Пецярбург. Правячы Сенат прыхільна паставіўся да скаргі і адмяніў выбары.

Улічваючы важкасць выраку Сената, падаю тэкст цалкам:

*"У імя Яго Царскай Мосьці, Правячы Сенат разгледзеў справу скаргі мяшчан горада Ліда - Зэліка Пупко, Мардуха Айзікавіча і Віктара Янушэўскага на рашэнне Віленскай губернскай управы ... па справе выбараў на пасаду лідскага гарадскога старасты і яго намеснікаў і вырашыў: са справы бачна, што 26 студзеня 1888 г. ў Лідзе адбыліся выбары лідскага кіраўніка гарадскога самакіравання. Выбары гэтыя былі аспрэчаны перад віленскім губернатарам некаторымі гараджанамі, прычым асобы, які аспрэчылі выбары, указалі на адхіленне ад закону падчас выбараў, між іншым, замест шароў для галасавання ужываліся арэхі і выбарчы пратакол не быў падпісаны нават адной дваццатай часткай удзельнікаў выбараў. Лідскі павятовы спраўнік са свайго боку па гэтай справе данёс губернатару наступнае, між іншым:*

*1) Выбары ў Лідскую Гарадскую ўправу прайшлі ў прысутнасці паліцмайстра г. Ліды, прычым той адзначыў, што выбары гарадскога старасты і яго намеснікаў адбыліся з ужываннем арэхаў з-за браку шароў.*

*2) Выбарчы пратакол падпісала чатырнаццаць выбарцаў з двухсот прагаласаваўшых, прытым, як давёў гарадскі стараста, астатнія адмовіліся падпісаць выбарчы пратакол.*

*Віленская губернская ўправа, якой губернатар загадаў правесці следства па гэтай дасланай да нас скарзе, вырашыла, што довады скаржнікаў галаслоўныя, а тыя, якія пацвярджаюцца, малаістотныя, як, напрыклад, факт галасавання арэхамі замест шароў ці непадпісанне выбарчага пратакола. Таму яна палічыла, што няма падстаў да прызнання выбараў нядзейснымі.*

*Таму губернская ўправа на пасяджэнні 7 траўня 1888 г. скаргу гараджан горада Ліда адхіліла.*

*На гэты вырак губернскай управы гараджане Ліды Зэлік Пупко, Мардух Айзікавіч і Віктар Янушэўскі*[13] *злажылі скаргу, дзе на падставе выяўленых падчас выбараў парушэнняў, просяць адмяніць пастанову губернскай управы.*

*Вывучыўшы ўсе прыведзеныя факты, Правячы Сенат пастанавіў, што выбары гарадскога старасты і яго намеснікаў шляхам галасавання арэхамі ёсць незаконнымі, бо, згодна з выбарчым заканадаўствам, для галасавання павінны ўжывацца шары аднолькавага памеру і кшталту. Галасаванне пры дапамозе арэхаў стварае поле для розных парушэнняў з боку выбарцаў і праз гэта парушае справядлівасць і законны парадак. З дакладу павятовага спраўніка бачна, што гэтыя парушэнні мелі месца пры выбарах гарадскога старасты і яго намеснікаў. Таксама тое, што пратакол падпісалі толькі 14 выбарцаў, пры тым што іх было каля 200 чалавек, ёсць довадам, што разгля-*

[10] "Лідскае слова" 28 снежня 1912 г. паведаміла: "*Учора пасля цяжкай хваробы на 65 годзе жыцця памёр Ісак Носелевіч Пупко. Нябожчык быў адным з выбітных грамадскіх дзеячаў г. Ліды і стаяў на чале яўрэйскай бальніцы, якая была пабудавана па яго ініцыятыве... Ён любіў свой горад і ў апошні час, калі хвароба забрала яго сілы і не дазваляла актыўна працаваць на карысць грамадства, пісаў шмат тэкстаў з гістарычнага мінулага нашага горада"*.

Таксама былы лідзянін Якаў Ілютовіч узгадваў Ісака Пупко - "Ізю Члена" ў сваіх успамінах: *"Усе ў Лідзе ведалі "Ізю Члена", сузаснавальніка... бровара Носеля Шымона Пупко. Мянушка "Член" з'явілася таму, што ён быў членам самакіравання горада і вельмі разумным яўрэем, адным з грамадскіх дзеячаў, якія аддалі сябе гораду. Адзін з яго сыноў ажаніўся з дачкой Моці Халерчыка (адкуль паходзіць прозвішча, ніхто не ведаў). Таксама ён меў зяця, якога ўсе звалі Яша-гой. Мянушку атрымаў, бо жыў у маленькім мястэчку сярод "гояў". Ізя жартаваў пра нявестку і зяця: "Халера схопіць "гоя""*. - цыт. па: *Лаўрэш Леанід. Шэпт пажоўклых старонак. Гродна, 2018. С. 49.*

[11] Аўтар блытае самакіраванне праз гарадскую думу і так званае спрошчанае самакіраванне. У 1893 г. была ліквідавана Гарадская дума з пасадай гарадскога галавы і вернута ранейшае гарадское самакіраванне на чале з гарадскім старастам. - *Л. Л.*

[12] Падставай для правядзення выбараў служыў імянны спіс. Выбаршчыкі прыводзіліся да прысягі перад пачаткам выбараў, кожны ў адпаведнасці са сваім веравызнаннем. Выбары адбываліся праз балатаванне шарамі. Абранымі лічыліся тыя, хто набраў найбольшы лік выбарчых шароў. - *Л. Л.*

[13] Магчыма менавіта гэты Віктар Янушэўскі ў 1927 г. быў абраны лаўнікам Лідскага магістрата, бургамістрам тады быў абраны Рудольф Бергман. - Гл: *Лаўрэш Л.Л. Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900-1939 гг. Гродна, 2017. С. 145.*

*даныя выбары праведзены з парушэннямі ўстаноўленага парадку, у адваротным выпадку большасць выбарцаў не мелі б падставы адмаўляцца ад падпісання дакумента, які пацвярджае справядлівасць выбараў.*

*З вышэйпададзенага, прызнаць вырак віленскай Губернскай управы ад 7 траўня 1888 г. страціўшым законную моц. Правячы Сенат пастанавіў ... указ пераслаць віленскаму губернатару і паведаміць скаржнікам ... па месцы жыхарства ў г. Лідзе па вуліцы Віленскай ...".*

Іншых матэрыялаў, датычных гэтай справы няма. Акты лідскай управы часткова ацалелі ў пажары 1891 г. У часы эвакуацыі 1915 г. былі часткова кінуты ў Лідзе, а часткова вывезены ў Маскву разам з актамі магістрата г. Ліды. Пасля вайны гэтыя акты савецкі ўрад перадаў Літве, і яны захоўваюцца ў ковенскім архіве[14].

Цяжка рабіць нейкія высновы аб гэтай справе. Аднак, фактам з'ўляецца тое, што гарадскі староста Дзямідовіч кіраваў горадам у 1888-1891 гг. і заставаўся кіраўніком горада нават праз чатыры гады пасля скаргі[15].

# Каштарыс даходаў г. Ліды на 1890 г.[16]

## Даходы звычайныя

**§ 1. З зямлі, якая знаходзілася ў часовай арэндзе:**

- Участак Зарэчча, 10 дзесяцін 1559 сажняў (у Мойшы Рыбацкага, па 23 красавіка 1897 г. па кантракце ад 18 красавіка 1888 г.) - 40 р.

- Лідская Плябанія, 7 дзесяцін 688 сажняў (у Пятра Малашкевіча па кантракце ад 2 траўня 1889 г. на 8 гадоў) - 29 р.

- Замкавы Ключ, 7 дзесяцін 5 сажняў; таксама ўчастак 8 дзесяцін 2393 сажні; Лідская Плябанія, 17 дзесяцін 322 сажні і 17 дзесяцін 362 сажні (у Янкеля Нябульскага па 11 красавіка 1889 г. па кантракце ад 20 снежня 1886 г.) - 60 р. 40 к.

- Участак зямлі паміж землямі Губарэвіча і Гарневіча, 1 дзесяцін 400 сажняў (у Рафаіла Шчыткоўскага па кантракце ад 3 красавіка 1889 г., на 10 гадоў) - 8 р. 50 к.

- Лідская Плябанія, 7 дзесяцін 1922 сажні, 7 дзесяцін 936 сажняў, 11 дзесяцін 64 сажні, 8 дзесяцін 1250 сажняў; Лідскае Войтаўства 11 дзесяцін 96 сажняў і Камароўшчына, 10 сажняў (кантракт ад 31 студзеня 1884 г. у Ёхеля Дубчанскага, Елі Маўшовіча, Мойшы Рыбацкага, Лейбы Палячака, Лейзера Маўшовіча і Янкеля Беліцкага, па 11 красавіка 1909 г.) - 177 р. 95 к.

- І паша Сойкішкі з прыналежнымі да яго 3 кавалкамі зямлі: Запашка, 7 дзесяцін і 8 дзесяцін 150 сажняў і Перхураўскі клін, 12 дзесяцін 1099 сажняў (у жыхароў ваколіцы Даліна па кантракце ад 18 траўня 1888 г. на 3 гады па 23 красавіка 1891 г.) - 70 р.

- Лідская Плябанія, 7 дзесяцін 688 сажняў (па кантракце ад 18 красавіка 1888 г. у Іосіфа Забелы, па 23 красавіка 1897 г.) - 30 р.

- Участак Лідская Плябанія, 11 дзесяцін 339 сажняў (па кантракце ад 15 траўня 1885 г. у Каэтана Кандыбы, па 1 студзеня 1897 г.) - 12 р. 60 к.

- Цыбараўшчына, 2 дзесяціны 2076 сажняў (па кантракце ад 18 красавіка 1888 г. у Аляксандра Маліноўскага, па 23 красавіка 1897 г.) - 21 р.

- Участак Лідская Плябанія, 14 дзесяцін 587 сажняў (па кантракце ад 15 траўня 1885 г. у Янкеля Нябульскага, па 1 студзеня 1897 г.) - 40 р.

- Участак Зарэчча, 10 дзесяцін 1460 сажняў (па кантракце ад 20 траўня 1885 г. у Ханы Наркунскага, па 1 студзеня 1897 г.) - 30 р.

- Участак Зарэчча, 11 дзесяцін 494 сажні (па кантракце ў Юдэля Цагельніцкага, па 1 студзеня 1897 г.) - 30 р. 20 к.

- Участак зямлі за Віленскай заставай, 15 дзесяцін 1292 сажні (у Станіслава Куліцкага, Каэтана Кандыбы, Восіпа Радзевіча і Восіпа Хаткевіча, па 1 студзеня 1897 г.) - 27 р.

- Участак зямлі за Віленскай заставай, 7 дзесяцін 1221 сажняў (у Эльяша Каплана) - 35 р.

- Участак зямлі, 6 дзесяцін 739 сажняў; участак зямлі, 6 дзесяцін 739 сажняў; участак зямлі, 7 дзесяцін 1199 сажняў (па кантракце ад 3 кастрычніка 1883 г. у Вігдора Беньямовіча і Лазара Пупко, па 11 красавіка 1909 г.) - 60 р.

- Участак зямлі па Каменскім тракце, 5 дзесяцін 1872 сажні (у Георгія Роўбы і Авіцэнція Людкевіча, па 23 красавіка 1900 г.) - 13 р. 85 к.

- Участак Лідская Плябанія, 10 дзесяцін 312 сажняў (у Вікенція Каржанеўскага, па 1 студзеня 1897 г.) - 23 р. 85 к.

- Участак зямлі Глінішча, 1974 сажні (у Валяр'яна Рафаловіча, па кантракце ад 2 лістапада 1889 г. на 12 гадоў) - 7 р.

- Фруктовы сад Дуброўня, 1 дзесяціна (па кант-

[14] Улетку 1938 г. гарадскія ўлады звярнуліся ў Цэнтральны літоўскі архіў у Коўне з просьбай зрабіць копіі вялікай колькасці дакументаў нашага горада, якія знаходзяцца там. У 1914 г. архівы горада былі вывезены ў Расію, а перададзены Літве. Без гэтых дакументаў гарадскія ўлады не маглі вырашыць шэраг маёмасных праблем. Хутка рэдактар "Лідскай зямлі" Абрамовіч праз былога лідзяніна атрымаў з Коўні план горада Ліды, выкананы ў 1851 г. - *Гл: Лаўрэш Л.Л. Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900-1939 гг. С. 292.*

[15] Верагодна, губернскія ўлады жадалі, каб старастам стаў менавіта Дзямідовіч, і таму фальсіфікавалі выбары. Пасля ж адмены выбараў Сенатам, проста прызначылі Дзямідовіча сваім загадам. - *Л. Л.*

[16] Виленские губернские ведомости № 54, 11 июля 1890.

ракце ад 4 жніўня 1887 г. у Казіміра Гатоўкі і Пятра Гяцэвіча) - 31 р. 55 к.

- Млын на рацэ Лідзейка (па кантракце ад 23 красавіка 1883 г. у Гірша Палячака, на 12 гадоў з 18 траўня 1882 г. па 23 красавіка 1894 г. ) - 925 р. 50 к.

- Цагляны завод Лайкоўшчына (па кантракце ад 26 ліпеня 1881 г. у Ізраіля Катлярэўскага, па 1 студзеня 1893 г.) - 30 р.

- Участак зямлі, 10 дзесяцін (па кантракце ад 1 ліпеня 1884 г. у Лейбы Палячака) - 18 р.

- Дзве сенажаці на Ферме Ліда (па ўзоры 1889 г.) - 83 р.

**Разам, па першым артыкуле - 1804 р. 40 к.**

**З зямлі, якая знаходзіцца ў бестэрміновай арэндзе:**

Чатыры ўчасткі гарода былой павятовай каманды:

- № 1-шы, 1500 сажняў - 15 р. 7 к.
- № 2-гі, 1500 сажняў - 13 р. 86 к.
- № 3-ці, 79 сажняў - 9 р. 39 к.
- № 4-ты, 1500 сажняў - 21 р. 17 к.

Па кантракце ад 27 лютага 1876 г., які грунтуецца на ўказе Віленскага губернскага праўлення ад 20 лютага 1876 г., у Ёселя Франкфурта, Франца Сабуткевіча, Варфаламея Тамашэвіча і Беньяміна Пупко і згодна пастановы гарадской думы ад 11 жніўня 1888 г.

**Участкі, створаныя на ферме Ліда:**

- № 3/4 плошч. 1600 кв. сажняў (па кантракце ад 28 жніўня 1877 г. у калежскага дарадцы Пекура) - 3 р. 85 к.

- № 3/4 плошч. 1600 кв. сажняў (па кантракце ад 20 снежня 1877 г. у Гяршона Пупко) - 8 р. 25 к.

- № 20 плошч. 1600 кв. сажняў (па кантракце ад 17 жніўня 1877 г. у Іцкі Вордаля ) - 11 р. 6 к.

- № 21/33 (?) плошч. 1600 сажняў (па кантракце ад 4 верасня 1877 г. у Вікенція Анціпяровіча) - 4 р. 89 к.

- № 6 і $^{1}/_{3}$ 7 плошч. 1104 сажняў (па кантракце ад 28 траўня 1878 г. у Іосіфа Шагуна) - 7 р. 46 к.

- № 8 і $^{1}/_{3}$ 7 плошч. 1104 сажняў (па кантракце ад 30 сакавіка 1878 г. у Ненаха Ілютовіча) - 7 р. 92 к.

- № 11 плошч. 1056 сажняў (па кантракце ад 10 снежня ў Казіміра Яманта) - 8 р. 80 к.

- № 12 плошч. 1056 сажняў (па кантракце ад 20 снежня 1877 г. у Сцяпана Русаловіча) - 8 р. 20 к.

- № 11 плошч. 1056 сажняў (па кантракце ад ) - 8 р. 80 к.

- № 10/14 (?) плошч. 1496 сажняў (па кантракце ад 29 снежня 1877 г. у Пятра Каласоўскага) - 7 р. 4 к.

- № 33/34 (?) плошч. 1200 сажняў (па кантракце ад 2 студзеня 1878 г. у Марціна Белапятровіча) - 5 р. 6 к.

- Паласа таго ж участка, 120 сажняў (у Юліі Догель) - 1 р. 10 к.

- № 34 плошч. 660 сажняў (па кантракце ад 8 лістапада 1877 г. у Казіміра Яманта) - 3 р. 69 к.

- № 28 плошч. 660 сажняў (па кантракце ад 30 сакавіка 1876 г. у Казіміра Міцюкевіча) - 12 р. 54 к.

- Участак зямлі плошч. даўжынёй 43 $^{1}/_{3}$ шыр. 35 сажняў (па кантракце ад 1 снежня 1877 г. у Фердынанда Эйсманта) - 6 р. 71 к.

- № 34/35 (?) плошч. 1320 сажняў (па кантракце ад 12 верасня 1878 г. у Сцяпана Капелюка) - 6 р. 82 к.

- № 39/50 (?) плошч. 1320 сажняў (па кантракце ад 1 снежня 1877 г. у Надзеі Куставай) - 8 р. 25 к.

- № 17 плошч. 758 сажняў (па кантракце ад 30 студзеня 1878 г. у Вікенція Кахны) - 6 р. 11 к.

- № 14/16 (?) плошч. 1452 сажняў (па кантракце ад 26 студзеня 1878 г. у Рохлі Вінаград) - 5 р. 94 к.

- № 9/10 плошч. 1600 сажняў (па кантракце ад 4 верасня 1878 г. у Леапольда Куцінскага) - 6 р. 9 к.

- № 1 плошч. пры нуль. шыр. 30, даўж. 46 сажняў (па кантракце ад 29 красавіка 1881 г. у Сцяпана Захарэвіча) - 10 р.

- № 31 шыр. 22 $^{1}/_{3}$, даўж. 30 сажняў (па кантракце ад 18 ліпеня 1882 г. у Уладзіслава Багноўскага) - 6 р. 6 к.

- № 18 шыр., 22 $^{1}/_{2}$ даўж. 30 сажняў (па кантракце ад жніўня 1882 г. у Алены Контаўт) - 7 р. 40 к.

- № 38 - 39 плошч. 36, даўж. 30 сажняў (па кантракце ад 8 лютага 1884 г. у Стэфаніі Паплаўскай) - 3 р. 35 к.

- Таго № даўж. 80, шыр., 18 сажняў (у Алены Янішэўскай) - 1 р. 65 к.

- № 40 і $^{1}/_{3}$ 41 шыр. 33 $^{1}/_{2}$, даўж. 30 сажняў (па кантракце ад 29 красавіка 1882 г. у Мацвея Жукоўскага) - 15 р. 3 к.

- № $^{1}/_{3}$ 41 і 42 шыр. 33, даўж. 30 сажняў (па кантракце ад 29 красавіка 1881 г. у Антона Шукіса) - 14 р. 5 к.

- № 43 і $^{1}/_{2}$ 44 шыр. 33, даўж. 30 сажняў (па кантракце ад 30 жніўня 1882 г. у Багумілы Жахоўскай) - 10 р. 5 к.

- № 46 і $^{1}/_{2}$ 47 шыр. 33, даўж. 30 сажняў (па кантракце ад 29 красавіка 1881 г. у Восіпа Віжэля) - 10 р. 35 к.

- № $^{1}/_{3}$ 47 і 48 шыр. 33, даўж. 30 сажняў (па кантракце ад 25 студзеня 1882 г. у Людвіга Сабалеўскага) - 9 р. 25 к.

- № 49 і $^{1}/_{2}$ 50 шыр. 33, даўж. 30 сажняў (па кантракце ад 30 верасня 1881 г. у Мардуха Таладона) - 9 р. 40 к.

- № 52 і $^{1}/_{3}$ 51 шыр., 33 $^{3}/4$, даўж. 30 сажняў (па кантракце ад 17 верасня 1881 г. у Рохлі Вінаград) - 8 р. 60 к.

- № 53 і $^{1}/_{2}$ 54 шыр., 33 $^{3}/4$ даўж. 35 сажняў (па кантракце ад 29 красавіка 1881 г. у Пераца Ратнера) - 5 р. 2 $^{1}/_{2}$ к.

- Палова таго ж участка (у Эльяша Дамінскага) - 5 р. 2 $^{1}/_{2}$к.

- № 55 і $^{1}/_{2}$ 56 шыр., 33 $^{3}/_{4}$ даўж. 35 сажняў (па кантракце ад 18 чэрвеня 1883 г. у Тодраса Ілютовіча) - 4 р. 70 к.

- Палова таго ж участка (у Давіда Рубіновіча) - 4 р. 70 к.

- № 57 і $^{1}/_{2}$ 56 шыр., 33 $^{3}/4$ даўж. 35 сажняў (па кантракце ад 13 верасня 1883 г. у Пятра Сяглы) - 3 р.

- $^{3}/_{4}$ участка, паказанага па плане пад № 50 і $^{1}/_{3}$ 51, шыр 22, даўж. 30 сажняў (па кантракце ад 13 верасня 1883 г. у Віктара Янішэўскага) - 4 р.

- 1/2 участка зямлі (па кантракце ад 3 лістапада 1883 г. у Вікенція Сідаровіча) - 3 р.

- Участак зямлі Кутае балота, шыр. 4, даўж. 4 сажняў (па кантракце ад 10 верасня 1876 г. у Сцяпана Захарэвіча) - 75 к.

- Участак зямлі памерам 1 дзесяціна 160 сажняў (па кантракце ад 8 сакавіка 1884 г. у Лейбы Цагельніцкага) - 6 р. 10 к.

- Участак зямлі каля Альховага гаю даўж. 12 сажняў 2 аршыны, шыр. 9 сажняў 1 аршын (па кантракце ад 22 лютана 1886 г. у Восіпа Тункеля) - 1 р.

- Участак зямлі Бугарок, шыр. 22, даўж. 42 аршыны (па кантракце ад 31 снежня 1885 г. у Івана Марцэвіча) - 4 р.

- Участак зямлі пры рацэ Лідзейка, шыр. 7, даўж. 20 сажняў (па кантракце ў Міхала Роўбы) - 3 р.

- Участак зямлі на Замкавай вуліцы, плошч. 360 сажняў (па кантракце ад 28 лютага 1886 г. у Восіпа Вяжаля) - 2 р. 16 к.

- Участак зямлі на Вісмантах даўж. 100 шыр., 20 аршын (па кантракце ад 31 студзеня 1886 г. у Міхала Рухлевіча) - 9 р.

- Участак зямлі па Наваградскім тракце (па кантракце ад 30 чэрвеня 1886 г. у Лейзара і Песі Рэзнікаў) - 60 к.

- Участак зямлі каля сажалкі Лідскага млына (па кантракце ад 23 сакавіка 1886 г. у Сямёна Федаровіча) - 2 р.

**Разам, па 2-м артыкуле - 362 р. 46 к.**

**З пляцаў зямлі унутры горада:**

- № 2 122 кв. саж. (па кантракце ад 1862 г. у Абрама і Яхі Левінаў) - 16 р. 77 к.

- № 4 і ... (па кантракце ад 2 жніўня 1862 г. у Ізраіля Валынскага) - 6 р. 10 к.

- № 8, 6 саж. (па кантракце ад 14 жніўня 1862 г. Меера Камянецкага) - 6 р. 5 к.

- 400 саж. (у Шмуйлы-Юды Цагельніцкага ад 10 траўня 1873 г.) - 3 р. 55 к.

- 400 саж. (у Міхала Пэзы) - 3 р. 11 к.

- 340 саж. (па кантракце ад 31 траўня 1874 г. у Ліпы Сікурчы) - 6 р. 5 к.

- 75 саж. (па кантракце ад 20 жніўня 1874 г. у Лезара Тукалоўскага) - 3 р. 11 к.

- 30 саж. (па кантракце ў Гірша Ліпніка) - 3 р. 19 к.

- Пляц зямлі насупраць былых гарадскіх казарм () па кантракце ад 12 ліпеня 1885 г. у Хаіма Ілютовіча) - 5 р.

- Пляц зямлі каля цвердзі (у Антона Пухальскага) - 4 р. 60 к.

- Пляц зямлі ў гарадскім садзе, пад павільёнам штучных вод (па выраку гарадской думы ў Янкеля Германішскага) - 6 р.

**Разам, па артыкуле № 3 - 63 р.**

**З зямель, якія знаходзяцца ў чыншавым уладанні без кантрактаў:**

- За 67 участкам ці пляцам пад будынкамі унутры горада (па выраку камітэта для павялічэння гарадскіх даходаў у 1859 г.) - 119 р. 96 к.

- Нядоімкі гандлёвага збору - 217 р. 99 к.

**Разам, па артыкуле № 4 - 337 р. 95 к.**

**З дамоў, якія здаюцца ў арэнду:**

- 4 мясныя лаўкі каля пажарнай адрыны - 90 р. 75 к.

- Свіран па Каменскай вуліцы - 10 р. 50 к.

- Ад адчужэння чыншавых гарадскіх пляцаў зямлі (з 1 студзеня 1890 г. у Шаі Каменскага і Неваха Голды па кантракце ад 8 студзеня 1890 г.) -

**Разам, па артыкуле № 5 - 101 р. 25 к.**

**За часовае карыстанне гарадскімі пабудовамі:**

- З аддачы на водкуп гарадскіх мер і вагаў (па гэтым артыкуле даход не вызначаны, бо гарадская дума пастановай ад 30 снежня 1889 г. вызваліла арандатара ад кантракта).

- За права ўборкі гною з базарнай плошчы і школьнага двара (па кантракце ад 12 снежня 1888 г. у Пятра Малашкевіча) - 45 р. 5 к.

**Разам, па артыкуле № 6 - 45 р. 5 к.**

**§ 2. Падатак з нерухомасці**

- Адзінкавы збор з нерухомасці, 1% кошту: з прыватнай і казённай маёмасці, якая дае даходы - 1400 р.

**Разам, па артыкуле § 2 - 1400 р.**

**§ 3. Падатак на прамысловасць**

- 15 % з казённай пошліны і купецкіх пасведчанняў, 10 % з іншых пасведчанняў - 922 р.

**Разам, па артыкуле § 3 - 922 р.**

**§ 4. Падатак з гандлёвых і прамысловых устаноў**

- Падатак з гандлёвых лазняў г. Ліды - 20 р.

- Акцыз на карысць горада з корчмаў і заезджых дамоў - 170 р.

- З гатэляў - 30 р.

**Разам, па артыкуле § 4 - 220 р.**

**§ 5.**

- Збор з тавараў і прадуктаў, якія прывозяць у г. Ліду - 604 р.

- Збор з возніцтва - 30 р.

- За таўраванне мер і вагаў - 1 р. 69 к.

- Зборы на карысць горада з вэксаляў, пры пратэсце з пазыкавых лістоў і пры заключэнні кантрактаў і дамоў - 525 р.

**Разам, па артыкуле § 5 - 1160 р.**

**§ 6. Дадатковыя паступленні**

- На канцылярскія расходы па размеркаванні

дзяржаўнага падатку - 30 р.

- Па размеркаванні падатку на наём кватэры для паліцэйскіх наглядчыкаў і гарадавых - 300 р.

- Тое самае для аднаго жандармскага унтэр-афіцэра - 50 р.

- Па размеркаванні падатку па экіпіроўцы 12 гарадавых - 300 р.

- З утрымальнікаў корчмаў і піцейных установ за выдадзеныя ім дазволы - 27 р.

**Разам, па артыкуле § 6 - 707 р.**

**§ 7.**

- Са спагнання нядоімак - 3591 р.

- З Банецкага за растрачаныя гарадскія сумы - 445 р. 87 к.

**Разам, па артыкуле § 7 - 4036 р.**

**§ 8. Абаротныя прыбыткі**

- Ад скарбу за памяшканні для часовых войск ў прыватных дамах з ацяпленнем і асвятленнем:

а) За раскватараванне 2 чыгуначнага батальёна - 7935 р.

б) Тое самое, канвойнай каманды - 133 р.

в) Ад камандзіра 4-га Данскога казачага палка - 600 р.

г) Ад губернскага распарадчага камітэта за памяшканні для 4-га Данскога казачага палка - 1590 р.

д) Ад скарбу за раскватараванне 4-га Данскога палка ў 1888 г. - 599 р.

- Ад скарбу для найму памяшканняў для аднаго жандарскага унтэр-афіцэра - 24 р.

- Ад скарбу на ацяпленне Лідскай турмы за 1887, 1889 і 1890 гг. - 900 р.

- Ад скарбу за памяшканне для ўправы Лідскага павятовага воінскага начальніка - 456 р.

- Ад спагнання земскіх павіннасцяў з арэндных уладальнікаў, якія ўтрымліваюць гарадскія землі па кантрактах павінны за іх плаціць разам з нядоімкамі - 59 р.

**Разам па § 8 - 12297 р.**

**Усяго гарадскіх даходаў - 23 498 р. 33 к.**

# Каштарыс расходаў г. Ліды на 1890 г.

**§ 1-ы. Утрыманне гарадской нерухомасці**

**Утрыманне будынкаў і зямельных участкаў**

Выплата земскіх збораў па апошнім акладным спісе на 1890 г., паказаны нядоімкі папярэдніх гадоў і акладу 1890 г., - 6705 р. 22 к.

На 1890 г. ... прыкладна па колькасці зямлі, якой валодае горад - 150 р.

**Утрыманне гарадскіх дамоў**

- Страхаванне ад пажару гарадскіх драўляных дамоў, якія стаяць на Вісмантах і Крывой вуліцы (адзін з гэтых дамоў застрахаваны ў рускім страхавым таварыстве на суму 1200 р. па полісе, а другі па папярэднім пасведчанні) - 37 р. 38 к.

- Ачыстка дымавых комінаў і прыбіральняў - 40 р.

**Усяго па § 1-м - 227 р. 38 к.**

**§ 2-гі. Папраўка і рамонт**

- На папраўку пажарных інструментаў, вадзяного гарадскога забеспячэння і таксама на наём людзей і коней для ўратавання - 50 р.

- На ўтрыманне аднаго вартаўніка пры пажарнай адрыне - 96 р.

**Усяго па § 2-м - 146 р.**

**§ 3-ці**

- Выпадковыя расходы і на ўзмацненне каштарысу па гарадской гаспадарцы - 150 р.

**Усяго па § 3-м - 150 р.**

**Расходы па гарадскіх справах**

**§ 4-ы**

- Выплата капіталу з працэнтаў па раскладцы на 37 гадоў. Лідскаму павятоваму скарбу за набыты горадам участак Ферма (З Высачайшага дазволу ад 15 лістапада 1872 г. горадам набыты ўчастак зямлі з аброчнымі артыкуламі за 5606 р. З гэтай сумы $^{1}/_{4}$ выплачана адразу, а астатнія грошы растэрмінаваны на 37 гадоў па 269 р. 9 к. у год) - 269 р. 9 к.

- Па выраку судовых улад (гэтыя грошы, акрамя працэнтаў будуць выплачаны Хаіму Сакалоўскаму на пабудову бруку на Ферме ) - 141 р.

- За наём памяшканняў для ніжніх чыноў для раскватараванага ў г. Лідзе 2-га чыгуначнага батальёна і 4-га Данскога казачага палка (за казачы полк: Хаіму Баяроўскаму - 800 р. і 2-гі чыгуначны батальён: Малцы Разенталь - 135 р., Нафталю Сольцу - 625 р. Філіпу Шымкевічу - 192 р., Юдыфе Жыжморскай - 100 р., Песе Рэзнік - 151 р. 2 к., Лейбе Поляку - 515 р. 54 к., Антону Шукісу - 12 р., Марыі Сегень - 300 р., Хаіму Рогаву - 295 р. 50 к., Ёселю Франкфурту - 250 р., спадчыннікам Зысканда - 1027 р. 90 к., Беньяміну Пупко - 202 р. 10 к., Мееру Рубіновічу - 207 р., Шлёме Бакштанскаму - 55 р. 20 к., спадчыннікам Яманта - 684 р. 87 к., Ліпе Сікурчу - 358 р. 30 к., Хаіму Каменскаму - 326 р. 40 к., Мярлінскай - 147 р., Пейсаху Табольскаму - 157 р., Баярскім - 277 р. 40 к., Іце Левінсону - 150 р., Зэліку Зарцыну - 135 р., Ненаху Бярковічу - 180 р., Юзафу Рымшу - 10 р., Шэйме Вінаград - 102 р. 75 к., Мойшы Гутману - 120 р., Арону Собалю - 295 р. 50 к., Зэлману Розенштэйну - 66 к.) - 10 616 р.

- Янкелю Нябульскаму за пабудову гарадской хлебапякарні (згодна з дамовай ад 19 кастрычніка 1887 г.) - 353 р. 56 к.

- На ўтрыманне паліцыі, ёсць нядоімкі па 1-е студзеня 1885 г. - 4974 р. 58 к., з-за беднасці сродкаў горада, прапануецца выконваць штогод звыш акладу - 249 р. 73 к.

- Вяртанне ўзятых у пазыку з залогавых сум, якія захоўваюцца ва ўправе 1273 р. 32 к. - 752 р. 42 к.

- За ачыстку дымавых комінаў і прыбіральняў - 25 р.

**Усяго па § 4-м - 12407 р.**

**Гарадское добраўпарадкаванне**

**Утрыманне гарадскога грамадскага кіравання**

**§ 5-ы. Утрыманне асабовага складу**

Утрыманне службовых асоб гарадской управы, якія служаць бо абраныя:

а) гарадскі галава - 688 р. 82 к.

б) члены ўправы - 300 р.

в) гарадскі сакратар - 300 р.

Утрыманне асоб, якія служаць па найму:

а) бухгалтары - 180 р.

б) 4 пісары - 552 р.

Утрыманне прыслугі:

- Утрыманне аднаго вартаўніка ў гарадскім лесе Сойкішкі - 60 р.

- Утрыманне аднаго вартаўніка пры гарадской управе - 108 р.

**Усяго па § 5-м - 2188 р.**

**§ 6-ы**

- Канцылярскія тавары: такія як кнігі, розныя бланкі, выпісванне ўрадавага весніка, губернскіх ведамасцей для ўправы і сірочага суда, а таксама сенацкіх ведамасцей для тых жа устаноў, папера, атрамант (чарніла), пёры, сургуч і інш. - 150 р.

- На паштовыя расходы для перасылкі карэспандэнцыі ў месцы не вольныя ад гербавага збору.

**Усяго па § 6-м - 160 р.**

**§ 7-ы**

Памяшканне, ацяпленне і асвятленне канцылярыі думы, управы і сірочага суда.

На памяшканне канцылярыі ў нанятым доме на 1890 г. - 300 р.

Асвятленне - 30 р.

**Усяго па § 7-му - 330 р.**

**§ 8-ы**

- Расходы па ацэнцы нерухомасці г. Ліды і складання ведамасці, г.з., на наём пісара, канцылярскія матэрыялы, бланкі, кнігі і інш. - 30 р.

**Усяго па § 8-м - 30 р.**

**§ 9-ы**

- Расходы па вядзенні спрэчных спраў горада - 100 р.

**Усяго па § 9-м - 100 р.**

**§ 10-ы**

- На знішчэнне шалёных сабак, арганізацыю месцаў для закопвання падлага быдла - 50 р.

- Уладкаванне Ярдані з мосцікам падчас крыжовых ходаў - 5 р.

**Усяго па § 10-й - 55 р.**

**Дабрабыт жыхароў горада**

**§ 11-ы**

- На ўтрыманне паліцыі - дзяржаўнаму скарбу як вяртанне выдаткаваных ім грошай на ўтрыманне Лідскай паліцэйскай управы ў 1886 г. - 179 р. 77 к.

- У 1887 г. - 478 р. 5 к.

- У 1888 г. - 551 р. 77 к.

- У 1889 г. - 551 р. 77 к.

- У 1890 г. - 551 р. 77 к.

**Усяго па § 11-м - 2313 р. 13 к.**

**§ 12-ы**

Утрыманне шараговых паліцэйскіх:

- Заробак - 1344 р.

- Абмундзіраванне - 300 р.

- На наём памяшкання з ацяпленнем і асвятленнем - 200 р.

**Усяго па § 12-м - 1844 р.**

**§ 13-ы**

Утрыманне турмаў

- На ацяпленне і асвятленне турэмнага замка і памяшканняў, нанятых для войск у 1890 г., і тыя, за якія трэба плаціць у 1889 г. - 2500 р.

**Усяго па § 13-м - 2500 р.**

**§ 14-ы**

Ускладзеныя на горад і прынятыя горадам павіннасці па раскватараванні войска і іншыя воінскія павіннасці

- На наём памяшкання для аднаго жандармскага унтэр-афіцэра - 50 р.

- На наём памяшкання для канвойнай каманды - 200 р.

- На наём памяшкання для паліцэйскага нагляднчыка г. Ліды за 1889 і 1890 г. - 200 р.

- На наём памяшкання пад управу Лідскага павятовага воінскага начальніка і ніжніх чыноў пры ім - 456 р.

- На часовыя кватэры для воінскіх чыноў, якія часова прыбываюць у Ліду - 25 р.

**Усяго па § 14-м - 931 р.**

**§15-ы**

- Сродкі на ўзмацненне цэнтральных упраўленняў МВД - 13 р.

**Усяго па § 15-м - 13 р.**

**Усяго па горадзе - 28 395 р. 52 к.**

***Віктар Кудла***

# Д Р О З Д А В А

## *Віткі жыцця родзічаў*

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Мае продкі па бацькоўскай лініі жылі ў в. Дроздава з даўніх часоў. Знайшоў дакладнае падцверджанне таму - архіўныя крыніцы. У перапісе за 1779 год па вёсцы Дроздава запісаны Станіслаў Кудла - меў 35 год, гэта значыць 1744 года нараджэння. Тут жа запісаны сыны: Васіль 11 гадоў г.зн. - 1768 г.н., Антон - 6 гадоў - 1773 г.н, дачка - Мар'яна - 4 гады г.зн.1775 г.н., у 1795 годзе нарадзіўся Дамінік.

У1812 годзе ў Васіля нарадзіўся Андрэй, які ў 36-ці гадовым узросце ажаніўся з Кларай з Агароднікаў (прозвішча не ўстанавілі).

Згодна з перапісам 1848 года па вёсцы Дроздава пад нумарам 16 (гэта значыць, пасярэдзіне вёскі,там дзе і прадоўжылі засяленне нашы продкі) у разрадзе гаспадароў *"тяголь альбо пашанныя"* - запісаны Васіль Станіслававіч Кудла - 80 год, сын Андрэй - 36 год, яго жонка Клара -36 год, і іх тры дачкі: Кацярына - 6 год, Мар'яна - 4 гады, Ганна - 2 гады. Не вядома, калі гэтыя нашы дзяўчаты выйшлі замуж і, безумоўна, змянілі прозвішчы, далейшая іх жыццё пакуль не ўстаноўлена, як і дзяўчаты прыйшоўшыя замуж за нашых хлопцаў. Так і наш род злучае ў сябе ручаіны з іншых крыніц.

Мой прапрадзед - Кудла Васіль Станіслававіч - 80-ці гадовы селянін ужо не мог спраўна весці гаспадарку з сынам Андрэем і яго жонкай Кларай, якія на той час ужо радзілі трох дачок. Для сялянскай працы запрасіў у парабкі ганчароўскага хлопца - 15-ці гадовага Кучынскага Яна.



Думалася, як жа прадоўжацца нашы Кудлы без мужчынскага роду. Але Андрэй і Клара пастараліся, і ужо праз два гады ў 1850 годзе нарадзіўся спадчыннік роду - Ісідар (Зыдар). Далей, ад яго наш род прадоўжыў Іван Ісідаравіч.

Спраўка Літоўскай Духоўнай Кансісторыі аб тым, што ў сялян вёскі Дроздава Лідскага ўезда Ісідара Андрэевіча Кудлы і Аляксандры Андрэеўны, у дзявоцтве Міцюкевіч, нарадзіўся сын 23 студзеня 1875 года і ахрышчаны Іаанам Кудлам у Ганчарскай Свята Пакроўскай царкве.

Знайшоў у рэвізскім запісе 1858 года, што ў вёсцы Ганчары, у Міцюкевіча Андрэя Лявонавіча і жонкі Алены Мікалаеўны нарадзілася дачка Аляксандра ў 1852 годзе, якая вышла замуж за Ісідара Андрэевіча Кудлу.



Як і ўсе селяне навакольных вёсак, нашы родзічы былі прыгоннымі памешчыцы Петранелы Францаўны Ленскай з маёнтка Вашкевічы. У той час ім было выдзелена 19 десяцін зямлі, з іх 14 - ворнай.



Тут жа ў перапісе занатавана колькасць абавязковых натуральных павіннасцяў на гаспадарку: прыгону за тыдзень з падводаю - 3 дні, пешым - 2, згону ў год з працоўнай душы - 8 дзён з падводай. Апроч гэтага ў абавязак уваходзіла: узараць і забаранаваць панскай зямлі, выраб палатна з панскага матэрыялу, вывазка дроў для фальварка. А вось колькасць натуральных павіннасцяў (даніны) крыху здзіўляе: за год належала даніны: 1 курыца,10 яек,1 капа грыбоў (60 штук), 3 гарнцы ягадаў. І абавязковых не натуральных:

чыншу - 2 рублі серабром. Не зусім зразумела, калі гэта за год, то не так гэта і многа. (Мы памятаем падаткі з аднаасобнікаў пасля вайны, "дралі" значна больш! Забіралі столькі, што для яды не было хлеба, свініны і нават яек)…

Родны брат Васіля - Кудла Антон Станіслававіч - меў 75год і сына Дамініка - 7 г., а жонка ўжо адышла ў вечнасць. Як галава новай гаспадаркі ў сям'ю ўзяў на 22 гады малодшага роднага брата Дамініка Станіслававіча і родную 73-х гадовую сястру - Мар'яну.

Брат Дамінік Станіслававіч - 53год і жонка яго Кацярына - 45год у даволі высокім узросце нарадзілі трое дзяцей: сына Юрыя - 9 г., дачок Мар'яну - 4 г., Крысціну - 1 г. Усяго ў сям'і стала 8 душ.

Дваюрадныя браты Кудлаў ад бацькі Івана, ажаніўшыхся завялі свае асобныя гаспадаркі, пабудавалі хаты і гаспадарчыя пабудовы. Ужо на той перапіс завялі дзяцей і мелі ў сем'ях: Кудла Фёдар Іванавіч -54 гадоў - 6 душ; Кудла Сымон Іванавіч - 50 год - 9 душ; Кудла Пётр Іванавіч - 40 год - 6 душ.

Траюрадны брат - Кудла Мікалай Аляксандравіч -1810 г.н. - 38 год, ад бацькі Аляксандра, які памёр, і жывой 80-гадовай маці Юстыны ў спадчыну атрымаў гаспадарку. З жонкай Тарэсай - 1810 г.н. - 38 г. нарадзілі траіх сыноў: Казімір - 10 г., Юльян - 8 г., Семён - 6 г. У сям'ю прытуліў і братоў з сем'ямі. Брат Мікалая - Філіп Аляксандравіч - 35 год, жонка - Агата - 30 г., іхнія дочкі: Мар'яна - 7 г., Альжбэта - 5 г. Другі брат Мікалая - Андрэй Аляксандравіч - 33 г. яшчэ не быў жанаты.

Усяго ў сям'і стала 11 душ, з іх 6 мужчын добрага працоўнага ўзросту.

У гаспадарцы мелі 2 валы і каня для працы на зямельцы, з жыўнасці толькі адну кароўку, двое цялятак, 8 авец і два свінчы.

Салавей Марцін Васільевіч - 1813 г.н. меў 35год, пайшоў у прымы і ўзяў у жонкі крыху старэйшую саракагадовую Фядору Кудлу, мажліва, з-за гэтага, дзетак не значыцца. Там на краі вёскі пад № 23 жыў і швагер Кудла Якаў - 70 год. Напэўна з-за цяжкасці весці сялянскую гаспадарку прытуліў палавінніка Пазняка Яна - 45 г. з яго жонкай Разаліяй - 40 г. і дочкай Петрунелай - 9 год.

Брат Марціна - Салавей Ігнацій Васільевіч-1810 г.н. - 38 г., застаўся жыць у бацькоўскай хаце на пачатку вёскі пад № 5 з маці сваёй Канстанцыяй - самай старэйшай вяскоўкай - 89 год. Ігнацій, маючы каля 28 год, жаніўся з маладухай Разаліяй, і яны выгадавалі дачку Разалію - 9 г. і двух сыноў Сцяпана - 6 г. і Базыля - 2 г.

У сям'і жыў дзядзя Іосіф ?? - 70 г. і сын яго Іосіф - 22 г. Усяго - 8 душ.

Сярод самых рассяліўшыся драздаўцоў па ўсёй вуліцы былі на той час Кумпякі - мажліва, свая дальняя радня.

Хата № 3 - Кумпяк Андрэй Сямёнавіч - 1813 г.н. - 35 г., жонка Агата - 30 г., малодзенкія дзеткі: сын Базалій - 1г., дочкі: Ганна - 8 г., Кацярына - 6 г. Для працы на гаспадарцы ўзялі парабкам аднавяскоўца - Козела Кастуся - 19 г.

№ 15. Кумпяк Іосіф Сцяпанавіч - 1803 г.н. - 45 г., жонка Мар'яна - 40 г., сын Іосіф - 12 г., дочкі: Альжбета - 14 г., Крысціна - 6 г., Мар'яна - 2 г. - 6 душ.

№ 18. Кумпяк Антон Ігнаццевіч - 1808 г.н. - 40 г., жонка Альжбета - 35 г., дочка Агата - 6 г., брат Сцяпан Ігнаццевіч - 30 г., яго жонка Ганна - 30 г. Дзетак яшчэ не было.

№ 21. Кумпяк Юрый Іосіфавіч - 1813 г.н. - 35 г., жонка Мар'яна - 30 г., сыны: Філіп - 6 г., Фёдар - 1г ., дачка Францішка - 8 г.

№ 24. Кумпяк Антон Іванавіч - 1788 г.н. - 60 г., малодшая на 15 год жонка Настасся - 45 г., мелі дачку Разалію - 10 г. Да гаспадаркі прылучылі палавінніка Казёл Юліяна - 32 г., з жонкай Петрунелай - 33 г. і дзеткамі: сын Філіп - 2 г., дочкі: Пятруша - 7 г., Агата - 4 г.

На самым пачатку вёскі жыў Шут Грыгорый Сцяпанавіч - 1788 г.н. - 60 год, жонка - Агата - 1798 г.н. - 50 год, сыны: Фама - 26 г., Мікалай -18 г., дачка - Петранела - 18 г.

Праз пяць хатаў пад № 7 абаснаваўся малодшы на 10 год родны брат Грыгорыя - Шут Вікенцій Сцяпанавіч -1795 г.н. - 50 г., жонка Мар'яна - 40 г., дачка Ганна - 5 г., палавіннік Кумпяк Іосіф - 25 г. з жонкай Тарэзай - 22 г. У сям'і пакуль было толькі -5 душ.

Пад № 17 жылі суседзямі Кудлы Васіля Станіслававіча на бацькоўскай гаспадарцы два браты - Шут Вікенцій Мікалаевіч -1812 г.н. - 36 г., з жонкай Каралінай - 28 г., і Ян Мікалаевіч - 29 г., з жонкай Кацярынай - 22 г. Тады, у1848 годзе, яшчэ не было дзяцей, а праз 100 год я памятаю сем'і суседзяў Шутаў (Кочманы і Сямёнавы).

№ 20. Шут Мікалай Фёдаравіч-1821г.н. - 27 г., жонка Ганна - 26 г., дачка Барбара - 1 г., брат Сцяпан Фёдаравіч - 20 г., братава жонка Кацярына - 35 г., іхні сын Матвей - 5 г., і дачка Кацярына - 9 г.

№ 9. Быстрыцкі Андрэй Канстанцінавіч -1816 г.н. - 30 г., жонка Ганна - 32 г., дачка Ганна - 4 г. Брат Якаў Канстанцінавіч - 18 г., сястра Агата Канстанцінаўна - 20 г. Усяго - 5 душ.

№ 10.Самы старэйшы дроздавец - Быстрыцкі Якаў Іванавіч - 1759 г.н. меў ужо 89 год, жонкі ўжо не стала. Каб весці хатнюю справу запрасіў служанку - Мар'яну Кудлаўну - 20 г. (Так запісана, а напэўна, Кудла). Каб весці сялянскую гаспадарку да дочкі сваей Разаліі - 35г. - прытуліў зяця ганчарскага Германовіча Антона - 40 г., у іх дзетак не значылася, а другая дачка Еўка - 25 г. з другім зяцем - Кудлам Паўлам - 30 г., ужо мелі двух сыноў: Юрыя - 4 г. і Фёдара - 2 г. Усяго ў сям'і - 8 душ.

№ 14. Быстрыцкі Васілій Варфаламеевіч - 1818 г.н. - 40 г., жонка Настасія мела 36 год і, значыць, радзіла першага сына ў 15-і гадовым узросце, бо іхні старэйшы сын Ян меў 21 год, ужо ажаніўся з Кацярынай - 21г., малодшы сын Васіля - Пётр - 8 г.

№ 11. Козел Фама Пятровіч -1791 г.н. - 57 г., жонка Мар'яна - 45 г., сыны: Андрэй - 15 г., Раман - 9 г., Балтрамей - 6 г., дочкі: Ганна - 13 г., Крысціна - 3 г. Брат Павел Пятровіч - 50 г., жонка яго Разалія - 40 г., сын Міхаіл - 4 г., дочкі: Магдалена - 11 г., Мар'яна - 8 г., Рахела - 6 г., Альжбета - 1 г. Найбольшая ў вёсцы сям'я - 14душ.

А вось у хлявах мелі малавата: два валы, аднаго каня, карову, цялушку, 8 авечак і 3 свінчы.

№ 12. Козел Дамінік Іосіфавіч - 1768 г.н. - 80 г., малодшая на 21год жонка Іафата? - 59 г., радзіла сына Ігнація - 30 г., які ажаніўся з Тарэзай - 30 г. і мелі две дачкі: Ганну - 4 г. і Барбару - 2 г. У другога сына Паўла - 28 г. чамусьці жонкі не запісана, а меў дзве дачкі: Кацярыну - 13 г., Разалію - 7 г.

№ 19. Пусько Раман Якімавіч - 1775 г.н. - 73 г., жонка Ганна - 75 г., брат Матвей Якімавіч -56 г., яго жонка Ганна - 50 г. і сын Павел -20 г., сястра Магдалена Якімаўна - 45 г. мела дачку Тарэзу - 22 г. А вось мужа не значыцца. Ворнай добрай зямлі - 7дзесянцін, сярэдняй - 7,05 дзесянцін, сенакосу - 3, усяго -19,09 дзесянцін. У дальнейшым у вёсцы Пуські не значыліся…

22. Дзяваты Ян Міхайлавіч - 1778 г.н. - 70 г., жонка Дарота - 60 г., сын Андрэй -15 г. старэйшы сын Юльян - 40г., жонка Альжбета - 35 г., сыны: Юльян - 7 г., Балтрамей - 2 г.

Вось згодна з перапісам 1848 года ў вёсцы Дроздава было: валоў - 49, коней - 21, кароў - 28, дробнай жывёлы - 38, авец - 179, свіней - 65, курэй і пчол - не запісана.

Зямля сядзіб - 26 дзесяцін, ворнай - 168+189 дзесяцін.

Засценак Старамлынішча, прыпісаны да Дроздава,там адзіным гаспадаром быў Баярын Іван Аляксеевіч - 1781 г.н., меў 67 год, жонка Магдалена - 58 г., сын Іван - 23 г., яго жонка Юльяна - 20 г. Гаспадарка Баярына мела: коней - 2, валоў - 2, кароў - 3, цялят - 3, авечак - 8, свіней - 3, курэй-?, мелі пчол 20 вулляў.

Складанае жыццё ў той час не дазваляла нашым продкам памыліцца, бо памылкі маглі абярнуцца галадам і прывесці да смерці. Яны былі людзьмі разважлівымі. Іх маёмасная няроўнасць перарастала ў сацыяльнае расслаенне. Больш заможныя прыгонныя сяляне наймалі сваіх самых бедных субратоў-сялян у парабкі. Апошнія, зробленыя парабкоўскай працай, грошы часткова аддавалі феадалу, а астатнюю частку трацілі на свой бедны пражытак.

Дзень вольнай працы ў маёнтку прыносіў селяніну 7,5 капейкі срэбрам аднаму, а з упражкаю валоў - 15 капеек. Чвэрць бульбы каштавала 50 кап., аўсу - 1 рубель, ячменю - 2 рублі, жыта - 2 рублі 25 капеек.

Жыццё часта сутыкала селяніна адзін на адзін са сваім лёсам. Таму ён прывык спадзявацца на свае сілы, але дапамогу іншых цаніў і ніколі не забываўся аддзячыць за яе.

Характар нашых продкаў фарміраваўся гістарычна на працягу многіх стагоддзяў, перш за ўсё заўзяты працаўнік.

Не песціла іх зямля сваёй нізкай урадлівасцю, а прырода - кліматам і дармавымі дарамі. Спакон вякоў прывыклі яны жыць сваёй працай і спадзявацца толькі на яе. Паўсядзённыя клопаты рабілі іх руплівымі гаспадарамі. Цяжкая праца не заўсёды дазваляла зводзіць канцы з канцамі. Жыццё рабіла селяніна надзвычай ашчадным. "Лепш не даесці, а прыдбаць нешта на "чорны" дзень".

Шчасце беларус уяўляў сабе не ў гультайстве, не столькі ў матэрыяльным багацці, якога ў яго заўсёды не хапала, а ў актыўнай працы на роднай зямлі. Шчаслівым лічыўся чалавек, у якога вакол была добразычлівая радня, былі працавітыя дзеці, парадак у сям'і, згода з суседзямі.

Пра шчасце, дастатак і багацце марылі нашы продкі, у абрадах, стараліся паспрыяць ураджаю і прыплоду жывёлы.

Асноўным тыпам жылля сельскага вяскоўца была зрубная, драўлянная хаціна з двума памяшканнямі - хата + сенцы. У кагосьці было і трохкамернае жыллё, якое складалася са святліцы, сенцаў і каморы. Страху накрывалі ў асноўным саломай, хтосьці дранкай ці гонтай.

У жылых памяшканнях рабілі печы з комінам, а ў некаторых без коміна, і ў так званай курнай хаце дым з печы выходзіў праз сталяванне і дзверы. У залежнасці ад маёмаснага становішча гаспадара падлога была гліняным токам ці драўлянымі плахамі. Вокны рабілі невялікімі і закрывалі засаўкай, бычыным пухіром, хтосьці прамасленай паперай, і вельмі рэдка тады было шкло.

У Лідзе і мястэчку Бяліца пару раз ў тыдзень наладжваліся рынкі, а на працягу года арганізоўвалі вялікія кірмашы. Адзенне селяніна было даматканым і самаробным, абутак - ліпавыя і лазовыя лапці

З землеапрацоўчых прылад на той час пераважала простая сялянская прылада - конная саха для парнай валовай запрэжкі. Амаль кожны земляроб яе рабіў сам. У папярочны цурбан спераду наглуха мацавалі аглоблі. Ззаду прымацоўвалі палосы, на ногі якіх насаджвалі сашнікі. Рухаючыся на працу на поле, ставяць саху на драўляныя рагулькі, каб не чыркала аб дарогу і збера-





галася б конская сіла на ворыва. Вясною мужычок стараўся араць глыбей, каб зрабіць зямлю друзлей і мякчэй, але сам ламае плечы і мазоліць рукі.

На ўзаранае поле напускалі бойкую, лёгкую на хаду, гарэзлівую барану. Бегае яна па полі, віляючы з боку ў бок, выдзірае каменьчыкі, выраўноўвае поле, вычэсвае з зямлі пустазельныя травы. Пасля баранавання зямля, як пух - гатова для севу.

Ходзіць па полі сейбіт босым. На грудзях вісіць на вяровачках сявенка з адборнымі зернямі. Бярэ ён адтуль жменю за жменяй і з таямніцай - нячутнай малітвай кідае насенне па падоўжных баразёнках, якія правяла саха. Адной рукой шпурляе насенне так, каб раскідвалася яно раўнамерна. Томіцца рука ад махаў, сее моўчкі, нібы здзяйсняе святы сакрамант…



Пры падсечна-агнявой сістэме апрацоўкі зямлі сяляне карысталіся матыкамі, для рыхлення глебы - баронамі, сукаваткамі, смыкамі. Усе збожжавыя культуры жалі сярпом, сушылі ў снапах дзесяткамі і звозілі ў гумно, дзе там ці на падворку малацілі цапамі, потым зерне веялі з дапамогай драўлянай веялкі-шуфліка, малолі на муку ў жорнах або абдзіралі на крупы. Салому пакавалі ў скірды. З жытняй саломы рабілі кулі для ўкладкі стрэхаў.

Асноўнай збожжавай культурай было жыта. Сеялі таксама ячмень, пшаніцу - мука з якіх ішла на хлеб,



булкі.

Хлеб шанавалі, як сваё жыццё. Здаралася, пасля яды зграбуць яго крошкі ў жменю і з'ядуць. А акраец бохана, што застанецца, асцярожна, як найвялікшую каштоўнасць, пакладуць на стол ці пад абраз і накрыюць чысцюткім белым ручніком.



Накарміць госця, даць яму прытулак, лічылася ў нашых продкаў святой справай, і гэта захавалася ў нашых сем'ях.

Бывала, жыццё гнула беларуса. Ён пакутаваў і цярпеў, марыў і спадзяваўся на лепшае будучае, калі не для сябе, то для сваіх дзяцей. З усіх сіл стараўся беларус пакінуць у спадчыну дзецям штосьці большае, чым атрымаў сам ад сваіх бацькоў.

З грэчкі і ячменю ў крупарушцы выраблялі крупы. Сеялі гарох і лубін, проса, боб, хмель, сачавіцу і інш. Аўсу сеялі многа, каб забяспечыць коней і валоў добрым кормам. Чым даўжэй харчуецца конь на аўсе, тым больш у ім сілы, сенам конь трыбушыну набівае, а ад аўсу мускулатура па целе закладваецца. На кепскім корме і работнікам кепска, а пры аўсе і гной лепшы, і новаму хлебу зручней. Без жывёлы хлебу кепска, без жывёлагадоўлі няма земляробства.

Ужо тады з агародных культур вырошчвалася-капуста, морква, буракі, цыбуля, часнык, рэпа, рэдзька, мак, а з садовых - вішні, слівы, яблыкі, грушы.

А вось бульбу ўпершыню пачалі вырошчваць на тэрыторыі сучаснай Гарадзеншчыны ў другой трэці XVIII стагоддзя. Але ў гэты час яна вырошчвалася толькі ў каралеўскіх эканоміях нямецкімі каланістамі.

Першапачаткова беларускае сялянства паставілася надзвычай недаверліва да гэтай агракультурнай навацыі, адмаўляючыся яе садзіць. У кагосьці былі выпадкі, калі пасадзіўшы ў зямлю клубні, ужо летам з бацвіння збіралі памідорыкі, пробавалі есці, рыгалі…, не ведалі, што ядомая бульбіна ў зямлі. Калі выяснілі дабрыню ежы, бульбаводства стала актыўным.

Далей у XIX стагоддзі бульба насамрэч становіцца пануючай палявой культурай на беларускіх палетках. Так, калі ў Гарадзенскай губерні ў 1822 годзе было сабрана 7,1 тысячы чвэрцяў бульбы, то ў 1827 годзе ўжо ў 100 разоў болей. Стравы з бульбы ў гэты ж час становяцца "другім хлебам", хаця не будзе пераболь-

шаннем сказаць, што для бяднейшых сялян яна стала ўвогуле ці не адзіным і першым хлебам: "картошка - хлебу прысошка".

Поспехі бульбаводства, "бульбяны бум", далі свае станоўчыя вынікі ў галіне селекцыі, узніклі беларускія гатункі бульбы. У жніўні 1853 года ў Горы-Горацкім земляробчым інстытуце была адкрытая выстава, на якой экспанавалася 28 гатункаў бульбы з батанічнага сада інстытута, а таксама прадукты з бульбы ў выглядзе мукі і крупкі.

Запісаны такія ўраджайнасці: збожжа: сам - 4, бульба: сам - 6. Гэта значыць, калі высявалі па цяперашніх нормах 200 кг зерня, то атрымоўвалі 200x4= 800 кг, г.зн. - 8 цэнтнераў з гектара, бульбы-сямянкі садзілі 3 тн. на гектар х 6=18 тн., г.зн. - 180 цэнтнераў з гектара.

Для гаспадарскіх патрэб сеялі лён, яго апрацоўвалі і атрымоўвалі ільновалакно (пяньку), што было галоўнай сыравінай для вырабу тканіны. Каноплі ішлі на выраб вяровак, а з сем'я ільну і канопляў вырабялі алей.

Важнай галіной сельскай гаспадаркі з'яўлялася жывёлагадоўля. Быдла было мясцовых малапрадуктыўных парод. Коні і валы выкарыстоўваліся ў якасці цяглавай сілы, а разам з каровамі, авечкамі і свінямі яны давалі мяса і гной, які быў адзіным відам ўгнаення палёў. У залежнасці ад колькасці трымалася ўраджайнасць.

**Гэта цікавае данясенне Аляксандра Ленскага.**

Петранеля Ленская памерла ў 1857 годзе. Мяркуецца, што да 1864-га года маёнтак перайшоў яе дачцэ Вераніцы Аборскай. Аднак, у архіўных матэрыялах Вільні давялося сустрэць запіс аб тым, што рэвізскую казку 1850-га года за сваю састарэлую маці па яе даверанасці падаваў Аляксандр Паўлавіч Ленскі, "Віленскі ўездны прадвадзіцель дваранства".

**Даведка за 1850 год аб прыгонных памешчыцы Петранелы Ленскай.**

У 1834 годзе мужчын было 525, за 16 год выбыла 213, прыбыло 230 і стала 542.

Жанчын 523 было, выбыла 210, прыбыло 307 і стала 62 0.

У 1860-ым у Вашкевічы пераведзена паштовая станцыя з Лупеніц.

Падрыхтоўка да адмены прыгоннага права пачалася з заходніх беларуска-літоўскіх губерняў. 19 лютага 1861 г. Аляксандр II падпісаў Маніфест, аб вызваленні памешчыцкіх сялян ад прыгоннай залежнасці. Сяляне атрымлівалі асабістую свабоду і пэўныя грамадзянскія правы, якія карэнным чынам змянялі іх становішча. З гэтага часу сяляне мелі права самастойна распараджацца сабой і сваёй маёмасцю, засноўваць гандаль, непасрэдна звяртацца ў дзяржаўныя ўстановы і суд, паступаць на службу або ў навучальныя ўстановы.

Змяніліся і ўзаемаадносіны паміж абшарнікамі і сялянамі. Абшарнікі гублялі паліцэйскую і судовую ўладу над вёскай, вызваляліся ад адказнасці за выплату сялянамі падаткаў і выкананне імі павіннасцяў на карысць дзяржавы. Дзяржава ўступіла ва ўзаемаадносіны з сялянствам, абыходзячы тым самым былых гаспадароў прыгонных сялян. У сувязі з гэтым былі ўведзены выбарныя органы сялянскага самакіравання, якія павінны былі кантраляваць збор падаткаў, рэгуляваць пазямельныя адносіны сялян. Паводле "Агульнага палажэння", уся зямля, якой карысталіся сяляне, прызнавалася ўласнасцю абшарнікаў. Яны абавязаны былі надзяліць сялян зямлёй, за карыстанне якой сялянам належала несці павіннасці. Абшарнікі пры надзеле зямлі

безумоўна выбіралі сабе самую ўрадлівую, што прывяло да цераспалосіцы сялянскіх надзелаў. У Віленскай і Гарадзенскай губернях для сялян зямля замацоўвалася за кожным дваром, а не за суполкай.

Памер выкупной сумы вызначаўся такім чынам, каб абшарнік, паклаўшы яе ў банк пад 6 % гадавых, мог на гэтыя працэнты атрымліваць штогод прыбытак, роўны гадаваму чыншу, які ён меў да прыняцця рэформы. Ад 20 да 25 % неабходнай сумы сяляне павінны былі плаціць самі непасрэдна абшарніку. Астатнія 75-80 % абшарнікі атрымлівалі ад дзяржавы. У выніку такой аперацыі сяляне станавіліся даўжнікамі дзяржавы і абавязаны былі на працягу 49 гадоў (да1910) не толькі вярнуць грашовую пазыку ўраду, але і выплачваць за гэтую пазыку штогод 6 % ад яе сумы.



Варта адзначыць, што ў выніку сялянскай рэформы 1861 года абшарнікі ў Беларусі змаглі ўтрымаць у сваім карыстанні 55% усіх зямель, значна меншую толькі 33,4% колькасць зямлі складалі сялянскія зямельныя надзелы, 11,3 % належалі царкве і скарбу. Сялянская рэформа 1861 г. стала своеасаблівым мяжой, якая абазначыла пераход ад феадалізму да капіталізму. Гэта была ўнікальная гістарычная падзея, у выніку якой абшарніцкія сяляне атрымалі асабістую свабоду і грамадзянскія правы. Але разам з тым рэформа захавала шмат феадальна-прыгонніцкіх перажыткаў, абвастралася аграрнае перанасяленне, пастаянна ўзнікалі сялянскія хваляванні.

Так, на нашай тэрыторыі ў 1863 г. успыхнула паўстанне, якое закранула ў той ці іншай ступені ўсе пласты насельніцтва. Яно не магло абмінуць і духавенства. Што тычыцца каталіцкіх святароў, то значная колькасць іх ўдзельнічала ў паўстанні або спачувала паўстанцам, яны падтрымлівалі ў народзе ідэі нацыянальнай незалежнасці і магутнасці Рэчы Паспалітай.

Такім чынам, беларускі нацыянальны рух у час паўстання, дзякуючы К. Каліноўскаму і яго аднадумцам, узняўся на якасна новы ўзровень: у ім зарадзілася палітычная ідэя дзяржаўнай самастойнасці Літвы-Беларусі. Віленскі губернатар М. Мураўёў, празваны "вешальнікам", чалавек жорсткі, але аказаўся разумны і дальнабачны, прыйшоў да думкі, што сілай адной зброі дасягнуць поспеху будзе цяжка.

Сваім указам ён паставіў дзве ўзаемазвязаныя мэты: па-першае, наладзіць сістэму даносаў у асяроддзі сялян праз матэрыяльную зацікаўленасць, паніжэнне для сялян на 20% выкупных плацяжоў з мэтай нейтралізацыі іх у паўстанні. Гэта яму ўдалося. Фактычна ў аддзелах паўстанцаў сяляне складалі толькі 18 %, а вось шляхта - 70%. Парабкі і беззямельныя сяляне пачалі надзяляцца зямлёй, канфіскаванай у абшарнікаў, якія ўдзельнічалі ў рокашы. На гэта са скарбу была выдзелена велізарная па тых часах сума ў 5 мільёнаў рублёў - усё гэта садзейнічала затуханню паўстання.

Надзелы беларускіх сялян павялічваліся амаль на чвэрць, а іх падаткі сталі значна ніжэйшыя.

Ваенна-паліцэйскія і палітычныя меры дасягнулі свайго: да канца жніўня - пачатку верасня 1863 г. паўстанне ў Беларусі і Літве было ў асноўным задушана. Сотні паўстанцаў расстраляны, некаторыя публічна павешаны. Усе вёскі знаходзіліся пад наглядам ўзброенай уладамі сельскай варты.

За выдачу паўстанцаў прызначаліся ўзнагароды. Тыя вёскі, што аказвалі падтрымку паўстанцам, спальваліся, маёмасць жыхароў прадавалася, а самі яны высылаліся ў Сібір. Мясцовыя дробныя чыноўнікі і інтэлігенцыя пераводзіліся на службу ў Расію, а на іх месца прысылаліся расіяне, каб пазбавіць тутэйшыя дзяржаўныя ўстановы ад польскага ўплыву, а таксама адкрылі частковы доступ да пасадаў у розных сферах мясцоваму праваслаўнаму насельніцтву. Так пачалася беларусізацыя мясцовай адміністрацыі ў так званым Паўночна-Заходнім краі.

Царская адміністрацыя ўстанавіла на Беларусі жорсткі ваенна-паліцэйскі рэжым: было забаронена друкаваць беларускія кнігі лацінкай. Пад выглядам барацьбы з "паланізмам" рэзка ўзмацнілася русіфікацыя краю. Руская мова стала пануючай ва ўсіх галінах грамадскага жыцця. У сваёй палітыцы царскі ўрад актыўна выкарыстоўваў праваслаўную царкву і народную асвету на рускай мове. Узмацніўся ціск на каталікаў, прымусова зачыняліся каталіцкія храмы і кляштары, адначасова было разгорнута масавае будаўніцтва праваслаўных цэркваў.

У вёсцы Дроздава ў сялянскай хаце ў 1887 годзе была адкрыта школа царкоўнай граматы ад Ганчарскага прыходу. У 1896 г. там вучылася мясцовая дзетвара: 8 хлопчыкаў і 7 дзяўчынак, настаўнікам быў драздавец Васіль Кумпяк, а да Першай сусветнай - Соф'я Зыдараўна Кудла, цётка майго бацькі.

У Руска-турэцкай вайне ў 1877-1878 гадах у складзе 17-га Архангельскага пяхотнага палка пад кіраўніцтвам генерала В. А. Геймана ўдзельнічаў з нашай радні Іван Антонавіч Кудла. Радавы вайсковец загінуў за волю славянскіх народаў Балканскага паўвострава і навек застаўся далёка ад роднай зямлі.

У 1911 г. быў створаны Гарадзенскі "Саюз жывёлаводаў і жывёлазаводчыкаў". Яго дзейнасць была і ў Лідскім павеце, яна была накіравана на перабудову сельскай гаспадаркі. У гэты час праходзіла сталыпінская аграрная рэформа, якая дала права прымусова выдзяляць сялянам зямлю ў адным участку і перасяляць іх на хутары.

Дармова або за меншы кошт сябры таварыства забяспечваліся насеннем хлябоў, траў, тэхнічных раслін і агародніны (такім чынам укараняўся шматпольны севазварот), пасадачным матэрыялам пладовых дрэў, племянной жывёлай, угнаеннямі, тэхнікай (жняяркі, маслабойкі, сепаратары, пралкі, лядоўні). Значную ўвагу ўдзяляла таварыства барацьбе з рознымі ворагамі сельскай гаспадаркі, такімі як: пяскі, яры, дрыгва, шкоднікі раслін, хваробы жывёл. Сябры таврыства скасоўвалі цераспалосіцу, урэгулёўвалі лясную і водную гаспадаркі, арганізоўвалі кааператывы, наладжвалі народны дробны крэдыт, садзейнічалі мерам па развіцці кустарнай прамысловасці.

У функцыі таварыства ўваходзіла і распаўсюджванне сельскагаспадарчых ведаў. З гэтай мэтай на агульных сходах чыталіся рэфераты, арганізоўваліся выстаўкі, фарміраваліся бібліятэкі, друкаваліся плакаты, праводзіліся сельскагаспадарчыя курсы, выставы, ажыццяўляліся экскурсіі па ўзорных гаспадарках, існавала Гарадзенскае сярэдняе сельскагаспадарчае вучылішча. Вяліся вегетацыйныя доследы з калійнымі, фосфарнымі, азотнымі ўгнаеннямі, уздзеяннем вапны на глебу.

У 1915 годзе Таварыства сельскай гаспадаркі перастала існаваць, бо на Гарадзеншчыну набліжалася Першая сусветая вайна.

Рудзінская Алена Мікалаеўна - унучка ад дразддаўскіх Кумпякоў (Сымонкавых) - цяпер кіраўнік этнаграфічнага музея "Сялянская хатка" Ганчарскай сярэдняй школы, займаецца не толькі музейнай працай, а і праводзіць гістарычныя даследчыя работы.

Даследаванне рэдкага музейнага прадмета дапамагло нам больш глыбока вывучыць жыццё нашага аднавяскоўца, а гэта значыць, невялікую часцінку гісторыі нашай малой радзімы.

Апалчэнне - часовае войска, якое набіралася з асоб, якія прызначаліся ў дапамогу арміі падчас сур'ёзнай ваеннай небяспекі. Першае апалчэнне было склікана ў 1812 годзе падчас нападу напалеонаўскіх войск на нашу мясцовасць.

У апалчэнне залічвалася амаль усё мужчынскае насельніцтва ва ўзросце ад 21 да 43 гадоў, вызваленае ад службы ў рэгулярнай арміі. У яго склад уваходзілі ў асноўным прыгонныя сяляне і называліся ратнікамі.

Прыгонныя сяляне маглі паступаць у апалчэнне толькі з дазволу гаспадароў. Не спытаўшыя дазволу ў свайго абшарніка, прыраўноўваліся да ўцекачоў і падвяргаліся жорсткаму пакаранню.

У вёсках сыход на вайну мужчын суправаджаўся "вялікім плачам". Сярод мноства сведчанняў захаваўся ліст дваранкі М. А. Волкавай: *"Цяжкі час у вёсках..., калі такое мноства няшчасных адрываецца ад сахі. Мужыкі не наракаюць, наадварот, кажуць, што яны ўсе ахвотна пойдуць на ворага і што падчас такой небяспекі ўсіх іх варта было б браць у салдаты.*

*Але бабы ў роспачы, страшна стогнуць і выюць так, што многія абшарнікі з'ехалі з вёсак, каб не быць сведкамі сцэн, якія раздзіраюць душу".*

Скліканае апалчэнне фармавалася ў пешыя дружыны, конныя сотні, артылерыйскія батарэі, сапёрныя роты, у брыгады, дывізіі і корпусы. Прымалі ўдзел у баявых дзеяннях на франтах, ажыццяўлялі ахову пастарункаў, няслі гарнізонную і вартавую службу, замяніўшы вайскоўцаў, якія пайшлі на фронт.

У сілу масавасці ваеннага прызыву ратнікі апалчэння часам атрымлівалі абмундзіраванне па рэштковым прынцыпе.



Так на фатаграфіі па цэнтры стаіць стройны Іван Лагун разам са сваімі аднапалчанамі. Цікавам бачыць, якое абмундзіраванне насілі ў канцы XIX стагоддзя ратнікі дзяржаўнага апалчэння.

Нязменным заставаўся толькі галоўны апалчэнцкі атрыбут - латунны крыж на тульі галаўнога ўбору. Крыж як знак дзяржаўнага апалчэння быў уведзены аж у 1812 годзе. Дарэчы, да Крымскай вайны гэты крыж узнагародай не лічыўся і насіўся на галаўных уборах. А вось з 1856 года, афіцыйна крыж апалчэння стаў нагрудным знакам. Чаканіўся з бронзы, латуні і жалеза.




Апошні ўзор знака з вензелем Мікалая ІІ з надпісам на канцах крыжа" За Веру, Цара, Айчыну" быў зацверджаны 4 сакавіка 1895 г.

Пасля заканчэння войнаў апалчэнцкія крыжы ўручаліся ў якасці ўзнагародных нагрудных знакаў. Права нашэння знака на левым баку грудзей былі ўдастоены генералы, афіцэры і ратнікі, якія служылі

ў Дзяржаўным апалчэнні і таксама тыя, якія пайшлі ў звальненне або ў адстаўку. Ва ўказе аб роспуску дзяржаўнага апалчэння ад 5 красавіка 1856 г. гаварылася: *"У памяць дастахвальнага служэння ад генерала да ратніка... даруецца права захаваць па звальненні з апалчэння адметны знак - крыж! "*

Далей даследавалі апалчэнцкі білет пад № 4054 радавога Лагуна Івана Пятровіча, які нарадзіўся ў1869 годзе ў Віленскай губерні, Лідскага павета, Ганчарскай воласці. Праваслаўнага веравызнання.



Іван Пятровіч, будучы на той час халастым, быў прыняты ратнікам на службу ў Лідскі павятовы вайсковы корпус 6 лістапада 1890 года. Затым праходзіў службу ў 101 пяхотным Пермскім палку, у асобным Сахалінскім батальёне. Звольнены з ратнікаў апалчэння 3 верасня 1894 года, пераведзены ў запас з тэрмінам да 1909 года.

Так выглядае дакумент Лагуна І. П. 31 снежня 1908 года ў разгорнутым стане. Унізе дакумента напісана: *"За дасягненнем 43-гадовага ўзросту падлягае выключэнню з ратнікаў апалчэння 31 снежня 1912 года"*. Былыя ратнікі, якія вынеслі на сваіх плячах усе цяжкасці ваеннага часу і паходных умоў, вярнуліся да сваіх паўсядзённых клопатаў, і ўсе распавядалі сваім хатнім, як *"у грозную пару абаранялі сваю зямлю ад ворага..."*.





1904 г. Два браты з вёскі: Козел Іосіф Іванавіч, 1883 г.н. і Козел Міхаіл Іванавіч, 1886 г.н. былі прызваны ў царскую армію на 26 гадоў. Пасля кастрычніцкай рэвалюцыі перайшлі на бок Савецкай улады, ваявалі з Калчаком. Іосіф ад ран памёр і пахаваны ў Маскве. Міхаіл у 1940 годзе памёр і пахаваны каля ганчарскай цэрквы.

У Першую сусветную вайну 20 верасня 1915 года вёска Дроздава акупавана немцамі. Да гэтага выехалі бежанцамі ў глыбіню Расіі мае родзічы і многія сем'і драздаўцоў. Аб гэтай гістарычнай падзеі і жыцці там у тыя гады быў апублікаваны матэрыял у "Лідскім летапісцы" № 70-71 "Экскурс у гісторыю беларускага бежанства Першай сусветнай вайны" на аснове сабраных архіўных крыніц і ўспамінаў бацькі і сямейных дакументаў той мінуўшчыны - своеасаблівы летапіс нашай бацькаўшчыны …



Мне ж прыемна ўсведамляць, што працяг распавядаць далейшую храналагічную гісторыю жыцця нашых пакаленняў - гэта гістарычная павага да продкаў, удзячная памяць пра іх - ёсць важны складанік духоўнага жыцця маіх родзічаў, сваякоў…

Мае сыны і ўнучкі растуць з падтрымкай вялікага і моцнага роду, а ў мяне выдатная магчымасць прадоўжыць распавядаць у "Летапісцы" пра "Віткі жыцця родзічаў", пра сям'ю, яе вялікі і слаўны шлях.

*Адплываюць гады чарадою*
*Незваротных кароценькіх хваль -*
*І тужліва ў шуме прыбою*
*Адгукаецца даўняя жаль…*

**Спіс выкарыстаных матэрыялаў:**

1. Літоўскі Дзяржаўны гістарычны архіў у Вільні, ф..., воп.15. спр.155.

2. Ігнатоўскі У. М. 1863 год на Беларусі. Нарыс падзей. Мн., 1930.

3. Копыскі З. Ю. Крыніцазнаўства аграрнай гісторыі Беларусі.

***Леанід Лаўрэш***

# Гісторыя двух, амаль што аднатыпных будынкаў у Лідзе

У 1894 г. па ініцыятыве міністра фінансаў Сяргея Вітэ была ўведзеная дзяржаўная вінная манаполія, якая ў поўнай меры дзейнічала толькі з 1906 да 1913 г. Для ажыццяўлення віннай манаполіі трэба было пабудаваць казённыя вінныя ачышчальныя склады, куды ўладальнікі прыватных бровараў маглі б здаваць сваю прадукцыю (прыватныя вінакурні на Лідчыне ў той час, напрыклад, існавалі ў маёнтках Ішчална і Вялікае Мажэйкава). Гэтыя казённыя гарэлачныя заводы зваліся "вінныя склады". Пад назвай "склад" меўся на ўвазе комплекс памяшканняў для захоўвання, перапрацоўкі і разліву спірту і гарэлкі. Сюды з прыватных ці казённых вінакурняў прывозіўся спірт-сырэц і ачышчаўся ад шкодных прымешак - рэктыфікаваўся. Потым спірт мацаваўся да 90-95° і з яго рабілі гарэлку моцаю не ніжэй за 40°. Прадаваўся гатовы прадукт тут жа на складзе або ў казённых вінных ці давераных прыватных крамах. У 1913 г. агульная выручка ад віннай манаполіі складала 26 працэнтаў даходу бюджэту імперыі[1].

Трэба адзначыць, што ў рускай мове таго часу пад словам "віно" мелася на ўвазе не тое, што гэтым словам завецца зараз, а менавіта гарэлка, якая таксама мела назву "хлебнае віно".





***Сучасны выгляд Віленскага і Ашмянскага вінных складаў (Фотаздымкі за сайта https://ashmyany.blogspot.com/)***

У Віленскай губерні рэформа Вітэ набыла моц з 1897 г.[2]

Будаўніцтва казённых вінных складоў было дастаткова вялікім праектам. Са статыстычнага зборніка "Агляд Віленскай губерні за 1996 г." даведваемся, што *"Для захоўвання, ачысткі і разліву віна ў посуд і забеспячэнне ім вінных лавак у губерні, паводле распараджэння міністра фінансаў, пабудавана 10 складоў: у Вільні - за 178 972 р. 30 кап, у Ашмянах - 96 586 р. 42 кап, у Лідзе - 109 531 р. 38 кап, у Глыбокім - 92 244 р. 67 кап, у Троках - 92 736 р. 55 кап, у Аранах - 98 737 р. 89 кап, у Свянцянах - 81 008 р. 84 кап, у Дзісне - 79 447 р. 52 кап, у Вілейцы - 87 619 р. 25 кап і ў Маладзечне - 91 043 р. 98 кап. Усяго - 10 007 928 р. 90 кап. Для пабудовы гэтых складоў дзяржавай набыты пляцы: ... у Лідзе 3 500 кв. саж. за 4500 р. ..."* [3].

Паступова вінныя склады ліквідаваліся, і ў 1909 г. у Віленская губерні мелася толькі 4 вінныя склады[4].

Лідскі "Трэці казённы вінны склад", як і іншыя падобныя установы - месца захоўвання і разліву моцных спіртовых напояў. Лідскі № 3 казённы вінны склад пачаў працаваць у сакавіку 1897 г. Загадчык Аляксей Іванавіч Даўгоў, на пасадзе з 6 сакавіка 1897 г., праваслаўны; яго памочнік Віктар Георгіевіч Пакроўскі, на пасадзе з 13 сакавіка 1897 г., праваслаўны. Лекар Мікалай Міхайлавіч Падвальнікаў, на пасадзе з 1 ліпеня 1898 г. Машыніст Мар'ян Адольфавіч Федаровіч, на пасадзе з 1897 г. Канторшчык Іван Мечыслававіч Балюкевіч, на пасадзе з 17 сакавіка 1897 г., католік; памочнік канторшчыка Сцяпан Восіпавіч Валасевіч, на пасадзе з 1897 г. Зборшчыкі: Клаўдзій Вікенцевіч Каліноўскі, на пасадзе з 16 ліпеня 1897 г., католік; Людвік Пятровіч Пятрусевіч, на пасадзе з 27 лістапада 1897 г., католік; Сцяпан Восіпавіч Палтаракевіч, на пасадзе з 16 чэрвеня 1897 г., мусульманін. Гмахі гарэлачнай манаполіі былі пабудаваныя каля 1897 г. і захаваліся да нашага часу на тэрыторыі сучаснай дрэваапрацоўчай фабрыкі[5].

У 1938 г. вырашана пачаць прыстасаванне паманапольных вінных гмахаў па адрасе вуліца Сыракомлі,

[1] Губанов А. В., Борознов С. А. К вопросу изучения типов объемно-пространственных решений казенных винных складов в конце XIX - начале XX в // Вестник ПНИПУ. Строительство и архитектура. 2014. №1. С. 16-32.

[2] Кураловіч Павел. Ашмянскі вінны склад // https://ashmyany.blogspot.com/2018/01/blog-post.html

[3] Обзор Виленской губернии за 1896 год. Вильна, 1897. С. 27.

[4] Кураловіч Павел. Ашмянскі вінны склад.

[5] Лаўрэш Леанід. Ліда да 1914 г. // Лідскі летапісец. 2017. № 1 (77). С. 46-70.



***Кантора Лідскага прамкамбіната, былы гмах Лідскага віннага склада, 1960 гг.***

2 пад патрэбы акруговага суда ў Лідзе. Гэтак у горадзе з'яўляецца следча-карная турма. Гэтая турма ў лідзян атрымала назву "Турма на Сыракомлі", бо стаяла па вуліцы Сыракомлі (сучасная Мопраўская). Сёння ў карпусах былой гарэлачнай манаполіі, а потым турмы знаходзіцца мэблевая фабрыка[6].

Усе офісныя будынкі вінных складоў Віленскай губерні былі пабудаваны па амаль што аднолькавых праектах і, верагодна, трошкі адрозніваліся толькі памерамі. Праекты Віленскай губерні не супадалі з праектамі вінных складоў іншых губерняў, на жаль знайсці будаўнічыя праекты нашых складоў покуль не атрымалася. Аднак можна заўважыць адносныя падабенства Лідскага віннага склада на тыпавы праект склада на 150 000 вёдзер гарэлкі (у год) зроблены ў 1898 г., але будынкі гэтага праекта не маюць архітэктурных упры-







***Параўнанне аэрафотаздымка красавіка 1944 г. з сучасным спадарожнікавым здымкам.***

[6] Лаўрэш Леанід. Шпацыры па старой Лідзе. Гродна, 2020. С. 321.



***Сучасны выгляд офіснага гмаха былога Лідскага віннага склада***



***Сучасны выгляд цэнтральнай часткі офіснага гмаха былога Лідскага віннага склада***



***Паўночная частка фасада з "гатычным" акном другога паверха***



***"Гатычнае акно" другога паверха паўдзённай часткі фасада***

гожванняў з элементамі неаготыкі, якія маюць склады Віленскай губерні[7].

Аналіз аэрафотаздымкаў 1915 і 1944 гг. паказвае, што Лідскі вінны склад складаўся з трох будынкаў, якія захаваліся да нашага часу. Офісны будынак (сучасны адрас - Мопраўская, 4) да красавіка 1944 г. ужо згарэў пасля неаднаразовых бамбаванняў чыгуначнага вузла і стаяў без даху. Пасля 1944 г. ён быў адноўлены. Два будынкі, якія месціліся на поўдзень ад яго, не былі пашкоджаны і таксама захаваліся да нашага часу (каардынаты большага з іх: 53.880514045169114, 25.299876146124255).

Нас будзе цікавіць офісны будынак віннага склада. Ад яго цэнтральнага рызаліту[8] з уваходам у

[7] Типовые проекты винных казенных складов от 100 тыс. вед. до 600 тыс. вед. Б/д // РГИА. Ф. 1293. Оп. 167 (354). - Д. 30. // https://www.prlib.ru/item/361673.

[8] Рызаліт - частка будынка, якая выступае за асноўную рысу фасада і ідзе па ўсёй вышыні будынка.

будынак, у левы і правы бок па першым паверсе фасада мелася па 6 вокнаў. Па фасадзе другога паверха, ад цэнтральнага рызаліту з прыгожым акном, акаймаваным цэглай, якая надавала акну модны ў той час, неагатычны стыль, у два бакі было столькі ж вокнаў, але з адным адрозненнем - два крайнія акны другога паверха мелі такі самы неагатычны выгляд, як і акно цэнтральнага рызаліту. Звяртае на сябе ўвагу прыгожы ганак з чыгуннага ліцця. Офісны будынак Лідскага казённага віннага склада захаваўся дастаткова добра, але быў атынкаваны і страціў аўтэнтычны выгляд. З-за таго, што зараз перад яго фасадам густа растуць ёлкі, а частка гмаха знаходзіцца за плотам фабрыкі, зрабіць агульнае фота фасаднай часткі немагчыма.

Вельмі цікава, што архітэктуру офісных будынкаў вінных складоў (у тым ліку і Лідскага) цалкам паўтараў двухпавярховы гмах, які раней стаяў каля замка. Адрозненне яго ад офіснага будынка віннага склада толькі ў адным - ад цэнтральнага рызаліта ў левы і правы бок адыходзіла толькі 5 вокнаў - ён быў карацейшы па фасадзе на 2 акны (разам па фасадзе двух паверхаў меў 11 вокнаў, а офісны будынак віннага склада - 13). Вядома, што гэты будынак належаў Мардуху Пупко і будаваўся як школьны, прыкладна ў той жа час, што і вінны склад. Відочна, што Пупко скарыстаўся ўжо гатовым праектам.







***Гарадская вучэльня каля замка, бачны легендарныя лідскія дрэвы***

Гэты будынак згарэў у 1941 г. і зараз не існуе. Аналіз аэрафотаздымкаў 1944 г. паказвае, што, як і іншыя яўрэйскія будынкі ў цэнтры горада, гэты гмах да 1944 г. быў разабраны на цэглу, і да таго часу ад яго не засталося нават руінаў.

Прэса паведамляла, што Лідская *"існая павятовая вучэльня ў 1900/1901 навучальным годзе, згодна з пастановай гарадскіх упаўнаважаных ад 30 верасня 1899 г., пераўтворыцца ў гарадскую вучэльню, ... за наём памяшкання выдаткоўваецца 1000 руб. у год"*. Новы будынак для вучэльні быў арандаваны на 6 гадоў у Мардуха Пупко. Але падобна, што гарадская вучэльня пачала працаваць толькі з 1 ліпеня 1902 г.[9]

Сям'я Пупко мела вялікі ўплыў у горадзе, і таму двухпавярховы гмах адразу будаваўся як школа, бо, відочна, Пупко ведаў, што праз гарадскія ўлады яму будзе забяспечана арэнда будынка. Зразумела, што гатэль ці "даходны дом" з кватэрамі ў наём меў бы іншую ўнутраную планіроўку.

Мы ведаем, што тры будынкі віннага склада разам каштавалі дзяржаве 109 531 р. 38 кап, з чаго можна зрабіць выснову, што офісны будынак каштаваў каля 30 000 р. Ён меншы за будынак цэха (гэта самы паўночны гмах на тэрыторыі склада), але большы за тэхнічны будынак, які знаходзіцца паміж цэхам і офісам. Пры тым зразумела, што офісны будынак не меў тэхналагічнага абсталявання. Школьны будынак Мардуха Пупко меншы за офісны будынак склада толькі, прыкладна, на 15 працэнтаў, і яго кошт можна было б прыблізна ацаніць у 25 000 р. Але калі ён здаваўся ў арэнду за 1 000 р. у год, дык улічваючы, што тэрмін акупляльнасці не можа быць роўны 25 гадам, не думаю, што ён каштаваў для Пупко больш за 12 000 - максімум 15 000 рублёў. Розніца ў коштах кідаецца ў вочы, што лёгка можна растлумачыць *"зразумелымі выдаткамі на патрэбных людзей"* і *"распілоўваннем бюджэту"*.

Для параўнання коштаў і разумення цаны тагачасных грошай - адны з самых багатых лідскіх гараджан, валодалі наступнай нерухомасцю: ва ўласнасці нашчадкаў Янкеля Папірмайстра ў г. Лідзе знаходзіўся мураваны двухпавярховы дом, два аднапавярховыя драўля-

[9] Лаўрэш Леанід. Лідская павятовая вучэльня // Маладосць 2017. № 07. С. 130-131.

[10] Церашкова К. С. Мяшчанскае домаўладанне і землекарыстанне на тэрыторыі Беларусі (1860-я гг. - пачатак XX ст.) // Часоп. Беларус. дзярж. ун-та. Гісторыя. 2018. № 1.. С. 62.

ныя дамы, тры драўляныя хлявы, бровар, мураваны склад машын, лесапільны завод, мураваная крама і пляц зямлі агульным коштам у 35 000 р. Ва ўласнасці Мейлаха Пупко знаходзіўся мураваны дом з крамай, тры драўляныя дамы, бровар, гаспадарчыя пабудовы, плац зямлі агульным коштам 31 000 р.[10] Гэтыя асобы - уладальнікі двух лідскіх піўных бровараў з усім абсталяваннем валодалі нерухомасцю трошкі большай за 30 000 р. Вялікі цагляны корпус бровара Папірмайстра можна ўбачыць і сёння, ён з'яўляецца часткай завода харчовых канцэнтратаў, і яго памеры абсалютна параўнальныя з корпусам былога віннага склада, і гэта толькі частка яго нерухомасці.

Высуну гіпотэзу, што Мардух Пупко мог быць падрадчыкам будаўніцтва лідскага віннага склада - гэта магло б тлумачыць аднатыпнасць будынкаў. Тады будучы школьны будынак, мог быць пабудаваны на "чэсна з'эканомленыя" грошы ад будаўніцтва віннага склада. Але гэта толькі мая рызыкоўная гіпотэза.

Двухпавярховы цагляны дом Мардуха Пупко, дзе месцілася гарадская вучэльня, стаяў на поўнач ад Лідскага замка, за некалькі дзясяткаў метраў ад яго. Фасадам будынак быў павернуты да дзвюх соснаў на паўночным схіле замка, тут жа быў і галоўны ўваход у вучэльню. Яшчэ калі павятовая вучэльня знаходзілася на вуліцы Каменскай, вучні часта прыходзілі менавіта сюды, да замка, як быццам акружанага аўрай легенд і паданняў. Лепшы лідскі гісторык Міхал Шымялевіч успамінаў пра часы вучобы: *"... на месцы ... сучаснага мураванага дома (па Гедзімінаўскім завулку ў Лідзе), у каторым знаходзіцца агульнаадукацыйнай школа № 5, стаяла старое драўлянае гумно - склад усялякай вайсковай старызны, а завулак Гедзімінаўскі - вузкі, балоцісты і цёмны - усімі месцічамі абмінаўся. Тут не раз здаралася, што жаўнер, які ўначы стаяў на варце, стрэлам з карабіна ўздымаў трывогу, тлумачачы, што сярод старых таямнічых соснаў яму нешта здалося і настрашыла. У той час на вуліцах не толькі электрычнасці не было, а нават і звычайнай алеевай лямпы на слупе. Старыя бабы, лежачы на цёплых ляжанках, умелі апавядаць і вельмі цікава апавядалі пра розныя страшныя рэчы, якія рабіліся ў замку і пад замкам: пра замкнутага у замкавай вежы невінаватага чалавека, пра скрыні на ланцугу са скарбам, пра страшнага сабаку, які пільнуе ўваходы ў замкавыя падзямеллі, пра замкавыя лёхі і ходы, якімі можна ехаць чацвёркай коней да Вільні і Наваградка, пра каралеву, якая раз у год выходзіць з замкавых падзямелляў і просіць ў першага сустрэтага ёю лідзяніна, каб замовіў набажэнства за ўратаванне яе пакутнай душы - набажэнства павінна адбыцца толькі ў замку, і ксёндз павінен не забыць прынесці ўсё патрэбнае з касцёла, але ксёндз заўсёды нешта забываў, ці яму перашкаджала паліцыя, пра зачараваных у тых соснах дзвюх каралеў і г.д. У тыя часы лідзяне свята верылі, што ў пэўны дзень, у 12 гадзін апоўдні, а можа, уначы, калі зрабіць насечкі на кары соснаў, з іх будзе пырскаць кроў. Хто з нас не спрабаваў гэта на практыцы? Колькі на кары нічым невінаватых сосен засталося знакаў ад нашых сцізорыкаў?"* [11].

У будынку, дзе да 1915 г, месцілася гарадская вучэльня, у наступныя часы, ці, як кажуць у нас *"за польскім часам"*, знаходзілася агульнаадукацыйная школа № 5 імя Людвіка Нарбута

Вучаніца гэтай школы Яўгенія Ярмант пісала: *"На першым паверсе размяшчаліся малодшыя класы з першага па чацвёрты. У глыбіні будынка знаходзілася агульная распранальня - рад кручкоў і драўляных калочкаў, убітых па ўсёй даўжыні сцяны. Справа ад распранальні была вялікая праходная зала, дзе праходзілі ўрокі гімнастыкі і праводзіліся сходы харцэраў. У двары з задняга боку будынка вузкая і крутая драўляная лесвіца вяла на другі паверх. На галоўным фасадзе справа размяшчалася шырокая, але вельмі крутая лесвіца, якая вяла ў настаўніцкую на другім паверсе. Ёю карысталіся толькі настаўнікі".*

Другі вучань школы № 5, Ян Станіслаўскі, успамінаў: *"Мела адрас вул. Гедзімінаўская, 10. Стары двухпавярховы будынак з чырвонай цэглы. Падлогі з дошак, цесныя калідоры, малы пляц для адпачынку дзяцей, у куту якога былі прымітыўныя туалеты. Школа не мела гімнастычнай залы, майстэрні, з кабінетаў мела толькі фізіка-геаграфічны. Вуліца Гедзімінаўская з аднаго боку ўлівалася ў вуліцу Замкавую, з другога - у Мацкевіча (Крывую)"* [12].

У гэтай школе вучыўся беларускі паэт і грамадскі дзеяч Валянцін Таўлай. *"Хаджу ў польскую школу, якая змяшчалася пры самых тады велічных мурах-руінах старадаўняга замка ў Лідзе. Пры гэтых мурах сядзелі дзве згорбленыя векам, заімшэлыя хвоі, нават быццам бы заклятыя. Казалі: калі зламаць галінку - пацячэ кроў", - пісаў паэт у аповесці "Аб сабе"* [13]. *Цікава, што Валянцін Таўлай у 1943 г. сядзеў ў турме "На Сыракомлі"*[14] .

Вельмі важна, што ў нашым горадзе захаваліся будынкі віннага склада - архітэктуры канца XIX ст. І можа быць, калі-небудзь, з офіснага будынка лідскага віннага склада будзе знятая тынкоўка, цэгла будынка будзе ачышчаная да свайго першапачатковага выгляду, і гэты стары гмах і надалей будзе радаваць нас, лідзян, якія любяць і ганарацца сваім старажытным горадам.

*Аўтар выказвае шчырую падзяку краязнаўцу Паўлу Кураловічу.*

[11] Лаўрэш Леанід. Лідская павятовая вучэльня. № 07. С. 130-131.
[12] Лаўрэш Леанід. Адукацыя ў Лідзе, 1920-1930-я гады // Маладосць. 2021. № 2. С. 109.
[13] Цыт па: Каладзяжная Анастасія. Этапы жыццёвых дарог змагара. Ліда, 2014. С. 8.
[14] Суднік Станіслаў. Ніна Таўлай пра брата і пра ўсіх // Лідскі летапісец. 2004. № 1-2(25-26). С.18-19.

***Альжбета Табенская***

# З долі і няволі

## *Успаміны выгнанкі**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Пан Гелз быў спраўнікам, таму займаў важную пасаду на прыісках. Пані Гелз, старэйшая за мужа на гадоў 10 і вельмі непрыгожая, абавязкова хацела пазбавіцца ад настаўніцы, маёй папярэдніцы, якая яе не вельмі паважала, са мной заўсёды была добрай і ветлівай.

Я атрымоўвала ў гэтым доме 600 рас. рублёў зарплаты, мела вялікі пакой з веніцыянскім акном, прыслугу і ўсякія выгады. Вучаніцы мае, добрыя і ветлівыя дзяўчынкі, былі здольныя і ахвотныя да навук. Акрамя адзінай дачушкі мела панства Гелз пад апекай пляменніка Паўлушу Костарава, 12-гадовага хлопчыка. Бацька яго, жанаты з сястрой пані Гелз, быў ваенна-марскім афіцэрам. Жылі некаторы час у Японіі, дзе неўзабаве абое памерлі, пакінуўшы малога сынка смяртэльна хворым, як здавалася, на водную пухліну пад апеку старэнькай нянькі. Была гэта верная іх прыгонная, надзвычай прывязаная да пані Костаравай і да пані Гелз, якіх выхавала. Няня гэтая з цяжка хворым дзіцем, забраўшы пажыткі, якія засталіся пасля яго бацькоў, адалела такое далёкае падарожжа па сушы і вадзе, лячыўшы, як магла, тое дзіця, дабралася да Пецярбурга, дзе ў той час жыло панства Гелз. Яна вельмі любіла свайго выхаванца, пра яго толькі думала, для яго жыла, каго Паўлуша любіў, таго і яна любіла, напружваючы заўсёды сваю ўвагу, ці выпадкам панства Гелз не рабіла якой розніцы паміж Ляляй і Паўлушам. Не магла яна перанесці і найменшай яго адсутнасці, калі ён быў на ўроках са сваім настаўнікам, стаяла пад дзвярыма, прыслухоўваючыся да размовы, а часта, не могучы ўжо зладзіць з сабой, уваходзіла ў пакой, несучы ім чаго-небудзь смачнага з'есці ці папіць. Уся ўзрушаная, прасіла Паўлушу, каб быў паслушны, ветлівы, у навуках пільны. І добрае было з Паўлушы дзіця! Не ведаў ён сваіх бацькоў, няня, якая выхоўвала яго, была простай вясковай жанчынай, а ён вызначаўся вялікай шляхетнасцю характару і здольнасцямі і тактам у паводзінах. Паўлуша атрымаў добрых апекуноў найперш у асобе няні, якая ўратавала яму жыццё, потым у шаноўных дзядзькі з цёткай і нарэшце ў пане Сільванду, сваім настаўніку, як бы з Божай ласкі яму пасланым. Пан Юзаф Сільванд быў польскім патрыётам, нягледзячы на французскае прозвішча. Студэнт Пецярбургскага ўніверсітэта, за паўстанне 1863 года сасланы ў Сібір, быў запрошаны панствам Гелз настаўнікам для іхняга пляменніка. Пан Сільванд быў чалавекам разумным, вучоным, энергічным, найшляхетнейшага характару, з вялікім веданнем свету і тактам паводзін у таварыстве і ў розных акалічнасцях жыцця, быў ён узорам для ўсіх нашых братоў-палякаў. Такі шаноўны чалавек выхоўваў сірату; Паўлуша палюбіў свайго настаўніка, слухаў яго парады і навукі, з якіх доўга яшчэ карыстаўся, перапісваючыся з ім.

На прыіску пані Квяткоўскай пасяліўся жанаты доктар п. Дзьячэнка; жонка яго старалася заняць маё месца ў панства Гелз, якіх без усякіх цырымоній часта адведвала, распавядаючы ім пра сваю дасканаласць ва ўсіх навуках, а на мяне нагаворваючы самыя розныя пакасьці. Калі гэта ўсё ні да чаго не прывяло, заняла месца ў пані Вр., дзе магла працаваць нават з карысцю для дзяўчынак, бо як расейка дасканала ведала сваю мову і літаратуру, стала канкрэтна для Юліі Вр. добрай праваднічкай на шляху набыцця ведаў, а можа нават пад яе ўплывам Юля пазней паступіла ва ўніверсітэт.

На вечарах у панства Гелз бывалі звычайна палякі, маладыя людзі, якія па большай частцы займалі нішы неадпаведныя іхнім здольнасцям у навуках, аднак іх усюды ахвотна прымалі, бо былі сапраўднай аздобай таварыства. Вось гэтыя паны, прыязджаючы да панства Гелз, заходзілі да мяне перад пачаткам забавы, і час наш сыходзіў на размовы аб прыгодах нашага жыцця, нашай долі і нядолі. Бо я ішла з маімі выхаванкамі спаць а 10-й, а вячоркі трывалі да 6-й - 7-й раніцы. А 8-ай падавалі снеданне мне і дзецям, а 9-й я пачынала ўрокі. Паны Гелз прыходзілі на снеданне найраней а 12-й, а я са сваімі выхаванкамі і пан Сільванд з Паўлушам складалі ім таварыства, маючы разам гадзіну адпачынку і другое снеданне. Потым быў урок музыкі і кароткая перадабедзенная прагулка, бо абед падавалі а 5-ай; вечарам летам адбываліся доўгія шпацыры, зімой было чытанне дзіцячых часопісаў, забавы з лялькамі, ручная праца для іх. І так час мне праходзіў прыемней, чым у Томску, прыкрым толькі была аддаленасць ад касцёла; міналі тыдні, месяцы і нават гады, а нідзе ўбачыць славы Божай, нідзе прагненняў душы заспакоіць не магла. Нават і мужчыны, маладыя людзі, якія прыходзілі да мяне на гутаркі, гаварылі: "Усё ў нас ёсць, добра нам тут, а

* Пераклад з польскай мовы Станіслава Судніка. Паводле “Z doli i niewoli. Wspomnienia wygnanki”. Кракаў, Друк В. Карнецкага, 1897.

толькі прагнень душы нашай і сэрца заспакоіць не можам, таму так нам тужліва і журботна!". Няшчасны быў той, хто ўдаваўся ў прыязныя стасункі з тамтэйшымі жыхарамі, або хто жаніўся, праз кароткі час упадаў у п'янства, марнаваўся і ў нэндзы гінуў. Нічога яго задаволіць не магло, бо адна толькі рэлігія і малітва, якая з яе выплывала, вера ў прысутнасць Бога на кожным месцы не аднаму журботнаму выгнанцу прыносіла палёгку. Будучы яшчэ ў панства Вр., бачыла нейкага старога жаўнера, які сядзеў пад акном казармы, у якой ноччу мелі прытулак работнікі, і чытаў нешта ў акулярах, падышла бліжай і ўбачыла кніжку для набажэнства, зусім цёмную ад доўгага ўжытку. Запытала ў яго папольску, як называецца і адкуль у яго гэтая кніжка? Адказаў, што паляк, называецца Навіцкі, узяты быў у войска перад 1831 годам, пасля паўстання ў пакаранне высланы ў сібірскія палкі, заканчвае тут сваё жыццё, прыняты вартаўніком з міласэрнасці пана Квяткоўскага. Калі бачыла яго другі раз, бядак горка плакаў, бо прапалі яго акуляры і ўжо маліцца з кніжкі не можа.

Адзін жаўнер з Камчаткі пеша прыйшоў на Літву, на родную зямлю, бо журба давала яму крылы для ўцёкаў; адна маці з шасцёркай дзяцей вярнулася з Сібіры ў родны край на Літву толькі на жабрачым хлебе. О, бо як маці роднай, так і радзімай зямлі ніхто і нішто паляку замяніць не можа. Таму жудаснымі і бязлітаснымі ёсць выказванні некаторых варшавякаў да бедных ліцвінаў, якія туды прыбывалі:

- Чаго пан ці пані прыехаў або прыехала ў Варшаву? Мусіш пан або пані мець значныя грошы.

Пачуць гэта з вуснаў паляка маці, якая хацела дзяцей сваіх выдабыць з зямлі выгнання і прывесці іх у любую Айчыну, якой прысвяціла сваю маладосць, здароўе і шчасце; маці якая тужыла вечна па той Айчыне і прагнула дзяцей сваіх навучыць асновам веры сваіх бацькоў і іхняй мове, такія словы ад землякоў пачуць, гэта для яе стылет убіць у сэрца, гэта для яе страшней, чым смерць ад ворага прыняць! О, палякі, майце ж літасць над беднымі выгнанцамі. Вы ж ведаеце, што цар не дазволіў ліцвінам вяртацца на іх родную зямлю, на іх любімую Літву. Што ж ім выгаворваць, што збіраюцца сюды, у Варшаву, адкуль іх у 1863 годзе заклікалі да паўстання, што хочуць тут прыладзіць сваіх дзяцей да нейкай працы і навучыць польскай мове. Ці ж хочаце, каб нашчадкі польскіх патрыётаў змарнаваліся? О, такія не вартыя назвы палякаў і католікаў!...

Паўтара года, здаецца мне, была я ў панства Гелз; у гэты час стараліся яны за пасаду і атрымалі такую ў Пецярбургу, з гэтай нагоды пан Сільванд і я мусілі шукаць новай працы. Адна пані, жонка золатапрамыслоўца, прапанавала мне, каб я занялася выхаваннем яе дачкі, гаворачы мне, што яе муж ахвотна дасць мне 600 расійскіх рублёў, а яна ад сябе дадасць яшчэ 100 рублёў і гарантуе найлепшае абслугоўванне і выгоды жыцця, бо як добрай прыслугі мне даць не магла, то мне сама зробіць усё, што трэба будзе і прыслужыць мне. Аднак я не мела адвагі застацца ў таго панства, бо вядомы быў сам той пан як нахабны, таму баялася, каб не спаткалі мяне ў іхнім доме якія непрыемнасці, і таму я прыняла абавязкі настаўніцы ў начальніка жандармаў у Краснаярску, палкоўніка Разіна за 400 рублёў. Мы выехалі ўсе ў Краснаярск, золатапрамысловец, які жыў на паўдарозе с.п. Браніслаў Завадскі даў вечар развітання для паноў Гелз. Заехалі мы да іх і былі надзвычай пышна прынятыя: танцы, музыка, спевы, гульня ў карты працягваліся цэлую ноч да белага дня, у кожнай з тых забаў браў удзел пан Сільванд.

Аднаго разу падышла да мяне маладая паненка Таццяна Іванаўна Папова, са слязамі кідаючыся мне ў абдымкі і пачала распавядаць пачуцці кахання і шкадавання з прычыны ад'езду пана Сільванда, а таксама абыякавасці яго пры расстанні. Шкада мне яе было, супакоіла, як магла, параіўшы, каб узяла сябе ў рукі, бо пан Сільванд выехаць мусіць і што становішча яго такое, што не можа абяцаць ёй шчаслівай будучыні, нарэшце павінен вярнуцца ў радзімы край і да сям'і. Нарэшце пачуліся паштовыя званкі і экіпажы сталі перад ганкам; тады ўсё таварыства сабралася ў салоне, п. Сільванд сыграў на развітанне марш з такім пад'ёмам і сілай, што за малым струны фартэпіяна і сэрцы праводзіўшых і праводзімых не палопаліся. Пасля заканчэння марша развітаўся з усімі і выйшаў сядацца ў экіпаж, за ім выйшлі і ўсе астатнія. У дарозе пан Сільванд быў смутны, я ўнікала з ім размовы, а з Краснаярска напісала яму, каб парай ветлівых слоўцаў уцешыў Таццяну І. П., дадаючы, што калі пачуццем за пачуцце заплаціць не можа і не павінен, то на спачуванне яна мае права. Падзякаваў мне за параду і выканаў яе, у выніку чаго Таццяна выйшла замуж за некага са сваёй нацыянальнасці. Пана Сільванда праз шмат гадоў бачыла летась. Заўсёды шляхетны і высакародны гэты чалавек не ажаніўся, але пасля многіх цяжкасцяў жыцця цешыцца дабрабытам і павагай у людзей, займае пасаду натарыюса ў адным з гарадоў Ломжынскай губерні.

Я ў Краснаярску знайшла добрую ўдачу ў доме панства Баніных, якія былі са мной вельмі ветлівыя, дзеці мелі добрыя сэрцы, але былі капрызныя, асабліва дзяўчынка, распешчаная бацькам. Найбольш мела з ёй клопату падчас урокаў музыкі, на якіх капрызнічала, упіралася і нічога не хацела вучыць. Пані Баніна была надзвычай гаваркая. Ніколі ў жыцці, ні перад тым, ні пасля таго не здаралася мне чуць асобу, якая б так шмат гаварыла. Мучыла яна мяне ўдзень і ўначы. Днём перарывала нам урокі, а ноччу пазбаўляла сну. Што нядзелю я бывала з дзецьмі ў царкве, а што месяц прыходзіў поп адпраўляць малітвы за памерлых, на набажэнстве я разам з дзецьмі мусіла прысутнічаць. Наймільшымі маімі перадышкамі былі шпацыры з дзецьмі, пеша ці экіпажам, а таксама адведзіны панны Тэклі Траханоўскай, якая стараннямі пана Баніна і доктара Мазарава была вызвалена ад цяжкіх работ у Іркуцкай губерні і пакінута ў Краснаярску. Жыла яна ў малым доміку адна, зусім не звяртаючы ўвагі на меўшыя месца ў Краснаярску выпадкі забойстваў. Пасля забойства адной швачкі, polькі, прыбылай з Варшавы, я радзіла ёй, каб не жыла адна, а пры якой-небудзь польскай сям'і. Панна

Тэкля і слухаць пра гэта не хацела, хоць магла апасацца за свой спакой, бо мела рэпутацыю заможнай - даўгоў не мела і за ўсё плаціла наяўнымі. Жыла самотная 20 гадоў у Краснаярску, не адчувала недастачы, атрымоўвала штогод 100 рас. рублёў ад пані Анелі Паклеўскай, вядомай у нашым краі і на Сібіры філантропкі, Далей мела 50 рублёў ад доктара Вільгельма Віламоўскага, жыхара Краснаярска і прысыланых з Варшавы грошай ад былой сваёй вучаніцы пані Мушанавай і іншых людзей. Пасля яе смерці знайшлі ашчаджаных 600 рублёў. Няшчасная толькі была, што праз увесь час побыту ў Краснаярску не спавядалася і памерла таксама без споведзі, гнявалася на мяне, што пасля вяртання майго ў край рэдка да яе пісала.

Паколькі панства перабіралася ў Благавешчанск, дзе пан Банін меў атрымаць пасаду губернатара, я мусіла шукаць іншае месца, бо не хацела ехаць з імі і што раз аддаляцца ад любімай Бацькаўшчыны. Пасля расстання з імі я паехала ў Іркуцк, каб пабачыцца з сястрой Антанінай. Любімая Антося па дарозе ў Сібір знайшла вернага таварыша сваёй долі і нядолі ў асобе пана Эдварда Лазоўскага.

Што гэта за сціплая была падрыхтоўка да ўрачыстага абраду зашлюбін. Панна маладая спякла булачку для таварышаў і ўзялася за мыццё і шмараванне бруднай этапнай хаткі, дзе мела адбыцца "выгнанскае вяселле". І што за нечаканка! Ксёндз прыбыў раней, чым на яго спадзяваліся, а маладая "гаспажа" з хвалявання рады сабе даць не магла. Без пышнасці, без шлюбных картэджаў, без кветак і яркіх агнёў дабраславіў слуга Божы двух верных яму дзетак.

Падарожжа да Іркуцка было вельмі нязручнае, я ехала з Краснаярска з нейкім Сасноўскім, казацкім есаулам, старым кавалерам, вялікім грубіянам. Па дарозе мы затрымаліся на нейкай паштовай станцыі, дзе нават парадачнага прытулку не было, адзін дрэнны пакой з выбітым акном, холадна жудасна, спала не распранаючыся, а хутчэй толькі драмала, бо да кампаніі есаулу прыйшоў даглядчык пошты, пілі, елі і смяліся гэтыя паны. У дадатак даглядчык быў брухамоўцам і хваліўся гэтым перад сваім таварышам. Што гэта была за непрыемная размова. Назаўтра мы спыніліся ў горадзе Канску, а даведаўшыся, што там ёсць адна польская сям'я, падалася да іх, просячы пераначаваць. Вельмі гасцінна мяне прынялі, сам пан Н. паехаў паразмаўляць і разлічыцца з есаулам. У той жа дзень дапамаглі мне гэтыя паны ў адшуканні новага таварыша падарожжа, быў гэта нейкі гандляр з Уладзівастока, падобна, яўрэй, які перайшоў у праваслаўе, неканкрэтная асоба. Па дарозе забіраў ён нейкія тавары, якія абцяжарвалі сані, я баялася, ці гэта не золата, потым прыняў у свае сані нейкай падазронай знешнасці чалавека, словам пачало мяне гэта ўсё непакоіць, і я вырашыла пры першай магчымасці з ім расстацца. У адным сяле пасля вельмі небяспечнай пераправы цераз раку, цэлы тыдзень мусілі чакаць пакуль дарога не ўсталюецца. Я размясцілася ў аднаго вяскоўца, у якога дома жанчыны былі прыветлівыя, а домік чысцюткі, а таварыш мой спыніўся ў заездзе. Пасля тыдня чакання рэкі сталі, мы выправіліся ў падарожжа і затрымаліся ў паштовым заездзе. Там я знайшла нейкага адстаўнога афіцэра з жонкай, якія ехалі ў Іркуцк, і прасіла надалей прыняць мяне ў іхняе таварыства. Калі яны на тое згадзіліся, пераканала майго гандляра, што яму больш выгадна будзе ехаць з якім мужчынам, заплаціла, што належала і паехала далей у новым таварыстве.

Што за радасць была пры сустрэчы з любімай Антосяй, яе шаноўным мужам і малымі дзеткамі. Найстарэйшая дачушка Маня мела гадоў 6, малодшая Ядвіня - 4, а наймалодшы Стась яшчэ хадзіць не ўмеў. Пазнаёмілася там з прыяцелем Лазоўскіх, шаноўным іркуцкім пробашчам, ксендзам Янам Швярніцкім і з іншымі палякамі, якія там жылі.

Лазоўскія вельмі хацелі, каб яў іх засталася, але я ўжо мела дамоўленае месца ў панства Корзунаў у Табольскай губерні і пастанавіла прыбліжацца да радзімы, а не аддаляцца ад яе. Шмат на маё такое рашэнне паўплывала пані Траханоўская, але расстанне з сястрой і яе слёзы пры развітанні, смутак шаноўнага любімага швагра, не пачутыя мной настойлівыя ўгаворы ксендза Швярніцкага ёсць для мяне назаўсёды балючым успамінам. Бедны мой швагер! Пры сустрэчы са мной праз пару гадоў у Смаленскай губерні ў маёнтку Вянзноўцы сказаў мне:

- Пачаткам нашых няшчасцяў быў твой выезд з Іркуцка.

Адно магу сказаць на маё апраўданне, што Лазоўскія, бачачы мае цвёрдае рашэнне, завагаліся ва ўгаворах і паказвалі награную абыякавасць, што канчаткова паўплывала на маё рашэнне, што да Траханоўскай, то яна ўласна мела на мэце інтэрас, бо п. Корзун была пляменніцай п. Альфонса Паклеўскага, слаўнага народнага дабрачынца, магната, які варочаў мільёнамі ў Сібіры, таму пані Тэкля думала, што, будучы ў Корзунаў, я пазнаёмлюся з панам Паклеўскім і выпрашу для яе значную суму. Пакрыўдзілася аднак на мяне, бо я была перакананая, што яна мае больш грошай, чым патрэбна, а зрэшты я не мела адвагі каго-небудзь пра што-небудзь прасіць.

Вялікі смутак агарнуў мяне пры выездзе з Іркуцка, але не магла адважыцца ехаць 2000 вёрст далей на Алакму, куды мусілі ехаць Лазоўскія. Швагер стараўся знайсці для мяне нейкае лепшае таварыства, што яму ўдалося. З ваколіц ракі Лены ехаў нейкі малады афіцэр, адстаўны кавалерыст, які быў жанаты з дачкой генерала ў Пецярбургу і загадваў прыіскамі ў нейкага магната золатапрамыслоўца. Ехалі мы хутка без затрымак і адно толькі мелі здарэнне, якое не мела, дзякуючы Богу, ніякіх кепскіх вынікаў. Едучы адной ночы доўгай Іркуцкай тайгой, дзе не было відаць ніякага чалавечага жылля, мы размаўлялі пра розніцу выхавання жанчын у Польшчы і Расіі; афіцэр ставіў на многа вышэй спецыяльную адукацыю поляк, чым сваіх землячак. Мы былі вельмі занятыя той размовай як заўважылі бегшага да нас чалавека, які ўскочыў у сані. Афіцэр закрычаў:

- Хто ты і чаго хочаш? - выхапіў пісталет і, не

атрымаўшы адказу, хацеў страляць. Я, уражаная, стрымала яго руку, тут двое нейкіх людзей хапаюць за ногі гэтага чалавека і цягнуць яго па снезе. Аказалася, што гэта быў нейкі "падрадчык", дастаўшчык, які пакрыўдзіў нанятых людзей, а тыя хацелі яго пабіць ці забіць, таму ён шукаў ратунку ў праезджых, кінуўся ў нашы сані і амаль жыццём за гэта не заплаціў. Мы былі вельмі задаволены, што ад нас ён пайшоў цэлым. Афіцэр разважаў над тым, што б было, каб ён яго застрэліў. Ехаў ён у Пецярбург з важным для золатапрамыслоўца і сябе інтэрасам, а быў бы затрыманы, суджаны, страціў бы пасаду, абяздоліў бы жонку і г.д. Таму дзякаваў Богу і мне, што ўтрымала яго ад забойства чалавека. Быў гэта малады чалавек, той шаноўны афіцэр, ветлівы, адукаваны, добра думаў, а да таго найвыдатна размаўляў па-французску.

Вельмі хутка мы аказаліся ў Краснаярску, бо толькі праз шэсць дзён дарогі. Таварыш мой паехаў далей, а я затрымалася ў п. Тэклі Траханоўскай і пасля некалькіх дзён адпачынку мелася выехаць да пп. Корзунаў у Табольскую губерню. Жонка прамыслоўца, ехаўшага з Енісейскай Тайгі, якая, можа, хацела мяне за настаўніцу для сваёй дачкі, даведаўшыся цяпер пра мой выезд, прыбыла ў Краснаярск са сваім 12-гадовым сынам, просячы, каб завезла яго ў Томск да сваякоў, якія меліся памясціць яго ў гімназію, на што я ахвотна і бясплатна згадзілася. Панна Тэкля вельмі перажывала ад расстання са мной, яна старалася сабраць нейкую суму, каб выехаць са мной; дастала нават у доктара Віланеўскага і багатага купца Кузняцова на тую мэту грошы, але гэтага было недастаткова на ўсё падарожжа ў Варшаву і на пачатковае жыццё там, а ўлічыўшы, што я яшчэ Сібіры пакінуць не магла і была зрэшты сталай апекай для яе, змушана была бедалага застацца на месцы. У палове снежня ваыехала я з маім малым таварышам наёмнымі коньмі ці так званай вольнай поштай. Па сібірскіх вёсках мужыкі маюць для падарожных падрыхтаваныя коні, сустракаюць падарожных, наймаюцца таней, чым на пошце, а вязуць так жа хутка. Я дамовілася з фурманам, каб давёз мяне да пошты, не хочучы затрымлівацца ў заездах, з-за боязні, каб не трапіць на дом разбойнікаў, тым больш, што за таварыша падарожжа мела 12-гадовага абаронца. Едучы хутка, мы наблізіліся да першага сяла за Краснаярскам, цёмна ўжо было на свеце, я адразу заўважыла, што фурман мінае пошту і надзвычай хутка вязе нас недзе інačай, я пачала крычаць на яго, але ён мне нічога не адказваў, зусім быццам не чуў; ляціць далей, аж нарэшце затрымлівaецца перад нейкай хатай і нічога не гаворачы здымае рэчы з саней. З хаты выходзяць некалькі барадатых мужыкоў і ўносяць нашыя пакункі ў хату. Мы праходзім праз вялікі пакой, поўны моцных мужчын, у другі меншы пакойчык, у якім нас памясцілі. Спыталі, ці хочам гарбаты, я за яе падзякавала, а мой малады таварыш, сплаканы пасля развітання і змучаны дарогай заснуў адразу на прыгатаванай на зямлі пасцелі. Я заснуць не магла, пастаянна думала, што нас гэтай ноччу заб'юць, таму рыхтавалася да смерці, горача малілася Пану Богу, адчытала 15 таямніц ружанца, які падаравала мне яшчэ ў астрозе мая віленская цётка марыявітка, Ганна Табенская; пасля пажару кляштара ў Порыве знайшлі яе спаленай пад дзвярыма прэлажонай разам з дзвюмя манахінямі, сястрой Барбарай і сястрой Калюмбай. Пасля ўсіх тых малітваў, пастаянна чакаючы прыбыцця разбойнікаў, змучаная заснула. Не ведаю, як доўга так спала, разбудзіў мяне ўваход мужыка са святлом і яго вокліч:

- Уставайце! Чацвёртая гадзіна, пара ехаць! - Усё было ўжо падрыхтавана: вада для мыцця, самавар, які блішчаў, як золата, малако да гарбаты і адборныя калачы. Мы падсілкаваліся і вырушылі ў дарогу, дзякуючы Богу, што нам яшчэ жыць дазволіў. Назаўтра мы спыніліся ў горадзе Каінску, дзе жыў доктар Старагродскі з сям'ёю, мае знаёмыя з Томска; сям'я доктара сардэчна нас прыняла, дапамаглі купіць кашму на ногі, якой мы накрывалі сабе ногі, як лямцавай коўдрай, едучы на санях. Я мела цяпер уласны экіпаж, бо на першай паштовай станцыі за Краснаярскам купіла сані за 7 рас. рублёў. Цэлыя суткі мы прабылі ў доктара Старагродскага: частавалі нас адборнай смятанай са свежым тварагом, чаму дзеці асабліва радаваліся. Калі я запытала пані Старагродскую, ці гэта здорава для дзяцей, адказала: "Няхай ядуць, колькі і што хочуць, пакуль я жывая". Маладая гэтая кабета памерла неўзабаве, пакінуўшы чацвёра дзяцей, з якіх дачку Ядвігу і сына Мечыслава я бачыла пазней у Смаленску ў іхняй цёткі пані Плахецкай.

Прыехаўшы шчаслівa ў Томск, заехала найперш да сваякоў ехаўшага са мной хлопчыка, пакінула яго ў іх, а сама паехала да Люці з Пацалаеўскіх Ажэшка, маёй былой выхаванкі. Затрымалася ў яе на пару дзён, была некалькі разоў у любімым касцёліку, дзе перад тым на працягу 6 гадоў майго побыту ў Томску шмат пацехі для душы атрымала; бачылася са знаёмымі і пакінула Томск назаўжды!

Выехала зноў уласным экіпажам і на першай паштовай станцыі сустрэла двух паноў, якія ехалі ў Пецярбург. Адзін з іх быў, здаецца, генерал Іваноў, а другі - ураднік для спецыяльных даручэнняў ці таксама даверaная асоба нейкага магната з Сібіры. Абое - людзі інтэлігентныя і шаноўныя, аказалі мне дапамогу з наёмам коней, бо мы ехалі ў адзін бок; абавязалі мяне таксама, каб на станцыях не казала асобна падаваць для сябе самавар, а піла гарбату разам з імі, на што я ахвотна згадзілася, бо размова з тымі панамі прыносіла мне сапраўдную прыемнасць. Былі яны знаёмыя з нашай літаратурай, многа чыталі, а цывільны пан ведаў нават пару вершаў нашага Адама Міцкевіча. Чакаючы на станцыі на коней я мела вельмі прыкрую сустрэчу. Вось жа едучы некалі ўжо перад тым у Іркуцк затрымалася для змены пошты. Чакала таксама на коней нейкае панства, маладая сям'я. Марскі афіцэр з Уладзівастока, малады бландзін, прыстойны паручнік і яго жонка, якая не мела поўных 16 гадоў. Я пазнаёмілася з імі і праз увесь час чакання на коней з імі размаўляла. З усёй шчырасцю апавядаў мне той малады чалавек, што ажаніўся па каханні з паненкай, якая скончыла навуку ў прыватным

пансіёне, і вязе цяпер сваю жонку да яго маці, абывацелькі Кастрамской губерні з просьбай, каб занялася яе выхаваннем, якое дагэтуль ёсць ніякім. Бо пансіён ва Уладзівастоку, як казаў, нічога не варты, ніякіх паняццяў пра грамадскае жыццё, пра навуку не дае. Таму едзе да маці, якая яго вельмі любіць і ёсць вялікай высакароднасці жанчына, таму не адмовіць просьбе сына. Відаць было, што маладая сям'я, толькі месяц назад злучаная шлюбнымі вузламі, была моцна закаханая; ён яе абдымаў, апранаў, вельмі цешыўся, як дзіця з цацкай.

Цяпер ізноў на станцыі сустрэла гэтую маладую асобу, ужо ўдаву! Сказала яна мне, што едучы з Уладзівастока ў Кастраму мелі сціплыя на дарогу грошы, таму муж мусіў прадаць сваё футра, а тут схапіла іх марозная зіма, што празяб яе бедны муж, захварэў у Табольскай губерні і памёр ад чорнай воспы! Маладая няшчасная жонка не мела грошай на пахаванне мужа, не мела з чаго жыць. Можа, высланыя ад маці грошы былі ў дарозе, але цяперашняе становішча маладой удавы было жудаснае. Я распавяла пра той спутны выпадак таварышам падарожжа; яны далі мне 25 рас. руб. з просьбай, каб уручыла іх беднай удаве. Я зрабіла гэта і развіталася з няшчаснай, але яна з намовы атачаўшых яе людзей прыйшла да ад'язджаўшых, каб ім падзякаваць; паны сабе таго не хацелі б, баючыся заражэння хваробай.

У далейшай нашай дарозе выпаў з маіх саней, дзіравых у нагах, абраз, вельмі дарагі для генерала, бо дадзены быў яму з дабраславеннем у дзень шлюбу. Генерал вельмі тым засмуціўся, таму мы выслалі адразу пасланца з абяцаннем узнагароды, калі прынясе назад згубу, што і сталася.

У Омску на пошце я развіталася з шаноўнымі таварышамі падарожжа і, узяўшы дрожкі, паехала да генерала Расетэра, паводля дадзенага мне паняй Корзун рэкамендацыі. Пані генеральша была з дому графіня Корф, пан генерал быў інтэндантам у Омску, абое найвысакароднейшыя людзі, найлепшыя каталікі; у кожным горадзе, дзе асядалі, былі дабрадзеямі касцёла. Будучы ў Омску разам з панам Альфонсам Паклеўскім, цывілізатарам Заходняй Сібіры, які за фундамент асветы прызнаваў рэлігію, спрычыніўся да прабудовы нашых касцёлаў і святынь іншых вызнанняў, і панства Расетэр, пан генерал-губернатар Хрушчоў, а пасля яго генерал-губернатар Дугамель спрычыніліся да пабудовы і ўпрыгожання касцёла ў Омску. Усе яны сардэчна прынялі сасланага ў Сібір перад паўстаннем 1863 г. маладога каплана, інтэлегентнага чалавека, з сэрцам, якое гарэла любоўю да Бога і бліжняга, каплана, які клапаціўся пра славу Бога. Той верны слуга Хрыста, кс. Валеры Грамадскі, цяпер пробашч томскі, выказваў патрэбы касцёла, а высакародныя, названыя вышэй, паны ахвотна іх залагоджвалі. Выклікалі яны таксама мастакоў айчынных і замежных для аздаблення Божай святыні, у чым ім слава і падзяка. Вось жа, калі я прыбыла да панства Расетэр, пані генеральша прыняла мяне ветліва і радзіла, каб далей я ехала з маімі таварышамі, бо лепшых не знайду, а адной ехаць небяспечна, а пры тым панства Корзун ўжо два месяцы чакае майго прыезду. Выслала адразу лакея да тых паноў, просячы затрымацца яшчэ на пару гадзін, забяспечыла мяне правізіяй на дарогу, дала пасылачкі і рэкамендацыі для пані Корзун і потым адразу адправіла мяне з Омска. Пасля некалькідзённай дарогі я аказалася ў Падуні ў доме п. Уладзіслава Корзуна. Быў тут галоўны ў Заходняй Сібіры бровар п. Альфонса Паклеўскага, а загадчыкам гэтага завода быў п. Уладзіслаў Корзун, жанаты з дачкой Вінцэнта Паклеўскага і пляменніцай п. Альфонса. Пан Корзун быў інжынерам па адукацыі і як такі, і пры тым падпалкоўнік - меў пасаду ў Астрахані; але жонка сумавала па радзімых краях, мусіў пайсці ў адстаўку, а потым прыняць пасаду загадчыка на бровары п. Альфонса Паклеўскага. Быў гэта чалавек парадачны, разумны, інтэлегентны, добра выхаваны, паўсюль любімы і шанаваны. Жонка яго пані Анета, выхаваная сваёй цёткай, жанчынай з мужчынскім характарам, укладам і прывычкамі, была дакладнай копіяй сваёй цёткі, розум хуткі, сэрца залатое, характар шляхетны, але дзікасць ва ўчынках. Дзеці, Ядвіня і Вітольдак, разумныя, да навукі ахвотныя і здольныя, вельмі мне падабаліся.

Усё атачэнне ж складалася з нікчэмных нахлебнікаў. Былі Ў Падуні тры браты Шаневічы, якія займалі пасады афіцыялістаў: Фларыян, Фелікс і Францішак, жанаты з сястрой прыяцеля панства Корзунаў, чыноўніка па асобых даручэннях пры егамосці губернатары ў Омску. Пані Францішчыха была нахлебніцай і любіўшай плёткі кабетай, кпіла яна з мяне, высмейвала і дзяцей супраць мяне кепска настройвала. Пані Анеце я адразу не спадабалася; яна кабета эмансіпаваная, апранутая па-мужчынску, валасы кароткія, шапачка на галаве, жалезная палачка ў руцэ, жанчын старога, як гаварыла, пакрою пераносіць не магла. Папярэдніца мая, панна Юзэфа, была маладая, прыстойная і эмансіпаваная, усім Шаневічам падабалася. Але я не мела тых прыкідаў і не смелая з натуры ўпала духам, засумнявалася ў сабе і сваёй адукацыі, адным словам прыдурэла. Дзеці аднак пачалі ў навуках паспяваць. Ядвіня сказала маці, што пры мне за два месяцы больш даведалася, чым пры панне Юзэфе за цэлы год. Праца з маімі выхаванцамі і прагулкі з імі былі для мяне найвялікшай прыемнасцю; але ў таварыстве, пра якое ведала, што яно мне не спрыяла, знайсці сабе месца я не ўмела. Трэба было ні на што не зважаць, энергічней паступаць, не таіцца, як я, што ўжо ўласнага ценю баялася. Мінула зіма і вясна, насталі вакацыі, на якіх пастаянна былі госці, то кузіны пані Корзун, то зноў нейкія знаёмыя чыноўнікі акцызу і іншыя; потым прыехалі паны Расетэры.

Калі кузіны ад'ехалі, у доме прыціхла, але я не супакоілася. За 700 вёрст ад Падуня быў у нейкай вёсцы, высланы з маёй сястрой шаноўны фурман і селянін майго нябожчыка бацькі Юзаф Ляпеша. Я напісала яму, што намерана выехаць з Сібіры. Пасля атрымання майго ліста ён прыехаў у Падань, каб са мной развітацца. Я прасіла пана Уладзіслава Корзуна, каб пакінуў яго ў сябе, на што ён ахвотна згадзіўся, разгледзеўшы ў Ляпешы парадачнага чалавека. Калі пазней я спазнала нейкія

непрыемнасці і не захацела там жыць, я папрасіла пані Расетэр, каб была ласкавая паведаміць панам Корзунам, што я мушу, ад іх выехаць. Сталася, як я хацела, паны Корзуны не ўгаворвалі мяне застацца, але абое былі журботныя і засмучаныя. Пан Корзун даў мне каня да Цюмені, а за праваднiка шаноўнага Юзафа Ляпешу. Выехала на пачатку верасня. Чамадан мела пры сабе, а куфар, у якім былі кніжкі, ноты і бялізна, быў прывязаны ззаду тарантаса. Ехалі мы хутка, раптам Юзаф, які сядзеў з фурманам, пачуўшы нейкі стук, выскачыў з тарантаса з рэвальверам у руцэ і ўбачыў, што шнуры, якія прытрымлівалі куфар разрэзаны і куфар на зямлі. Мы ўзялі куфар у тарантас і паехалі далей, не ўбачыўшы нават злодзея, бо напэўна схаваўся недзе ў рове. Я была ўдзячная пану Корзуну, што даў мне шаноўнага Ляпешу за праваднiка, і з таго часу шкадую, што не патрафіла пагадзіцца з акалічнасцямі і не засталася ў іх даўжэй, бачачы, што дзеці ў навуках паспяваюць. Калі б не пастаянны смутак на душы і не туга па краі, можа б гэтага не зрабіла. Паны Корзуны выслалі дзяцей у Рыгу на выхаванне, самі, хоць яшчэ не старыя людзі, памерлі, спачатку пані Анета, а пазней яе муж Уладзіслаў. Ляпеша, які быў пры іх смерці, гаварыў, што пані Анета хацела спавядацца, але ксендза не было; пан Уладзіслаў памёр раптоўнай смерцю ад анеўрызму, ужо перакананы ў нешляхетнасці і інтрыгах Шаневічаў. Памерлі яны абое ў Падуні, а пахаваны былі ў Таліцы ў фамільным магільніку пп. Паклеўскіх у Пермскай губерні. Пан Адам Паклеўскі быў дабрадзеем Падуня, які засялялі спачатку дзікімі, паходзіўшымі з разбойнікаў, пасяленцамі, а пазней ён стаў месцам жыхарства найвыдатнейшых людзей; Падунь стаў вялікім сялом, жыхары яго мужчыны знайходзілі заробак на бровары п. Альфонса, жанчыы займаліся гаспадаркай і гандлем; знайшліся самыя разнастайныя рамесніцы; заквітнела кемлівасць, а з ёй пачала святлець парадачнасць. Я не раз чула, як тамтэйшы люд дабраслаўляў свайго дабрадзея, як з удзячнасцю прамаўляў яго прозвішча, як яго расхвальваў. Вітольд Корзун, мой вучань, надзвычайных здольнасцяў юнак, памёр пасля заканчэння вучобы; сястра яго Ядвіня вучылася далей ва ўніверсітэце ў Швейцарыі. Таленавітая, высока адукаваная, з залатым сэрцам, любімая ўсімі сваякамі па бацьку і па маці.

### XI

Маючы пасля маніфеста ў 1876 г. права пакінуць Сібір, я адразу скарысталася з дазволу і, едучы ў Смаленскую губерню, заскочыла ў родны край, у любімую Вільню.

У Вільні пры моцным старанні с.п. Аўрэліі Герман я атрымала дазвол затрымацца толькі на адзін тыдзень. Прабыла гэты час у найвысакароднейшай маёй кузіны Юліі Прыбыткі, якая жыла на Зарэччы, была ў п. Аўрэліі Герман, у графіні Наталіі д'Густ дэ Кондрай, у п. Паўліны Прыбыльскай і ў іншых прыязных асоб; склала аднак найперш падзякуБогу і Маці Божай Вастрабрамскай за міласэрдзе нада мной, за ласку, што бачу любімую Айчыну. Аблівалася гаручымі слязамі радасці і ўдзячнасці да Бога…, аплаквала смерць дарагіх людзей з сям'і, сваякоў, і прыяцеляў, і тых, хто прыняў пакутніцкую смерць у Вільні на Лукішках і ў іншых мясцовасцях нашага краю… Найвысакароднейшая прыяцелька мая п. Эвеліна Асціловіч, якая пры няшчасным выездзе з Вільні да апошняй хвілі не пакідала мяне, а цяпер была амаль неадлучная. Атрыманых пачуццяў і ўражанняў не здольна я апісаць; ведаю толькі, што радасныя злучаліся з найсмутнейшымі. Не хапала мне найлепшага бацькі, дзядзькі Тадэвуша Навіцкага, брата Цыпрыяна, сястры Эміліі Урублеўскай, стольких людзей прыязных і кроўных, не хапала мне шчасця Айчыны. Тыдзень хутка мінуў, паліцыя загадала мне выязджаць. Дабралася чыгункай да станцыі Араны, а адтуль нанятым возам да пп. Тараевічаў. Позна ўжо трохі было, а мы ехалі лесам, дарога кепская, гразкая, ненадзейная. Нарэшце ўбачылі з чалавекам, які мяне вёз, нейкае святло; быў гэта ўжо дом паноў Тараевічаў, да якіх мы дабіраліся. Сабакі загаўкалі, мы заехалі пад ганак; выйшла служка правяла мяне ў вітальню, дзе ўжо быў пан Тараевіч, зацікаўлены прыбыццем незнаёмай нечаканай падарожніцы. Я, бачачы тое, смела сказала:

- Прыехала з далёкіх краёў, прашу начлегу. Я - Табенская.

На тыя словы выбегла схаваная за дзвярыма п. Тараевіч і кінулася мне ў абдымкі.

- Пані - панна Альжбета Табенская?

- Так, пані.

О, як жа яна мяне чулліва абдымала, не маглі гаварыць, абедзве плакалі. Пані Тараевіч мяне даўней не ведала, толькі сястру маю Антаніну Лазоўскую. Пляменніца пані Тараевіч панна Браніслава Прабароўская, міленькая паненка, занялася гарбатай, арганізацыяй начлегу для мяне. Ноччу мы доўга размаўлялі, я сказала, што надоўга ў іх затрымацца не магу і прашу коней на заўтра; бо я кіравалася да майго брата, які жыў у фальварку Рудаў, дзе я правяла апошнія хвіліны перад арыштам, і хацела чым найхутчэй абняць пазасталую пасля дарагой сястры Эміліі сям'ю. Пры тым баялася парушыць дазвол. Назаўтра п. Браніслава першая вычэквала майго абуджэння і першая мяне прывітала; я хутка апранулася і пасля кароткай малітвы ўсе селі за снеданне. Я даведалася пра смутную долю землеўладальнікаў у нашых краях, пра кантрыбуцыі, праследы, пра цяжкасці з выхаваннем дзяцей, пра пазачыненыя касцёлы, пра ніякую надзею на будучыню. Смутак напоўніў мне душу… Мы з паняй Тараевіч плакалі, панна Браніслалава старалася перапыніць нашую смутную размову, пачала гаварыць пра таварыства паненак па суседстве, што маюць часопісы і газеты, дастаўляюць кніжкі і часопісы для чытання і г.д., гэта робіць іхняе жыццё трохі featured разнабаковым. Вялікі недахоп моладзі мужчынскага полу, ніякіх забаў, смутна, нудна ў краі, як пасля пахавання. Трынаццаць гадоў сплыло ад паўстання, а раны, нанесеныя грамадству, яшчэ не загаіліся. Распавядалі мне, што не было дома, дзе б некага з сям'і не бракавала. Насельніцтва зменшылася, парадзела: то ў паўстанні,

то на выгнанні смерць рознымі спосабамі забірала свае ахвяры; з дзяцей Польскай зямлі; тыя, што засталіся енчылі ў кайданах няволі. Па школах загадалі вучыць рэлігіі па-расійску, польска мова была забаронена, ксяндзы сасланыя на выгнанне, касцёлы пазачынены, паніштчаны, пазняважаны, прыстасаваны пад розны ўжытак: як казармы, свірны. Вораг-прыгнятальнік усё патрафіў знішчыць, а прыйдзе ўсё ж час, калі будзе павінен здаць справаздачу са свайго валадарства, адказаць за пралітую кроў, за збуранае шчасце сямей, за ўсе пакуты і катаванні.

Пасля абеду я развіталася з высакароднымі панамі Тараевічамі і паехала дп паноў Квінтаў, даўніх прыяцеляў і суседзяў нашых сваякоў. Жылі яны ў адным з маёнткаў гр. Патоцкіх, змарнаваным цяпер іхнім спадчыннікам Аўгустам Патоцкім. Застала ўжо толькі дачок пп. Квінтаў, яны самі абое памерлі. Змены людзей, месцаў і побыту былі да непазнання. Ад паннаў Квінтаў выехала ў Рудаў, але даведаўшыся, што па дарозе ў Забалаці жыве стары кс. Рачыньскі, затрымалася, каб яго адведаць. Прыняў мяне прыветліва, як выгнанку, прыбыўшую з далёкіх краёў; падзякавала яму за ўдзяленне святых алеяў майму паміраўшаму бацьку. Запозна выкліканы не мог ужо ксёндз яго спавядаць, а толькі надзяліў канаўшага старога святымі алеямі. Кс Рачыньскі жыў у той час у Васілішскай парафіі, дзе перад паўстаннем на працягу 30 гадоў быў пробашчам кс. Ануфры Сыльвід. Потым перабраўся ў Забалаць, дзе наймаў памяшканне пры плябаніі і нядаўна памёр, маючы 90 гадоў. Быў гэта экс-піяр, таварыш і прыяцель з семінарыі кс. біскупа Красінскага. Распавяла яму, як вяртаючыся з Сібіры заехала, а дакладней завярнула ў Вятку, каб пабачыцца з маім братам кс. Мечыславам Табенскім, які быў хатнім капеланам кс. біскупа, быўшага ў Вятцы. Расказала, як ласкава кс. біскуп мяне прыняў, як мне апавядаў пра сваю тугу, пра заняткі садаводствам, кветкамі, канарэйкамі, у чым шукаў і не мог знайсці ўцехі і забыцця. Расплакаўся стары кс. Рачынскі, слухаючы гэтае маё апавяданне; асабліва быў узрушаны, калі яму распавяла, як у дзень майго выезду пасля св. імшы, той біскуп пакутнік дабраславіў мяне на далейшае падарожжа і на далейшае жыццё.

Адведала ў Забалаці на могілках магілу шаноўнага майго дзеда Алойзага Табенскага, дзядзькі Фелікса, пахаванне ўсёй сям'і Араноўскіх, якія сябравалі з маімі сваякамі, ані аднаго чалавека з гэтай іхняй шматлікай сям'і не засталося, магілы ўсіх узвышаюцца на гэтых могілках.

Развіталася з ксендзам Рачыньскім і Забалаццю і рушыла далей. Заехала ў маёнтачак Варонічы, які знаходзіўся за некалькі вёрст, дзе жыла ўдава з Нарбутаў Зофія Жураўская, дачка Нікадэма Нарбута. Бацька пані Зофіі ўфундаваў у Заблоцкай парафіі малы драўляны касцёлік, у якім на вялікія святы і ўрачыстасці Божай Маці адпраўляліся набажэнствы. Шмат людзей тады туды з'язджалася, як таксама і нашы родзічы са сваімі сем'ямі. Пасля касцёла мы ездзілі на абед да пп. Нарбутаў, дзе іхняя дачушка Зофія, сястра мая Эмілька і я весела забаўляліся. Памятаю, як п. Нікадэм Нарбут у касцёле перад св. імшой прагаворваў ружанец, а потым голасна гукаў: "Вытніце ў Нікадэма", бо мяне надзвычай дзівіла гэтае біццё Нікадэма, якога я сабе ўявіць не магла. П. Зофія Жураўская была першай маёй сваячкай, якую я сустрэла на радзімай зямлі. Мне можна было правесці з ёй двое сутак, шмат мы мелі для расповядаў, нажаль, смутных рэчаў.

З Вароніч адвезла яна мяне ў Васілішкі, дзе я хацела памаліцца на магілах маіх бацькоў. У дарозе адгаворвала ўголас ружанец; кузінка дэкламавала, а я здзівілася яе памяці, бо ўвесь той, з 15 таямніц складзены ружанец, умела па-старасвецку на памяць, без пропуску ніводнай з малітваў, якія ўваходзілі ў склад таго ружанца.

Смутны быў для мяне від прыгожага францішканскага, а пазьней дамініканскага касцёла ў Васілішках, перарабленага цяпер у царкву. Адведала могілкі, дзе спачывалі парэшткі маёй набожнай маці, а потым падаліся на новыя за Васілішкамі могілкі, на якіх быў пахаваны мой бацька. Паплакалі абедзве на яго магіле і адмаліліся сардэчна за яго і за ўсіх, а асабліва за тых, хто развітаўся з жыццём пасля майго выезду.

Васілішскія яўрэі са здзіўленнем і прыязнасцю, а разам і з сумнымі ўспамінамі пра мінулае мяне прывіталі. Усё змянілася ў Васілішках, бо нішчыцелям дабрабыту ў іхняй справе яшчэ і пажар дапамог.

З Васілішак паехала ў Рудаў, дзе ўжо не сустрэў мяне любы бацька, не загаўкаў на прывітанне наш стары сабака Даскор; усё было новае ў тым доме. Непрыязнь панавала паміж маімі братамі, судзіліся паміж сабой. Від той іхняй нязгоды быў ударам для сэрца майго. Не доўга пабыла ў Рудаве і падалася ў Ліду, дзе бачыла для сябе зычлівую сям'ю пана Віталіса Яноўскага, далёкіх, але сэрцу майму блізкіх сваякоў, п. Валераву Юзэфу з Гумбарэвічаў Нарбут, Зыгмунта Урублеўскага, майго швагра, і яго дочак, сірот па Эмільцы, маёй сястры, у якой мяне арыштавалі і якая так перажывала маю ссылку.

Была ў касцёле, у якім у час дэманстрацыі мы так урачыста спявалі "Божа, што ж Польшча". Не было ўжо ў тым касцёле кс. дэкана Хлявінскага, пазбавілі яго таго дэканства і выслалі ў малую парафію Асаву. Змены ў грамадстве былі велізарныя; едучы ў Ліду, я заўважала маёнткі, заселеныя зусім новымі ўладальнікамі; заехала пад ганак даўніх маіх знаёмых пп. Бердаўскіх, а тут выходзіць служка і гаворыць, што ўладальнікі маёнтка нейкія расейцы, што ранейшая пані жыве ў афіцыне, а пан высланы ў Сібір. Пані Бердаўская ад цяперашняга ўладальніка ў арэндзе трымае свой маёнтачак. Правяла мяне пасля тых тлумачэнняў у сціплы пакойчык і пайшла па паню. Праз кароткі час у пакой увайшла п. Валерыя з Александровічаў Бердаўская, і я не пазнала яе. Пакідала яе маладой элегантнай, а цяпер мела перад сабой нейкую постаць, загорнутую ў нейкі шырокі шляфрок, у цёплай хустцы на галаве. Прыйшла са стадолы, дзе сама наглядала за малацьбітамі.

*(Заканчэнне ў наступым нумары.)*

# Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу

У Менску ў выдавецтве "Белару
выйшлі кнігі “Генацыд беларускага народ
Кніга 1, 176 ст., наклад 1500 асобні
Кніга 2, 336 ст., наклад 3000 асобні










У Менску ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшаў 19-ты том збору твораў Уладзіміра Караткевіча, 368 ст. Наклад - 800 асобнікаў.




У Менску ў выдавецтве "Беларуская навука" выйшла кніга Алеся Марціновіча "Гісторыя праз лёсы”, Т. 6. 336 ст. Наклад - 700 асобнікаў.




У сеціве размешчаны 9 нумар электроннага краязнаўчага гістарычна-літа-ратурнага часопіса “Нясвіжскія каеты”, 80 ст.

Часопіс можна чытаць на сайтах: nslowa.by, pawet.net, kamunikat.org.




У Гародні ў выдавецтве "ЮрСаПрынт" выйшла кніга Марозавай С. В. і Марозава С. П. “Мастацкая спадчына Беларусі”. 576 с.




У Менску ў выдавецтве "Кнігазбор" выйшла кніга Івана Стадуба “Родавыя карані”, 132 ст. Наклад - 100 асобнікаў.




***Алесь Судар. Над возерам.*** *Акварэль, 2018 г.*



***Алесь Судар. Вечар.*** *Акварэль, 2015 г.*